505

# ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ

## БЮЛЕТЭНЬ

КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР ПРЫ ЎДЗЕЛЕ БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ



№ 12-13 (72-73)

КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД

МЕНСК

1928

# ЗЬМЕСТ



## Практыка нашае працы



## На мясцох



## Нашы хібы



## Бібліяграфія



## Каапэрацыя за мяжою



## Афіцыйны аддзел

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ

ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ



## № 12-13 (72-73)

КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД

МЕНСК 1928 г.

# Асноўная ўвага збору паёў

Бягучы 1928-29-ы год павінен даць далейшы рашучы поступ у справе збору паёў ад насельніцтва ў каапэрацыйныя сыстэмы, у справе выключна моцнага павышэньня значэньня паявых сродкаў сярод іншых капіталаў.

Паступовае скарачэньне ўрадавых пазык і датацый, якія адпушчаны каапэрацыі, *з аднаго боку*, неабходнасьць энэргічнага разгортваньня дзейнасьці каапэрацыі, як у галіне таваразвароту ў мэтах замяшчэньня прыватніка, які паступова выціскаецца, у мэтах больш поўнага здаваленьня спажывецкіх патрэб рабоча-сялянскіх мас насельніцтва, якія ўсё ўзрастаюць, так і ў галіне работы па інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі, разьвіцьця яе вытворчых функцый, узмацненьня ў ёй пачаткаў калектыўных мэтадаў гаспадараньня, *з другога боку*,—усе гэтыя абставіны настойліва прымушаюць каапэрацыйныя сыстэмы раз і назаўсёды зразумець і ўжыць захады да таго, каб, пачынаючы з бягучага году, у працягу бліжэйшых двух-трох гадоў паявыя капіталы, сродкі, якія прыцягваюцца ад насельніцтва, сталі-б асноўнаю і рашучаю крыніцаю фінансаваньня ўсяе гаспадарчае дзейнасьці каапэрацыі.

Кантрольныя лічбы каапэрацыйных сыстэм, іх пляны працы на бягучы 1928-29-ы год вызначаюць гэта ўзмацненьне збору паёў ад насельніцтва.

Так, спажывецкая каапэрацыя мяркуе сабраць на працягу гэтага году па сельскім сектары паявых капіталаў у суме 2.645 руб., даёўшы сярэдня аплочаны пай на аднаго пайшчыка з 5 руб. 58 кап. да 9 руб., і па рабочым сэктары—у суме 900.000 руб., з давядзеньнем сярэдня аплочанага паю з 9 руб. 52 кап да 14 руб. 50 кап. на 1 кастрычніка 1928-29 году. Тое ж самае мы бачым і па другіх сыстэмах каапэрацыі.

Так, сельска-гаспадарчая каапэрацыя мяркуе ў працягу гэтага году сабраць паявога капіталу па ўсіх сваіх спэцыяльных відах 1.960.000 р., давёўшы сярэдня аплочаны пай у сельска-гаспадарчых крэдытных т-вах з 6 руб. 60 кап. да 8 руб. і ў малочных—з 3 руб. 30 кап. да 4 руб. з кожнае каровы.

Тое-ж запраэктаваньне мы чакаем і ў саматужна-прамысловай каапэрацыі.

Гэтыя лічбы, гэтыя задачы, якія каапэрацыйныя сыстэмы паставілі перад сабою ў галіне збору паёў на бягучы гаспадарчы год, абавязваюць усе каапэрацыйныя сыстэмы да такога-ж рашучага ажыцьцяўленьня гэтых задач у жыцьці.

Мала, вельмі мала скласьці добры і прыгожы плян—мы ўсе пакрыху навучыліся гэта рабіць.

Значна цяжэй і важней выканаць вызначаны плян, перарабіць яго ў рэальную сапраўднасьць. І вызначаныя пляны абавязваюць каапэрацыйныя сыстэмы да таго, каб былі ўжыты ўсе захады, якія забясьпечылі-б ужо з самага пачатку году выкананьне гэтых плянаў.

Пляны гэтыя рэальныя, і мы павінны забясьпечыць іх выкананьне. Адзін месяц плянаванага гаспадарчага году мы ўжо пражылі. Але вынікі працы па зборы паёў за пражыты месяц ужо прымушаюць нас вельмі непакоіцца. Яны, гэтыя вынікі, зусім нязначныя і выклікаюць сумніва ў тым, што калі гэты кастрычнікавы тэмп будзе такім-жа і ў наступныя месяцы, дык вызначаныя пляны так і застануцца плянамі і ня будуць ажыцьцяўлёнымі.

Мы зварочваем асаблівую ўвагу на гэтыя абставіны таму, што такіх месяцаў, як кастрычнік, у нас ня дужа ўжо многа. Цэлы шэраг веснавых і летніх месяцаў з-за веснавых палявых прац, з-за адпускных кампаній, натуральна, не дазваляе як сьлед праводзіць гэтую працу.

Вось пагэтаму мы вельмі непакоімся менавіта цяпер, і вось чаму мы лічым патрэбным, каб каапэрацыйныя сыстэмы, каб кожная асобная каапэрацыйная ячэйка зараз-жа вызначыла шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па ўзмацненьні гэтае працы.

Трэба неадкладна мабілізаваць на гэтую працу ўвагу ўсяго каапэрацыйнага актыву, прыцягнуць яго да яе, разгарнуць працу сярод асобных груп пайшчыкаў, трэба ўзяць у справе збору паёў той жа тэмп, які мы мелі ў пэрыод студзеня—мая мінулага году. Тыя-ж мэтады працы, якія мы ўжывалі ў той час, трэба ўжыць і цяпер.

Трэба, каб каапэрацыйныя сыстэмы ўжылі-б у адносінах да ніжэйшых зьвенчакоў каляндарныя месячныя заданьні па паёх і ўтварылі-б дзесяцёхднёвую кантрольную праверку. У справе збору паёў павінна быць устаноўлена суровая дысцыпліна ня толькі ў сэнсе выкананьня гэтае працы, але і ў справе каляндарнае справаздачнасьці на гэтую працу.

Яшчэ адно патрэбна добра зацяміць. Мала шчыра ўзяцца за гэтую працу, нашумець, узбухторыць усё і ахаладаць праз месяц. Вельмі танна каштуе такая праца. Трэба ўмець працаваць увесь час з адным і тым-жа неаслабным тэмпам, без кампанійскіх суталак, дабіваючыся вынікаў, якія патрэбны, і дабіваючыся іх у аднэй галіне працы такім чынам, каб не паслабляліся, не цярпелі іншыя галіны, іншыя працы.

Працаваць такім чынам, не засыпаючы на працы і не хапаючыся за галаву, праспаўшы працу, павінен ўмець абавязкова кожны каапэрацыйны працаўнік, дзе-б ён ні працаваў і якую-б працу ён ні выконваў.

Ф—д

# Каапэрацыя на вёсцы

11 год існаваньня ўлады пралетарыяту стварылі магутную сетку каапэрацыйных аб'яднаньняў, якія абслугоўваюць спажывецкія, тавараабменныя і вытворчыя запатрабаваньні працоўных.

Палеткі і дарогі Беларусі, на якіх да кастрычнікавае рэвалюцыі гаспадарыў абшарнік і прыватны гандляр, цяпер творчаю воляю і самадзейнасьцю працоўных мас пакрыліся тысячаю арганізацый. Арганізоўваючы ў сваіх шэрагах сотні тысяч працоўнага насельніцтва, выхоўваючы з году ў год усё большую колькасьць сваіх напрактыкаваных і адданых каапэрацыі працаўнікоў, ствараючы што раз большыя паявыя капіталы і, нарэшце, больш павялічваючы свае гандлёвыя і вытворчыя звароты, каапэрацыя да 11-е гадавіны дасягнула вынікаў, якія, бязумоўна, гарантуюць яе далейшае разьвіцьцё, уздым гаспадарчага і культурнага ўзроўню насельніцтва, абслугоўваемага каапэрацыяй, а таксама перабудову адсталае і дробнае сялянскае гаспадаркі на падставах аграмаджанае і мэханізаванае буйнае гаспадаркі.

Спажывецкая каапэрацыя, якая першая пасьля рэвалюцыі сабрала свае шэрагі, дасягнула ў астатнія гады вялізарных вынікаў. У агульнай суме тавараў, якія прададзены ў вёсцы, удзел каапэрацыі рос з году ў год. У 1925-26 г. яна прадала 39 проц. тавараў, якія былі набыты ў вёсцы, у 1926-27 г. - 43 проц. і ў 1927-28 г.—больш за 51 проц.

У 1927-28 г. адна толькі спажывецкая каапэрацыя прадала беларускай вёсцы тавараў на суму 65 000.000 руб. Купляючы тавары ў каапэрацыі на такую вялізарную суму, сялянства ашчадзіла значную колькасьць уласных сродкаў на розьніцы цэн паміж каапэрацыяй і прыватным гандляром. Каапэрацыя, пашыраючы ўсьцяж на вёсцы сетку сваіх крам і адначасова ўзмацняючы свае ўзаемаадносіны з дзяржаўнаю прамысловасьцю, забясьпечвае насельніцтва неабходнымі таварамі па нармальных цэнах, выціскаючы ў той-жа час на рынку прыватнага гандляра разам з яго спэкуляцыйнымі цэнамі. Побач з гэтым каапэрацыя забясьпечвае таварамі вытворчасьці сельскае гаспадаркі рабочых на фабрыках, якія выпрабляюць неабходныя сялянству тавары.

Насельніцтва зразумела карысьць каапэрацыі. Усё большаю колькасьцю ўступае яно ў члены каапэрацыі. Апошнія тры гады давалі прырост членаў каапэрацыі звыш 100.000 чалавек кожны год. Да 11-га Кастрычніка колькасьць каапэраваных сельскіх гаспадарак складае больш 55 проц. да агульнае колькасьці гэтых гаспадарак. Асабліва значэньне мае тое зьявішча, што каапэрацыя апошнімі часамі ўцягнула ў свае шэрагі сем'і незаможнікаў і батракоў, забясьпечваючы ім дапамогу крэдытам на ўнясеньне паю са спэцыяльных капіталаў, які прызначаны на крэдытаваньне незаможных. Да 1 кастрычніка 1928 г. колькасьць сямей незаможных, якія каапэраваны, такім чынам дасягнула 146.000. У працягу бліжэйшых год мяркуецца каапэраваць усю сельскую беднату.

Паглыбляючы і ўзмацняючы сваю арганізацыйную і гаспадарчую сувязь з масамі сялянства, вядучы пры дапамозе сельскага актыву, які ўсё ўзрастае, грамадзкую і культурную працу, каапэрацыя за апошнія гады дасягнула значных вынікаў у справе ўцягненьня ў свае шэрагі жанчын і моладзі.

Паводле пяцёхгодкі каапэрацыя да XVI гадавіны існаваньня ўлады саветаў ахопіць усе 100 проц. бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак вёскі. Дапамогуць ёй у гэтым, як цяпер так і ў будучым, сьвядомасьць і актыўнасьць незаможнага і серадняцкага насельніцтва, якія з кожным часам узрастаюць.

Побач са спажывецкаю каапэрацыяю разьвілася і прасякла ў вясковую гушчу сыстэма вытворчае земляробчае каапэрацыі.

Крэдытная каапэрацыя, якая атрымлівае значную дапамогу ад дзяржавы, з году ў год уцягвае ў свае шэрагі ўсё новыя і новыя масы незаможнага і серадняцкага сялянства, абслугоўваючы іх крэдытам, грашыма на вытворчыя патрэбы, забясьпечваючы насельніцтва машынамі, прыладамі да зямляробства, угнаеньнем і г. д., побач з тым рэалізуючы прадукцыю сельскае гаспадаркі.

Сталы рост удзельнікаў і ўзносаў у крэдытную каапэрацыю сьведчыць пра тое, што даверлівасьць шырокіх сялянскіх мас да крэдытнае каапэрацыі ўзмацняецца. Лічба сялянскіх гаспадарак, якія ахоплены крэдытнаю каапэрацыяю, на 1 кастрычніка 1926 году складала 160.116, на 1 кастрычніка 1927 году—241.782 і ў гэтым годзе складае 270.000 гаспадарак. Крэдытная каапэрацыя, як і спажывецкая, вядзе працу каапэраваньня незаможных шляхам арганізацыі выкарыстоўваньня свайго спэцыяльнага капіталу на каапэраваньне незаможных. Роля і значэньне крэдытнай каапэрацыі ў галіне ўздыму ўзроўню і дабрабыту сельскае гаспадаркі расьце стала і відавочна. Усе віды каапэрацыі маюць на мэце разьвіцьцё паасобных спэцыяльных галін сельска-гаспадарчае вытворчасьці.

Пра пашырэньне дзейнасьці гэтага роду каапэрацыі судзіць можна з наступных лічбаў: на 1 кастрычніка 1926 году мы мелі 79 малочных і жывёлагадоўчых таварыстваў з 3.839 членамі, на 1 кастрычніка 1927 г.—156 таварыстваў з 11.331 членамі і на 1 кастрычніка 1928 году—290 малочных таварыстваў і арцеляй з 16.088 членамі і 62 жывёлагадоўчыя таварыствы з 2.761 членам.

Задача малочнае, жывёлагадоўчае і іншых спэцыяльных відаў каапэрацыі стаць як мага хутчэй шырокімі масавымі каапэрацыйнымі арганізацыямі, такімі, якімі зьяўляюцца каапэрацыі спажывецкая і крэдытная, з уцягненьнем у свае шэрагі ўсіх незаможных і серадняцкіх гаспадарак.

Спэцыяльныя аб'яднаньні: малочнае, жывёлагадоўчае, садова-гароднíцкае, машыннае, мэліорацыйнае, па распрацоўцы торпу, пчалярскае, паляўнічае, насеннаводнае, рыбаводнае, будаўнічае і саматужнае вытворчае каапэрацыі і інш. сьведчаць аб тым, што паасобныя дробныя формы сельскае гаспадаркі і перад усім сама гэтая гаспадарка, як цэлая, шукаюць шляхоў да далейшага свайго разьвіцьця ў форме чыста каапэрацыйнай, у форме аграмаджанае буйнае гаспадаркі.

Апошняе зьявішча ў нас надта ясна адбівае ўзрост калектыўных гаспадарак, земляробчых арцеляй і камун. На 1 кастрычніка 1926 году на Беларусі была 391 калектыўная гаспадарка з 5.524 сем'ямі. На 1 кастрычніка 1927 г. мы мелі 417 гаспадарак з 5.332 сем'ямі; на 1 красавіка 1928 г. быў ужо 591 калгас з 7.888 сем'ямі.

Гаспадарка савецкіх рэспублік апіраючыся выключна на ўнутраныя сілы мас, у працяг 11 год існаваньня ўлады саветаў дашла да тае ступені свайго разьвіцьця, што патрабуе пераходу да далейшага больш высокага стану.

Наогул далейшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, уздым яе тэхнікі, уздым яе прадукцыйнасьці, у галіне-ж паляводзтва—уздым ураджайнасьці і тварнасьці—павінна адбывацца шляхам стварэньня буйных аграмаджаных гаспадарак. Неабходнасьць гэтага штораз больш прасякае сьвядомасьць шырокіх незаможных і серадняцкіх сельскіх мас.

Ажыцьцяўленьне гэтага можа адбыцца толькі пры дапамозе каапэрацыі і калектыўнае працы, як навучаў нас тав. Ленін.

А. Дубіна

# Да рэарганізацыі сыстэмы сель.-гаспадарчай каапэрацыі [1])

На старонках газэты «Зьвязда“ ў ліпені м-цы г. г. тав. Аксючыцам высунута пытаньне аб рэарганізацыі сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі. Абгаварыць яго зараз было-б вельмі своячасова.

Вядомая рэч, што за апошнія гады мы маем значны рост вытворчых працэсаў сельскае гаспадаркі і таксама рост актыўнасьці сялянства, на грунце чаго мы ўжо зараз маем магчымасьць больш разгортваць нашу працу і значна больш пашырыць і паглыбіць каапэрацыйнае будаўніцтва ў БССР.

Калі гаварыць аб тым, як мы павінны будаваць спэцыяльныя віды каапэрацыі па асобных палявых культурах, ці па паасобных галінах сельскае гаспадаркі, дык, прымаючы пад увагу характар нашае гаспадаркі, мы павінны будаваць зьмешаныя формы спэцыяльных відаў каапэрацыі паводле паю, як мы ўжо зрабілі ў малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі або як трэба зрабіць з садоўніцтвам, гароднiцтвам, пчалярствам і г. д., якія трэба аб'яднаць у адну сыстэму. Мы жывём у невялічкай рэспубліцы, у нас няма буйнае спэцыяльна вытворчае культуры паляводзтва, як у другіх раёнах нашага Саюзу, як у РСФСР. Да таго ж мы маем дробныя гаспадаркі з пераважным ухілам жывёлагадоўлі які тлумачыцца большай разьвітасьцю лугаводзтва і травасеяньня, а таксама і тым, што мы маем значную колькасьць заліўных лугоў на Дняпры і Бярэзіне.

Вось чаму зусім правільна арганізаваны ў першую чаргу малочна-жывёлагадоўчы спэцыяльны саюз, як саюз, які будзе ва ўмовах Беларусі адыгрываць ролю самае таварнае гаспадаркі, здольнае да далейшага разьвіцьця пры ўмове ўмелае і правільнае пастаноўкі гэтае справы з боку Белсельсаюзу і акруговых цэнтраў. Потым будзе мець грунт і магчымасьць разьвіцьця садова-гародная каапэрацыя з уключэньнем у яе пчалярскай гаспадаркі, асабліва ў паўдзённых раёнах: у Гомельскай, Магілеўскай, Бабруйскай і Менскай акругах. Падрабязна даводзіць гэта ня трэба, бо кожнаму вядома тое багацьце, якое мы маем у галіне садоўніцтва, як вядома і тое, што частка гэтае гаспадаркі гіне на месцы, дзякуючы таму, што ў нас не наладжаны экспарт, і таму, што рэалізацыяй займаецца да гэтае пары прыватнік, асабліва, па збыце яблыкаў, грушак і іншых пладоў. Гэты від гаспадаркі, калі даць яму яшчэ загатоўку і экспарт грыбоў і калі яго арганізаваць на каапэрацыйных падставах (а гэта трэба зрабіць як можна хутчэй), павінен быць вельмі рэнтабельным і прыбытковым для каапэрацыі і дзяржавы.

Трэба толькі зараз правесьці шэраг мерапрыемстваў па арганізацыі гэтых галін у арцелі і іншыя каапэрацыйныя ячэйкі раённымі цэнтрамі па акругах. На вялікі жаль, арганізацыйная справа ў нас абстаіць вельмі дрэнна. На 1 красавіка г. г. мы мелі ўсяго па Беларусі 37 садова-гародных арцеляй, з ліку якіх 24 арцелі па Магілеўшчыне, а ў самых багатых садамі і гародамі акругах, як Гомельская і Бабруйская, іх лічыцца зусім нязначная колькасьць. Трэба больш разгарнуць гэтую працу і дабіцца арганізацыі і каапэраваньня гэтае гаспадаркі на працягу бліжэйшага часу. Гэта дасьць поўную магчымасьць арганізаваць спэцыяльныя раённыя каапэрацыйныя цэнтры для ўключэньня іх у сетку сельска-гаспадарчае каапэрацыі, ўжо як спэцыяльнага саюзу.

Адначасова з гэтым трэба таксама наладзіць экспарт, для чаго трэба наладзіць справу лепшае запакоўкі, пагрузкі на чыгунках і больш аккуратнае перасылкі за межы нашых экспартных тавараў. Трэба мець

---

[1]) У парадку абгаварэньня.

добрых спэцыялістых, якія-б кіравалі гэтай важнай справай і непасрэдна займаліся ёю. Наркамгандаль павінен аддаць гэтаму пытаньню больш увагі і не дапускаць, каб нашы экспартныя тавары, як, напрыклад, яблыкі ў мінулым годзе, прыбывалі за мяжу ў папсаваным выглядзе, што мела месца ў выніку няўмелае з пакоўкі. На гэтай нашай няўдачы спэкулявала-б замежная буржуазія і нашы ворагі. Між тым Наркамзем павінен мець сталую экспэртызу з спэцыялістых, якія павінны прысутнічаць, удзельнічаць і несці адказчасьць за якасьць запакоўкі адпраўленых за мяжу прадуктаў экспарту. Тады ня будзе тых памылак, якія перашкаджаюць нам весьці экспартны гандаль больш шырока і з большым посьпехам.

Цяпер з бульбянацёрачнай і ільнаводнай каапэрацыяй. Дзякуючы таму, што нарыхтоўка бульбы, галоўным чынам, пойдзе па лініі садова-гароднага саюзу і што бульба ў нас ідзе і будзе ісьці на нашы бровары і крухмальныя заводы, з некаторым збытам на Ленінградзкі рынак, арганізоўваць спэцыяльную бульбянацёрачную каапэрацыю няма ніякага сэнсу. Таксама немэтазгодна арганізоўваць спэцыяльны саюз ільнянное каапэрацыі. Лён, ільняное насеньне і пянька павінны нарыхтоўвацца першапачатковай сеткай сельск. гасп. каапэрацыі (крэдытнымі т-вамі) тым апаратам, які ўжо прыстасаваны да гэтае справы, тым больш, што мы сёлета будуем два заводы для пераапрацоўкі ільну-валакна: адзін у Лёзне, ў Віцебскай акрузе, і другі—у Дрысе, у Полацкай акрузе, што будзе садзейнічаць нарыхтоўкам ільну каапэрацыяй і далейшаму разьвіцьцю ільнаводзтва.

Само сабою зразумела, што гэтакія культуры, як бульбу, як лён, трэба ўсямерна разьвіваць, як галоўныя культуры, якія больш усяго падыходзяць да ўмоў глебы і клімату ў Беларусі.

Пры чым нарыхтоўку ільну трэба поўнасьцю перадаць сельск-гасп. каапэрацыі, па-першае, таму, што апарат сельск.-гасп. каапэрацыі зможа справіцца з гэтаю працаю сам, па-другое, таму, што праз крэдытныя т-вы сельск.-гасп. каапэрацыяй праводзіцца кантрактацыя ільну, і апарат каапэрацыі ўжо арганічна зьвязаны з ільнаводзтвам і нарыхтоўкамі, і, патрэцяе, таму, што гэтым самым мы зьнішчым тую канкурэнцыю, якая была з боку дзяржгандлю і будзе, калі дзяржгандаль будзе весьці і ў далейшым нарыхтоўкі ільну і ня будзе зьняты з рынку нарыхтовак, як апарат, які канкуруе з каапэрацыяй, як непатрэбны зараз апарат, паколькі каапэрацыя зможа сама з посьпехам справіцца з гэтаю справаю.

Зусім праў тав. Аксючыц, калі гаворыць аб неабходнасьці забясьпечыць нармальнае абслугоўваньне калгасных гаспадарак і ўзмацніць кіраўніцтва імі. Але-ж я ня згодзен з тым, каб арганізаваць самастойны спэцыяльны саюз калектыўных гаспадарак. Калі-б мы гэта зрабілі, мы мелі-б другі ў Беларусі Белсельтрэст, з фармальным падпарадкаваньнем яго саюзу саюзаў (па ідэі тав. Аксючыца). Гэтым мы задушылі-б калектывіцкі рух, бо тут ніякае каапэрацыі ня было-б, тут была-б забіта ўсялякая мясцовая ініцыятыва, усялякі ўдзел у калектыўным будаўніцтве з боку партыйных і савецкіх органаў на раёнах, як гэта мае месца ў арганізацыйнай сыстэме і ў кіраўніцтве Белсельтрэсту, які ня можа добра кіраваць гэтай вялікай справай цэнтралізаваным шляхам з Менску. Гэта даводзіцца практыкай нашае працы і гэта зусім правільна.

Што нам трэба зрабіць і правесьці ў жыцьцё зараз-жа? Для ўвязкі кіраўніцтва калектыўнымі гаспадаркамі і для гаспадарчага і культурнага абслугоўваньня трэба толькі ў раённых цэнтрах, дзе ёсьць райком і райвыканком, пры крэдытным таварыстве (крэдытныя т-вы маюцца ў кожным раённым цэнтры), вылучыць аддзел калектыўных гаспадарак, які павінен мець спэцыялістага агранома для абслугоўваньня калгасаў. Зараз мы маем 800 калгасаў і 1200 розных машынных, мэліорацыйных і іншых аб'яднаньняў, што ў сярэднім будзе складаць на кожны раённы цэнтр па 20

аб'яднаньняў, кіраваць якімі для крэдытных т-ваў раённых цэнтраў, якія да таго-ж зьяўляюцца і больш моцнымі, ня будзе цяжка. Потым перайменаваць сэкцыі акрсельгассаюзаў і Белсельсаюзу у невялічкія аддзелы з жывым кіраўніцтвам. Тады гэта арганізацыя будзе жыцьцёвая, будзе зьвязана з партыйнымі і савецкімі органамі, асабліва ў раёнах, і калектывіцкі рух ня будзе парушаны. Таксама ня будзе лішніх выпадкаў на ўтрыманьне самастойнага апарату спэцыяльнага саюзу, што было-б, бязумоўна, няўхільна, калі-б мы апошні арганізавалі.

Такім чынам, мы арганізоўваем два спэцыяльныя малочна-жывёлагадоўчыя і садова-городныя саюзы, якія не ўваходзяць у сетку крэдытных т-ваў сел.-гасп. каапэрацыі, а маюць сваю спэцыяльную сетку з сваімі акруговымі цэнтрамі, якія на правох аддзелаў уваходзяць у сыстэму акрсельсаюзу, як спэцыяльныя часткі сельска-гаспадарчай каапэрацыі. Арганізаваны центральны малочна-жывёлагадоўчы саюз і саюз садова-городны, які будзе арганізаваны, таксама ўваходзяць у апарат Белсельсаюзу на правах аддзелаў Белсельсаюзу, увязваюцца агульным кіраўніцтвам праўленьня Белсельсаюзу. Складаць яшчэ лішнюю надбудоўку—„Саюз саюзаў“, аб якім говорыць тав. Аксючыц,—зусім ня трэба. Пры такім пабудаваньні сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі будзе не чатыры, а толькі тры ступені: нізоўка, акрсельсаюз і Белсельсаюз. Гэта дасьць магчымасьць з'экономіць значную колькасьць выдаткаў на ўтрыманьне апаратаў сел.-гасп. каапэрацыі, а гэта пры дэфіцытнасьці апошняй будзе мець вялікае значэньне.

Потым трэба, каб удзельная вага апэрацыйнай і арганізацыйнай дзейнасьці была перанесена, галоўным чынам, на акрсельсаюзы і раёны. Гэта прыдасьць большую самастойнасьць акруговым цэнтрам. Белсельсаюз павінен мець агульнае кіраўніцтва сыстэмай сел.-гасп. каапэрацыі, рэгуляваньне яе дзейнасьці і павінен увязваць агульнае пляннаваньне з каапэрацыйнай сэкцыяй Дзяржпляну, што зараз арганізавана. Гэта дасьць магчымасьць мець больш сьціслы і больш танны апарат.

Такі парадак сыстэмы і арганізацыйная яе пабудоўка будзе, бязумоўна, больш рацыянальнай, больш спрошчанай і сапраўды дасьць магчымасьць праводзіць палітыку камуністычнае партыі па зьніжэньні сабекошту тавараў, па скарачэньні накладных і адміністрацыйных выдаткаў.

Тав. Аксючыц у сваім артыкуле говорыць аб тым, што трэба паступова ліквідаваць акруговыя таварыствы сел.-гасп. крэдыту і замяняць іх крэдытнымі саюзамі, бо гэтым мы, папершае, патанім працу крэдытнага апарату і, падругое, ліквідуем той разнабой у кіраўніцтве сел.-гасп. крэд. т-вамі, які існуе ў сучасны момант і які, з аднаго боку, дрэнна адбіваецца на працы самое нізоўкі, а з другога боку, перашкаджае дабіцца выразнасьці ў працы акруговых установаў.

Матывы, якія высунуты тав. Аксючыцам,—няправільныя.

Папершае, у нас на Беларусі яшчэ няма вопыту арганізацыі саюзаў сел.-гасп. крэдытнай каапэрацыі, і мы зараз ня можам гаварыць пра пытаньне аб працы крэдытнага апарату пры арганізацыі крэдытных саюзаў.

Падругое, ніякага разнабою ў кіраўніцтве нізоўкай па лініі сыстэмы сел.-гасп. крэдыту ня было і няма, і ніякай перашкоды ў імкненьні дабіцца выразнасьці ў працы акруговых устаноў з боку Белсельбанку таксама няма. Па гэтых двух матывах у тав. Аксючыца ні фактаў, ні дакумэнтаў ніякіх няма. Тут справа ідзе пра ўвязку тавараабароту з крэдытам праз акруговыя крэдытныя саюзы паводле прыкладу Украіны, і, паколькі маецца дырэктыва цэнтральных органаў нашае партыі аб паступовым прыцягненьні акруговых саюзаў сел.-гасп. каапэрацыі да крэдытнае працы, пастолькі тут ня можа быць ніякіх супярэчаньняў. І мы зараз у гэтым годзе арганізавалі Акруговы Крэдытны Саюз у Менску для лепшага абслугоўваньня

Менскае акругі, бо Менская акруга абслугоўвалася цэнтральнымі апаратамі Белсельбанку і Белсельсаюзу і свайго акруговага апарату ня мела.

Але я павінен адзначыць, што ў нас сыстэма сел.-гасп. крэдыту Беларусі арганізацыйна пабудавана правільна і ніякіх лішніх надбудовак ці прамежных непатрэбных філіялаў мы ня маем. Наша трохступенная сыстэма: нізоўка, акруговыя т-вы і рэспубліканскі банк (Белсельбанк), адпавядае тым запатрабаваньням, якія маюцца з боку цэнтральнага ўраду аб скасаваньні аднаго зьвенчака і рэарганізацыі наогул сыстэмы, чым займаецца зараз РСІ СССР. А дзеля гэтага, калі мы гаворым аб арганізацыі крэдытных саюзаў, я лічу, што мы павінны падыходзіць да разьвязваньня гэтага пытаньня вельмі асьцярожна, каб не нарабіць памылак, каб не зламаць больш-менш моцны дзяржаўна каапэрацыйны апарат, які ўжо мае вялікі вопыт у крэдытна-каапэрацыйнай працы.

Ня трэба забываць, што ў аснове сельскае гаспадаркі зараз яшчэ ляжаць індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, якія прадстаўляюць сабою распыленую масу нашае вёскі. У сувязі з гэтым непасрэднае кіраўніцтва напрамкам, дзейнасьцю і арганізацыяй сельскае гаспадаркі магчыма ажыцьцяўляць толькі на мясцох, асабліва зараз, калі мы праводзім земляўпарадкаваньне, калектывізацыю і г. д., калі на вёсцы яшчэ вельмі слабы партыйны і савецкі апарат, і калі слабая яшчэ і сама каапэрацыя. Сельска-гаспадарчы крэдыт, у якасьці найбольш гнуткага апарату ў справе рэгуляваньня гаспадарчых адносін у сялянскай гаспадарцы і дасягненьняў тых ці іншых форм, можа быць скарыстаны толькі пры тых умовах, калі будуць самастойныя мясцовыя крэдытныя ўстановы. Гэтаму запатрабаваньню цалкам адпавядае і наш парадак і наша сыстэма сельска-гаспадарчага крэдыту ў Беларусі, якая зараз існуе і якая беспасярэдна і павінна быць зьвязанай з беспасярэдным крэдытаваньнем пазыкаатрымальнікаў, і супроць гэтага супярэчыць ніяк ня можна, бо і сама лёгіка гэта падказвае.

Між тым некаторыя працаўнікі сельска-гаспадарчае каапэрацыі ставяць пытаньне так, што трэба зараз, на працягу гэтага году, ліквідаваць усе акруговыя таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту, замяніць іх акруговымі крэдытнымі саюзамі і зусім адхіліць Белсельбанк ад кіраўніцтва сел.-гасп. крэдытнымі таварыствамі, дапусьціўшы яго толькі да кіраўніцтва крэдытнай працай акруговых крэдытных саюзаў на дагаворных пачатках з Белсельсаюзам. Гэта значыць перадаць Белсельсаюзу ў поўнае распараджэньне першы і другі зьвенчакі сел.-гасп. крэдыту, а Белсельбанк заставіць без усялякай пэрыфэрыі, без усялякіх філіялаў, пры чым ён мэханічна абернецца ў касу Наркамфіну альбо Дзяржбанку. Гэта адзначае ліквідацыю беларускай сыстэмы сел.-гасп. крэдыту. Так і трэба ставіць пытаньне. Трэба такія сур'ёзныя рэчы дагаварваць да канца... Тады трэба арганізаваць пры Дзяржбанку сельска-гаспадарчы аддзел. Гэта было-б, магчыма, у свой час і правільна—у мэтах правядзеньня ідэі адзінага банку.

Але так ставіць пытаньне зараз нельга. Пастанова XI зьезду КП(б)Б, якая яшчэ не скасавана, гаворыць не аб ліквідацыі, а, наадварот, аб узмацненьні сучаснае сыстэмы сел.-гасп. крэдыту, які зьяўляецца магутнай зброяй ў руках партыі і савецкае ўлады ў справе ўзмацненьня і разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Калі мы гаворым аб саюзах сел.-гасп. крэдытнае каапэрацыі, дык я разумею зьліяньне або аб'яднаньне другога зьвенчака, прасьцей гаворачы, аб'яднаньне акрсельбанкаў з акрсельсаюзамі ў акругах і арганізацыю аднае аб'яднанае ўстановы—акруговага саюзу сел.-гас. крэдытнае каапэрацыі. Белсельбанк кіруе арганізацыйна і апэрацыйна па лініі крэдытнай сыстэмы другім крэдытным зьвенчаком і нізоўкай і мае, такім чынам, беспасярэднюю сувязь па крэдытаваньні з пазыкаатрымальнікамі без усялякіх спэцыяльных дагавораў з Белсельсаюзам, але

ўвязваючы і ўзгадняючы з ім толькі агульнае кіраўніцтва крэдытнымі саюзамі і іх нізоўкаю. Такім чынам, як бы мы ні спрачаліся, пакуль будзе існаваць сыстэма сел.-гасп. крэдыту з рэспубліканскімі банкамі (а яна будзе існаваць бязумоўна), да тае пары ўсёроўна будзе падвойнае кіраўніцтва.

Да гэтага я павінен дадаць, што імкненьне сыстэмы сел.-гасп. крэдыту кіраваць крэдытнай працай нізавое сеткі зусім мэтазгодна, бо толькі ў гэтым выпадку будзе дасягнута адзінства крэдытнае палітыкі сел.-гасп. крэдыту і зьявіцца ўпэўненасьць, што дзяржаўныя сродкі будуць скарыстаны сваячасова і па прызначэньні.

---

Аксючыц

# Сельска-гаспадарчая каапэрацыя ў БССР да адзінаццацігодзьдзя кастрычнікавае рэвалюцыі

Адзінаццаць год таму назад адбылася вялікая кастрычнікавая рэвалюцыя. Адзінаццаць год назад мы ня толькі скінулі ўладу капіталістаў і абшарнікаў, але і ўзялі ў свае рукі кіраваньне краінаю з зусім разбуранай народнаю гаспадаркай, і што самае важнае—на гэтай разбуранай гаспадарцы пачалі будаваць і будуем досыць пасьпяхова сацыялістычную гаспадарку.

Для гэтага зараз сьвяткуючы адзінаццатую гадавіну нашае перамогі нам трэба паглядзець, як мы працавалі на працягу мінулага году, якія мы маем дасягненьні альбо недахопы, ці прасунуліся мы за гэты год наперад, каб на падставе вынікаў нашае працы вызначыць правільны шлях далейшага разьвіцьця народнае гаспадаркі і пабудовы сацыялізму.

Каб адказаць на пытаньне, наколькі мы пасунуліся наперад, нам трэба прагледзець усе галіны нашае гаспадарчае дзейнасьці, а таксама і становішча рабочае клясы і сялянства. Нам трэба падагуліць усю працу як самое рабочае клясы і сялянства, гэтак працу арганізацый і ўстаноў.

Выходзячы з гэтага, мы ў першую чаргу павінны пра глядзець працу сельска-гаспадарчае каапэрацыі, якая ўжо да сучаснага моманту адыгрывае вялікую ролю ў народнай гаспадарцы БССР і зьяўляецца вельмі важным сродкам у руках пралетарскае дзяржавы ў справе пабудовы сацыялізму на вёсцы.

Праца сельска-гаспадарчае каапэрацыі зьяўляецца надзвычайна вялікай і рознастайнай. Падрабязна разглядзець яе ў рамках невялічкага артыкулу нельга. Але для таго, каб высьветліць хоць-бы асноўнае, каб высьветліць яе сучаснае становішча, нам трэба спачатку высьветліць тры асноўныя моманты: п е р ш а е—гэта арганізацыйная дзейнасьць каапэрацыі, бо ад таго, наколькі правільна яна праводзілася, у вялікай ступені залежаць і другія бакі яе працы; д р у г о е—гэта яе гаспадарчая праца т р э ц я е—гаспадарчае і грашовае становішча.

Адказваючы на першае пытаньне, трэба мець на ўвазе, што ў пачатку мінулага апэрацыйнага году сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі мела каля 20 відаў спэцыяльных аб'яднаньняў першапачатковае сеткі, чаму саюзы сельска-гаспадарчай каапэрацыі былі надзвычайна унівэрсальнымі, і дзеля гэтага да пачатку 1927-28 апэрацыйнага году паўстала пытаньне аб тым, каб тыя галіны працы саюзаў сельска-гаспадарчай каапэ-

рацыі, у якіх нізоўка спэцыяльных відаў дастаткова ўмацавалася, як арганізацыйна, гэтак і гаспадарча, вылучыць з унівэрсальных саюзаў і арганізаваць у спэцыяльныя саюзы.

І на працягу мінулага апэрацыйнага году намі ўжо арганізаваны спэцыяльныя малочна жывёлагадоўчыя саюзы, на чале з ўсебеларускім цэнтрам. Гэтыя саюзы арганізаваны не ва ўсіх акругах, бо, як ужо вышэй падана, мы лічылі магчымым неабходную арганізацыю саюзаў праводзіць у тых акругах, дзе ўжо да гэтага мелася эканамічная база і дзе ў дастатковай ступені разгарнула сваю працу нізавая сетка. Такімі акругамі ў мінулым годзе зьяўляліся Менская, Гомельская, Віцебская і Магілеўская, у якіх і арганізаваны акруговыя саюзы малочна-жывёлагадоўчае каапэрацыі.

Намі таксама пачата (але ня скончана) вылучэньне з унівэрсальных саюзаў калектыўных гаспадарак. Дзеля гэтае мэты ва ўсіх акруговых саюзах на працягу мінулага году арганізаваны самастойныя сэкцыі калектыўных гаспадарак, якія, па нашай думцы, на працягу гэтага апэрацыйнага году павінны быць рэарганізаваны ў акруговыя саюзы калектыўных гаспадарак. На 2-м Усебеларускім зьезьдзе калектыўных гаспадарак ужо арганізаваны Усебеларускі Саюз Калгасаў.

У мінулым жа годзе ўжо пачалося вылучэньне з унівэрсальных саюзаў садова-гароднае каапэрацыі. У Гомельскай акрузе арганізаваны садова-гародны саюз, і такім чынам садова-гародная каапэрацыя з Палессельсаюзу вылучана.

Вось тая арганізацыйная праца, якая намі праведзена за мінулы год па другім і трэцім зьвенчаку сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі.

Цяпер, калі мы зьвернемся да арганізацыйнае працы самое нізоўкі, дык тут мы маем наступныя вынікі. На 1 кастрычніка 1927 г. мы мелі ў сыстэме сельска гаспадарчай каапэрацыі 1273 першапачатковыя аб'яднаньні. На жаль, лічбаў на 1 кастрычніка 1928 года для параўнаньня мы яшчэ ня маем, бо справаздач за мінулы апэрацыйны год ня складзена. Для гэтага ўсе параўнальныя лічбы мы будзем прыводзіць на 1 ліпеня 1928 году. Дык вось на 1 ліпеня мы ўжо маем лік аб'яднаньняў у 2747, альбо прырост на 1474 адзінкі, ці 115 проц. У паданыя лічбы ўваходзяць аб'яднаньні, якія зьяўляюцца сябрамі саюзу. Акрамя гэтых аб'яднаньняў, ёсьць яшчэ шмат так званых „дзікіх“, якія ня ўцягнуты ў сыстэму сельска-гаспадарчае каапэрацыі, асабліва шмат „дзікіх“ мэліорацыйных таварыстваў.

Калі мы возьмем рост паасобных відаў, дык галоўным чынам гэты прырост падае на вытворчыя каапэрацыйныя аб'яднаньні, што і зьяўляецца вельмі пажаданым. Па асобных вытворчых відах гэты рост выглядае наступным парадкам: калгасы—424 адзінкі, альбо 102 проц., машынныя таварыствы—236 адзінак, альбо 274 проц., мэліорацыйныя таварыствы—379 адзінак, альбо 285 проц., малочна-жывёлагадоўчыя таварыствы—199 адзінак і г. д.

Калі мы возьмем рост каапэрацыйных сялянскіх гаспадарак, дык тут мы маем наступныя лічбы:

На 1 кастрычніка 1927 году было каапэравана сыстэмаю 285 696 сялянскіх гаспадарак, або 35,87 проц. да агульнага ліку ўсіх сялянскіх двароў. На 1 ліпеня 1928 году каапэравана 369.369 сялянскіх гаспадарак, або 45,7 проц.—павялічэньне на 29,3 проц. Найбольшы тэмп каапэраваньня насельніцтва даюць таксама і вытворчыя віды каапэрацыі.

Разам з гэтым праводзілася спэцыяльная праца па каапэраваньні беднаты, для якое мэты з розных галін быў складзены фонд каапэраваньня беднаты, па сыстэме ў 128.000 руб., з якога на 1 ліпеня 1928 году выкарыстана на каапэраваньне беднаты 112.000 руб. і каапэравана—26.500 сялянскіх гаспадарак. Усе-ж такі трэба сказаць, што гэтая праца праведзена ня зусім здавальняюча, бо на 1 ліпеня засталося 16.000 руб. нявыкарыстанага фонду.

Для таго, каб скончыць з арганізацыйным пытаньнем, нам трэба яшчэ разгледзець, якія групы насельніцтва каапэраваны сельска-гаспадарчай каапэрацыяй. Калі мы возьмем усё каапэраванае ў сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве насельніцтва і разаб'ём яго па групах паводле тых мэтаў, паводле якіх вядзецца ўлік пайшчыкаў у сыстэме сельска-гаспадарчай каапэрацыі, дык мы ўбачым, што бядняцкія гаспадаркі складаюць 35,5 проц., серадняцкія 56,2 проц. і заможныя 8,3. Як бачым, гэтыя лічбы гавораць за тое, што каапэраваная частка насельніцтва складаецца ў асноўным з бядняцка-серадняцкае часткі вёскі.

Поўнасьцю ахарактарызаваць гаспадарчую дзейнасьць усяе сыстэмы да сучаснага моманту мы не маем магчымасьці, бо гадавыя справаздачы скончаны яшчэ не па ўсіх відах вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў. Для гэтага больш менш поўна мы можам характарызаваць толькі гаспадарчую дзейнасьць Белсельсаюзу, акрсельсаюзу і сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў, ды, і то толькі за тры першыя чвэрткі. Але-ж гэтыя арганізацыі пакуль што і займаюць галоўнае месца ў працы сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі, а таму і лічбы, якія мы будзем прыводзіць, зьяўляюцца харатэрнымі для ўсяе гаспадарчае дзейнасьці сельска-гаспадарчае каапэрацыі. Гэтая апошняя характарызуецца наступнымі лічбамі. Пазычковыя апэрацыі сельска гаспадарчых крэдытных таварыстваў за тры чвэрткі 1926-27 году складалі 7.685.000 руб., а за тры чвэрткі 1927-28 г. яны складаюць—11.190.000 руб. Іншымі словамі, мы маем рост на 45 проц.

Калі мы зьвернемся да працы па забесьпячэньні і па назапашаньнях, дык тут мы маем наступнае: за ўвесь 1926-27 апэрацыйны год гэтыя апэрацыі складалі каля 10.000.000 руб., за тры чвэрткі 1927-28 году яны складаюць каля 16.000.000 руб. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што ў гэтай галіне праца сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў мае значныя дасягненьні.

Калі мы возьмем агульны рост балянсу, дык тут мы маем наступныя лічбы: на 1 кастрычніка 1927 году балянс нізоўкі быў роўны 15.385.000 руб., а на 1 ліпеня 1928 году ён складае 23.817.000 руб. І тут таксама мы маем значны рост.

Зьвернемся да пытаньня, якія групы сялянскіх гаспадарак абслугоўвала крэдытная сетка. Гэтае пытаньне для нас асабліва важна, бо справа ня толькі ў тым, колькі сродкаў, як грашовых, гэтак і сродкаў вытворчасьці, мы накіравалі праз нашу крэдытную сетку ў сельскую гаспадарку, а, галоўным чынам, у тым, каго мы абслугоўвалі.

І калі ўжыць той-жа мэтад, якім мы вызначалі падзел на групы агульнае масы каапэраванага намі насельніцтва, мы атрымаем наступныя лічбы: група бядняцкая ў крэдытаваньні займае 37,5 проц., серадняцкая 59,8 проц. і заможная 2,7 проц. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што наша нізавая сетка абслугоўвае, галоўным чынам, бядняцка-серадняцкую частку вёскі.

Цяпер аб гаспадарчай дзейнасьці акруговых саюзаў і Белсельсаюзу. За ўвесь апэрацыйны 1926-27 год забясьпечальных тавараў было завезена на 8.134.000 руб., а за тры чвэрткі 1927-28 г. прададзена на 9.384.000 р. Па збытавых апэрацыях было прададзена за ўвесь 1926-27 г. тавараў на 7.747.000 руб., а за тры чвэрткі 1927-28 г. 11.851.000 р. Як бачым, і тут мы маем вялікія дасягненьні.

Калі арыентавальна абагуліць усе лічбы, мы будзем мець наступны вынік. Калі за ўвесь апэрацыйны 1926-27 г. сыстэма мела тавараазварот у 29.395.000 р., дык за тры чвэрткі 1927-28 г. яна мае тавараазварот, роўны 36.959.600 руб.

У зьвязку з узмацненьнем сваеі дзейнасьці і ахопу большага месца, як на рынку, так і ў сельскай гаспадарцы, сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі сёлета мае іншыя дасягненьні.

Калі дагэтуль на працягу ўсяго часу свайго існаваньня сыстэма сельска-гаспад. каапэрацыі ў выніку свае працы мела страты, дык у гэтым апэрацыйным годзе яна скончыць сваю працу хоць і не з вялікім, але ўсёж з прыбыткам. За тры чвэрткі мы маем наступныя вынікі: па нізавой сетцы чысты прыбытак выказваецца ў 180.000 руб., а па акрсельсаюзах 169.000 руб., пры чым паводле балянсу ўсе саюзы маюць прыбытак, а па Бельсельсаюзу прыбытак роўны 110.000 руб.

Прыведзеныя намі доказы, з аднаго боку, гавораць аб тым, што сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі значна пашырыла абслугоўваньне сельскае гаспадаркі, а з другога боку, на базе пашырэньня гаспадарчае дзейнасьці палепшыла і сваё грашовое становішча.

Некалькі горш справа з мабілізацыяй сродкаў у каапэрацыі, сродкаў самога каапэраванага насельніцтва, хоць і тут мы маем якія кольвік дасягненьні. Калі на 1 кастрычніка 1927 г. паявыя ўзносы складалі 1.060.000 р., дык на 1 кастрычніка 1928 году яны складаюць 1.801.000 р. Наогул уласныя капіталы ў нізавой сетцы на 1 кастрычніка 1927 г. складалі 2.625.000 руб., а на 1 ліпеня 1928 г. складаюць 4.216.000 руб. Хоць у зьвязку з павялічэньнем пазычных сродкаў процант уласных сродкаў адносна ўсяго балянсу зьнізіўся да 19,2 проц. у той час, як на 1 кастрычніка 1927 г. ён складаў 21 проц., але агульныя лічбы ўласных капіталаў значна павялічыліся.

Акрсельсаюзы на 1 кастрычніка 1927 г. сваіх капіталаў мелі 664.000 руб., а на 1 ліпеня 1928 г. маюць 1.048.000 руб. У Акрсельсаюзах і ў балянсе ў процантных суадносінах свае сродкі павялічыліся, На 1 кастрычніка 1927 г. яны складалі 16 проц., а на 1 ліпеня 1928 г. 17,5 проц.

Вось прыблізна тыя дасягненьні, якія мае сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі за тры чвэрткі 1927-28 апэрацыйнага году.

Алеж, ня гледзячы на гэтыя дасягненьні ў нашай працы, я лічу, што ёсьць вельмі многа недахопаў. Пералічваць іх усе я тут ня буду, бо яны бадай усім вядомыя, толькі хачу адзначыць, што ўсе недахопы ў каапэрацыйнай працы вынікаюць з галоўнага, а галоўным зьяўляецца тое, што мы і да гэтага часу не ўцягнулі ў каапэрацыйную працу нашых пайшчыкаў. Дагэтуль яшчэ наглядаецца такое становішча, калі каапэратыў працуе сам па сабе, і пайшчык жыве сам па сабе, не залежачы адзін ад аднаго. Гэтага ў каапэрацыі быць не павінна, бо інакш каапэрацыйную працу як сьлед наладзіць будзе немагчыма.

А для гэтага трэба паставіць дзьве асноўныя задачы.

Першае—гэта ня зьніжэньне тэмпу гаспадарчае працы, а найбольшае яго падвышэньне. Ад гэтага залежыць як выкананьне тых задач, якія пастаўлены камуністычнай партыяй і савецкім урадам перад сыстэмай сел.-гаспад. каапэрацыі. Для таго, каб гэты тэмп ня зьнізіўся, а падвышаўся, трэба больш увагі з боку каапэрацыйнага працаўніка і больш адказнасьці за тыя абавязкі, якія на яго ўскладзены. А таксама ва ўсім каапэрацыйным апараце трэба больш дысцыпліны. Тым часам з апошняю яшчэ дагэтуль справа надзвычайна дрэнна.

Другое і самае галоўнае—у нашу штодзённую каапэрацыйную працу трэба ўцягнуць нашага пайшчыка, бо калі мы апаратным парадкам можам яшчэ як-небудзь працу пашыраць, дык зрабіць яе якасна лепшай бяз шырокага ўдзелу ў гэтай працы самога каапэрацыйнага насельніцтва мы ня здолеем.

Трэба нашу працу з пайшчыкам ставіць так, каб гэты апошні ня толькі ведаў, дзе знаходзіцца праўленьне каапэратыву, або яго склады, у

той час, калі ён ідзе ў каапэратыў што-небудзь атрымаць у доўг, але каб ён ведаў і цесна ўвязваў сваю гаспадарчую дзейнасьць з каапэратывам і тады, калі ён ідзе на рынак збываць свой той ці іншы прадукт.

А для таго, каб працу паставіць так, а яе ставіць трэба толькі так, бо бяз гэтакай сувязі ў працы праўленьня з сваімі пайшчыкамі, каапэратыў не зьяўляецца сапраўдным каапэратывам. Праўленьню трэба цясьней зьвязацца як самому непасрэдна з сваімі пайшчыкамі, гэтак і праз каапэрацыйны актыў, і такім чынам надалей паглыбляць і пашыраць нашую працу.

---

К. Трамдах

# Першы сельска-гаспадарчы крэдытны саюз

15-16 верасьня адбыўся ўстаноўчы зьезд упаўнаважаных сыстэмы с.-г. каапэрацыі Менскае акругі, на якім арганізаваны першы ў Беларусі Менскі акруговы с.-г. крэдытны саюз.

Паводле дакладаў Белсельсаюзу і Белсельбанку становішча с.-г. каапэрацыі Менскае акругі да моманту арганізацыі новага саюзу (паводле вестак на 1 ліпеня г. г.) выглядае наступным:

Крэдытных с.-г. т-ваў у акрузе было на 1 ліпеня 1928 г. 40 (замест 33 на 1 кастрычніка 1927 г). Гэтыя т-вы аб'яднаюць 46.128 сялянскіх гаспадарак, што складае 34,5 проц. усіх гаспадарак акругі. Т-вы маюць вялікі раён дзейнасьці (3,5 тыс. двароў на адно т-ва), які значна перавышае звычайныя нормы абслугоўваньня ў 2 тыс. двароў. Таму-та многія т-вы ня могуць ахапіць усяго насельніцтва. Адсюль—недастатковы тэмп каапэраваньня. На адно т-ва ў сярэднім 1.153 пайшчыкі.

Сетка с.-г. т-ваў унівэрсальнага тыпу вельмі скарацілася—да 5 каапэратываў. Гэта адбылося за лік арганізацыі гэтых каапэратываў у спэцыяльныя віды т-ваў, у крэдытныя т-вы ці з прычыны ліквідацыі некаторых няжыцьцёвых арганізацый. Калектыўных гаспадарак—126, якія аб'яднаюць 855 сямей, што складае 6,8 проц. сялянскіх двароў Менскае акругі. Малочных т-ваў—52, якія цяпер аб'яднаны ў спэцыяльны малочна-жывёлагадоўчы саюз, нядаўна арганізаваны у Менскай акрузе. Іншых с.-г. аб'яднаньняў (насенных, машынных, садова-гародных, кантрольных і г. д.) ёсьць толькі 30, якія аб'яднаюць усяго толькі 268 сялянскіх двароў.

Сацыяльны склад пайшчыкаў па крэдытнай сетцы здавальняючы: беднаты 34,6 проц., серадлякоў 62,5 проц. і заможных 2,9 проц. Сярэдні апланы пай павялічыўся з 4 руб. 62 кап. на 1 кастрычніка 1928 г. да 5 р. 95 кап. да 1 ліпеня г. г. і да 1 кастрычніка павінен быць 7 руб.—пры статутным паі ў 10 руб.

Праца крэдытнае сеткі па лініі крэдытаваньня сельскае гаспадаркі акругі пашыраецца вельмі прыкметна. У 1923-24 г. (першы год працы с.-г. крэдыту) т-вы выдалі пазык 102.678 р.; у 1924-25.—460.194 р.; у 1925-1926 г. 798.612 р.; у 1926-27 г.—1.876.000 р., а за тры кварталы бягучага году—каля 2 000 000 руб. Адзначаецца рост доўгатэрміновага крэдытаваньня (з 958.000 руб. на 1 кастрычніка 1927 г. да 1.076.000 руб. на 1 ліпеня г. г.) і памяншэньне кароткатэрміновага (адпаведна 831.000 р. і 527.000 руб.).

Укладныя апэрацыі разьвіты яшчэ вельмі слаба. Сярод 46.000 каапэраваных гаспадарак ёсьць толькі 2.149 укладчыкаў (на 1 кастрычніка 1927 г. было 1920) на 218.000 р., супроць 137.000 р. на 1 кастрычніка

1927, г. зн. павялічэньне на 58 проц. Пратэрмінаваньні па пазыках зьменшыліся ў два разы: з 149.000 руб. на 1 студзеня г. г. да 74.000 руб. на 1 ліпеня.

Забесьпячальны зварот крэдытнае сеткі за 1926-27 г. выявіўся ў 936.000 руб., а за тры кварталы бягучага году—860.000 руб., што складае 91 проц. гадовага пляну. Зварот па збыце адпаведна 515.000 руб. і 1.069.000 руб., г. зн. падвоіўся. Гэта да некаторай ступені характарызуе вынікі с.-г. крэдыту на вёсцы.

Сярэдні балянс на 1 т-ва быў да пачатку гаспадарчага году 65.800 р., а на 1 ліпеня г. г. 101.200 руб, г. зн. узрос на 54 проц. Аднак фінансовы стан крэдытнае сеткі напружаны: свае сродкі складаюць на 1 ліпеня толькі 15 проц. балянсу, супроць 11 проц. на 1 кастрычніка 1927 г. Сетка аддавала мала ўвагі збору паёў і спэцыяльных капіталаў.

Вынікі дзейнасьці крэдытнае сеткі добрыя. За тры кварталы г. г. па 40 т-вах атрымана прыбытку 20.000 руб. у той час, як у 1926-27 г. былі страты, асабліва па прычыне ліквідацыі розных прадпрыемстваў т-ваў. Т-вы вельмі слаба зьвязаны з сваім саюзам: па забесьпячэньні—на 54 проц. (рэшта па Цэнтраземскладзе) і па збыце толькі на 38 проц.

Упаўнаважаныя, што выступалі ў спрэчках, адзначылі наступныя асноўныя ненармальнасьці ў працы с.-г. сыстэмы акругі. Прадстаўнікі Крайскага т-ва і Менселькрэдыту падкрэсьлілі, што несваячасовае атрыманьне дырэктыў саюзаў (напрыклад, аб цэнах) вельмі шкодзіць працы на мясцох. Дэлегат Лагойскага т-ва тлумачыў нездавальняючы стан працы па кантрактацыі няўзгодненасьцю дзейнасьці с.-г. каапэрацыі з саўгасамі, якія часта ня маюць адпаведных распараджэньняў ад Белсельтрэсту; адсюль няўвязка цэн на насенны матар'ял і г. д. Упаўнаважаны Цімкавіцкага т-ва таксама адзначыў, што посьпеху кантрактацыі вельмі перашкаджае разыходжаньне прыёмнае цаны на жыта (1 р. 12 к.) з цаною у саўгасах (2 р.).. Працу па назапашаньні, у прыватнасьці па закупцы сьвіней, тармозяць нізкія цэны ў Капыльскім раёне ў параўнаньні з суседнімі раёнамі.

Прадстаўнік Бягомленскага т-ва тлумачыць слабую связь нізоўкі з саюзам тым, што ў апошнім нярэдка ў сэзон адсутнічае патрэбны асартымэнт (напрыклад, малатарні, супэрфасфат) у той час як у Цэнтраземскладзе ўсё гэта ёсьць. За тое ў Цэнтраземскладзе клясавага падыходу да сялян няма, а гэта шкодзіць с.-г. т-вам. У працы назапашаньня перашкаджаюць пераплаты, якія дапускаюцца агэнтамі некаторых дзяржзагатоўцаў, а іншы раз і няяснасьць інструкцый Белсельсаюзу (напрыклад, у цэнах на розныя нумары ільну).

Дэлегат Халопеніцкага т-ва сьцьвярджае, што агэнты Дзяржгандлю плацяць за гусей 1 р. 50 к. на месцы у той час, як т-ва паводле дагавару з Белсельсаюзам атрымлівае тыя-ж 1 р. 50 к. франко-Барысаў. У справе кантрактацыі націсканьні зьверху іншы раз вельмі шкодзяць, бо калі ёсьць сьпешка, дык у кантрагэнты т-ва можа пралезьці непажаданы элемэнт. Пра апошняе таксама гаварыў прадстаўнік Шацкага т-ва. Упаўнаважаны ад Сьмілавіцкага т-ва адзначыў, што частыя зьмены і дапаўненьні інструкцый па кантрактацыі шкодзяць працы на мясцох. Прадстаўнік Самахвалавіцкага т-ва паказаў яшчэ на адну прычыну, якая шкодзіць кантрактацыі, менавіта—на адсутнасьць ці недахоп угнаеньняў, бо грошы сялянству не патрэбны.

Паводле дакладаў аб становішчы сеткі с.-г. каапэрацыі зьездам прынята рэзалюцыя, якая адзначае цэлы шэраг паказаных вышэй дасягненьняў у працы крэдытнае сеткі, але разам з тым і наступныя недахопы: недастатковасьць крэдытных ячэек у акрузе, вялікія раёны абслугоўваньня, слабае каапэраваньне беднаты і недастатковае скарыстаньне сродкаў фонду каапэраваньня беднаты, выключную незначнасьць ліку індывідуальных укладчыкаў, слабае авансаваньне пайшчыкаў свайго т-ва, у прыватнасьці ў справе

збору спэцыяльных капіталаў, скарыстаньне крэдытаў не па прызначэньні, слабая сувязь нізоўкі з саюзам (асабліва па збыце), вялікае адставаньне масавае каапэрацыйнае працы, і тое, што ня відаць працы рэўкамісіі.

З мэтаю паляпшэньня абслугоўваньня сеткі, пашырэньня гэтае сеткі і ўзмацненьня яе працы зьезд пастанавіў арганізаваць акруговы с.-г. крэдытны саюз Менселькрэдсаюз. Саюз будзе абслугоўваць усю сетку с.-г. каапэрацыі акругі як па забесьпячэньні, гэтак і па збыце, што ня выключае забесьпячэньня сеткі крэдытамі таксама па лініі Белсельбанку. Функцыі новага саюзу мешаныя—забесьпячальна-збытавыя і крэдытныя.

Зьезд даў дырэктывы да працы Менселькрэдсаюзу на 1928-29 гаспадарчы год.

Крэдытна-вытворчы плян саюзу на 1928-29 год прадугледжвае забесьпячэньне сельскае гаспадаркі акругі па лініі с.-г. каапэрацыі машынамі і прыладамі, мэталямі і мэталёвымі вырабамі, пасяўным матар'ялам, угнаеньнямі і г. д, усяго на суму 1.543.000 р., у тым ліку с.-г. машын і прыладаў на 397.000 р., трактараў на 19.000 р., штучнага ўгнаеньня на 87.000 р., насеннага матар'ялу на 373 000 руб., мэталяў і маталёвых вырабаў на 394.000 руб., будаўнічых матар'ялаў на 95 000 руб. і г. д. У параўнаньні з продажам забесьпячальных тавараў у бягучым гаспадарчым годзе (за тры кварталы—936.000 руб.) гэта дае павялічэньне на 34 проц. Ня лічачы 270.000 руб. выдаткаў, агульны зварот па забесьпячэньні будзе роўны 1.813.000 руб. Накладныя выдаткі на с.-г. машыны і прылады спраэктаваны ў 6,2 проц., а па насенным матар'яле, угнаеньні, будаўнічым матар'яле—21,4 проц. У бягучым г.-г. на адну гаспадарку прыпадае закупкі забесьпячальных тавараў на 9 руб. 31 коп., а на 1928-29 год гэта лічба павялічана да 15 р.

Плян працы саюзу па назапашаньні на 1928-29 год складзены на суму 1.323.000 руб. (павялічэньне на 11,5 проц. супроць бягучага году). Па насенных культурах першыя тры кварталы гэтага году далі па крэдытнай с.-г. сетцы суму назапашаньняў у 151.000 руб., а паводле пляну на 1928-29 г.—165.000 руб. Ільну-валакна па тых-жа тэрмінах—14½ тоны і 82½ тоны. Такое вялікае павялічэньне тлумачыцца тым, што закантрактаваны 425 гэкт., што павінна даць 92 тоны валакна. Па ільну-насеньні за 3 кварталы назапашана 61 тона, паводле пляну намечана нават 320 тон (закантрактавана 413 гэкт.). Па скураной сыравіне, пушніне, конскім воласе, шчаціне, анучах, грыбох ёсьць таксама павялічэньне назапашаньняў паводле пляну. Па бульбе закантрактавана 1.256 гэкт., а агульная сума назапашаньняў 7.100 тон (рост на 50 проц.). Таксама прадугледжана назапашаньне гусей на 70 тыс. руб., і мяркуецца ўзяцца за назапашаньне сена (для вайсковых частак).

Каштарыс саюзу прадугледжвае штат у 38 адзінак з сумаю зарплаты з сацстрахам у 60 000 руб. Усяго выдаткаў на 1928-29 г.—134.000 руб., прыбыткаў—167.000 руб., г. зн. саюз думае атрымаць за 1928-29 г. чыстага прыбытку—33 тыс. руб.

Крэдытны плян саюзу складзены на 4.062·000 руб. па крэдытаваньні сельскае гаспадаркі Менскае акругі (апрача таго 20.000 руб. у фонд каапэраваньня беднаты). У параўнаньні з заяўкамі крэдытнае сеткі плян паменшаны на 11 проц., пры чым попыты нізоўкі на крэдыты павялічыліся ў параўнаньні з леташнім годам на 70 проц. Крэдытны плян прадугледжвае крэдытаваньне калектыўных гаспадарак на 622.000 руб., паадзінкавых гаспадарак амаль на 2.000.000 руб. і с.-г. арганізацый (машынных, мэліорацыйных і інш.) на 1.500.000 руб. Доўгатэрміновых крэдытаў будзе выдана на 1.592.000 руб. кароткатэрміновых на 1.184.000 руб. і спэцыяльнага прызначэньня на 1.286.000 руб. Плян таксама прадугледжвае арганізацыю 7 новых крэдытных т-ваў.

Плян арганізацыйнае працы ставіць перад саюзам у гэтай галіне наступныя задачы: пашырэньне і ўзмацненьне крэдытнае сеткі і інш. с.-г. аб'яднаньняў, узмацненьне тэмпу калектывізацыі сельскае гаспадаркі, каапэраваньне серадняцка-бядняцкае масы, паляпшэньне абслугоўваньня бядняцкіх гаспадарак, узмацненьне актыўнасьці каапэраванае масы па лініі ўнясеньня паёў, укладаў і спэцыяльных узносаў на забесьпячальна-збытавыя апэрацыі.

Пашырэньне сеткі с.-г. каапэрацыі акругі прадугледжвае арганізацыю на будучы год наступных аб'яднаньняў: 7 крэдытных т-ваў, 65 машынных, 31 малочнае, 15 птушкагадоўчых, 2 садовагародных. Калі сума паявога капіталу крэдытнае сеткі на 1 ліпеня складае 271.000 руб., дык на 1 кастрычніка г. г. яна павінна павысіцца да 320.000 руб., а да 1 кастрычніка 1920 года да 549 тыс. руб. Лік пайшчыкаў гэтае сеткі павінен павялічыцца з 46 000 чал. на 1 ліпеня г. г. да 50.000 чал. на 1 кастрычніка г. г. (рост на 30 проц.) і да 60.000 чал. на 1 кастрычніка 1929 года, што складае 45 проц. каапэраваных гаспадарак. Нанава каапэраваць мяркуецца 3.100 чалавек беднаты.

Па пытаньнях аргпрацы зьезд падкрэсьліў неабходнасьць узмацненьня інструктарскага абслугоўваньня сеткі.

Зьезд прыняў статут саюзу і пастанову аб уступленьні Менселькрэдсаюзу ў пайшчыкі Белсельсаюу і Белсельбанку.

У праўленьне саюзу абраны т. т. Пыжыкаў (сэкрат. Самахвалавіцкага райкому КПБ(б), Клішэўскі (Белсельсаюз) і Хадасэвіч (Белсельбанк) і кандыдатамі—т.т. Калінковіч (Бярэзінскае т-ва) і Бірала (Рудзенскае т-ва). У рэўкамісію абраны т. т. Фрыд (Усекабанк), Зубрыцкі (Чэрвенскае т-ва) і Ліпніцкі (Новадворскае т-ва) і кандыдатам т. Зянько (Самахвалавіцкае т-ва). Таксама абраны Савет саюзу ў складзе 15 членаў.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Дземін і Дунец

## Кантрольныя лічбы на 1928-29 год

*(Працяг. Гл. № 11)*

### Выдаткі звароту

Асноўнымі артыкуламі, што складаюць сабой кошт пасярэдніцкіх паслуг, якія аказваюцца каапэрацыяй спажыўцу, зьяўляюцца накладныя выдаткі і налажэньне.

*Накладныя выдаткі*—гэта, у асноўным, выдаткі па чыгуначным транспарце. Таму іх узровень, у зьвязку з ўсё большым разьвіцьцём транзытнага завозу тавараў проста на месца спажываньня, у процантных адносінах да звароту паступова зьніжаецца (абсалютна павялічваючыся ў залежнасьці ад росту таварнае масы, што прасоўваецца па каналах спажыўкаапэрацыі):

| | Абсалютна ў тыс. руб. | | | У %% па звароту па пакупн. цэнах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Спажтаварыствы . . . . . | 2.574,1 | 3.251,3 | 4.876,0 | 4,85 | 4.80 | 5,89 |
| ЦРК . . . . . . . . . . . | 2.797,5 | 3.390,0 | 4.000,0 | 6,74 | 6,45 | 6,14 |
| Саюзы . . . . . . . . . | 1.788,2 | 2.244,0 | 2.250,0 | 5,35 | 4,90 | 3,87 |
| БКС . . . . . . . . . . . | 677,3 | 725,0 | 820,0 | 1,38 | 0,80 | 0,67 |
| **Усяго . . .** | **7.837,1** | **9.610,3** | **11.946,0** | **4,34** | **3,75** | **3,64** |

Некаторы адносны рост накладных выдаткаў, які мяркуецца ў 1928-29 г. па сельскай сетцы, тлумачыцца тым, што пры намечаным вялікім ахопе нізоўкі транзытам—на яе перанясецца з саюзнага зьвенчака пэўная доля выдаткаў па чыгуначным транспарце.

*На ажэньне*, рэалізаванае паасобнымі зьвенчакамі сыстэмы (г. зн. іх валавы прыбытак), узрастаючы абсалютна, як і накладныя выдаткі,—дзякуючы росту таварнае масы, у проц. адносінах да звароту разьвіваецца так:

| | Абсалютна ў тыс. руб. | | | У %% па звароту па пакупн. цэнах | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Спажтаварыствы . . . . . | 5.992,1 | 7.793,7 | 9.752,0 | 9,70 | 9,90 | 10,00 |
| ЦРК . . . . . . . . . . . | 5.224,1 | 6.600,0 | 8.502,0 | 10,43 | 10,48 | 10.90 |
| Саюзы . . . . . . . . . | 1.630,3 | 2.093,6 | 2.361,0 | 4,42 | 4,25 | 3,78 |
| БКС . . . . . . . . . . . | 558,8 | 575,0 | 700,0 | 1,03 | 0,62 | 0,57 |

Такім чынам, у гуртавых зьвенчаках яно зьніжаецца, як вынік скарачэньня складзкіх апэрацый; у нізавых зьвенчаках некалькі павялічваецца, аднак толькі ў 1928-29 г. набліжаючыся да нормаў, устаноўленых СПА.

Рух *гандлёва-адміністрацыйных выдаткаў*, у разрезе двух асноўных складаючых груп—залежнай і незалежнай—характарызуецца наступнымі лічбамі:

**А. Залежныя:**

| | Абсалютна ў тыс. руб. | | | У %% да звароту | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Спажыўтаварыствы | 3.317,4 | 3.456,1 | 3.850,1 | 6,37 | 4,39 | 3,94 |
| ЦРК | 2.769,4 | 3.007,5 | 3.655,0 | 5,52 | 4,78 | 4,68 |
| Саюзы | 874,4 | 833,4 | 1.005,1 | 2,37 | 1,66 | 1,60 |
| БКС | 481,1 | 496,3 | 527,1 | 0,88 | 0,54 | 0,43 |

Такім чынам, зьніжэньне адноснага ўзроўню залежных выдаткаў атрымлівае сваё далейшае развіцьцё ў 1928-29 г., што абумоўліваецца разьвіцьцём тых рацыяналізатарскіх працэсаў, якія атрымалі сваю канкрэтную ўстаноўку ў кантрольных лічбах адпаведных галін працы (па тавараразвароце, арганізацыйным будаўніцтве, капітальным будаўніцтве і г. д.). Асноўнае ў гэтым працэсе—гэта рацыяналізацыя і патаненьне апарату, ня гледзячы на яго колькасны ўзрост (у зьвязку з ростам аб'ёму гандлёвае працы) і на падвышэньне сярэдняга ўзроўню зарплаты (асабліва для сель кіх працаўнікоў). Рашучымі прадпасылкамі такога патаненьня зьяўляюцца узбуйненьне спажывецкіх таварыстваў з ушчыльненьнем негандлёвага пэрсаналу, якое вынікае адгэтуль:

| | Па сыстэме ў тысячах | | |
|---|---|---|---|
| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
| Колькасьць платных працаўнікоў | 7.851 | 7.736 | 8,403 |
| Фонд заработнае платы | 4.562,3 | 4.809,0 | 5.525,5 |
| %% да звароту | 2,24 | 1,70 | 1,52 |
| У %% да папярэдняга году | — | 105 | 114 |
| Сярэдняя зарплата (агульн.) | 48 р. 42 к. | 51 р. 83 к. | 54 р. 75 к. |
| У %% да папярэдняга году | — | 107 | 106 |
| Сярэдняя зарплата адн. сел. работ. | 38 р. 50 к. | 40 р. 50 к. | 43 р. 08 к. |
| У %% да папярэдн. году | — | 105 | 107 |
| Сярэдн. гадав. нагрузка | 26,0 | 36,7 | 43,0 |
| У т. л на аднаго ганд. работн. | — | 54 | 61,5 |
| „ „ „ „ негандл. работ. | — | 111,0 | 143,0 |
| Суадносіны негандл. пэрсаналу да гандлёв. | | | |
| па нізовай сетцы | 1 : 1,6 | 1 : 2,3 | 1 : 2,8 |
| па саюзах і БКС | — | 2 : 1 | 2 : 1 |

У залежнасьці ад зарплаты, зьніжаецца адносны ўзровень і налічэньняў на зарплату.

Роўным чынам рацыяналізацыя гандлёва-гаспадарчых працэсаў, што разь іваецца, абумоўлівае і адноснае зьніжэньне гаспадарчых выдаткаў.

**Б. Незалежныя-ж выдаткі** разьвіваюцца інакш: зьніжаючыся некалькі ў гуртавых зьвенчаках, яны ўзрастаюць у нізовым зьвенчаку—спажыўтаварыствах і ЦРК, што абумоўліваецца выключна ўзмацненьнем

падатковага абкладаньня, якое непасрэдна закранае нізоўку і ня толькі паглынае некаторае зьніжэньне па іншых групах незалежных (арэнда, проц. за арэнду), але мае і ўплыў, у сэнсе павялічальным, на агульны ўзровень выдаткаў у спажыўтаварыствах і ЦРК; пры гэтым ацабліва значны рост незалежных дае 1928-29 г., хаця мы ўлічылі павялічэньне падатковых ставак у мінімальным разьмеры, г. зн. на 0,8 проц. да звароту (3,5 супроць 2,7).

**В. У выніку** атрымліваем такі параўнаўчы малюнак руху ўзроўню залежых і незалежных выдаткаў:

| | Залежныя | | | | Незалежныя | | | | Агульныя | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС. | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС | С. Т. | ЦРК | Р. С. | БКС. |
| 1926-27 г. . . . . . . . | 5,37 | 5,52 | 2,37 | 0,88 | 3,37 | 4,65 | 1,60 | 0,45 | 8,74 | 10,17 | 3,97 | 1,33 |
| 1927-28 г. . . . . . . . | 4,39 | 4,78 | 1,66 | 0,54 | 3,59 | 4,85 | 1,45 | 0,33 | 7,98 | 9,63 | 3,11 | 0,87 |
| 1928-29 г. . . . . . . . | 3,94 | 4,68 | 1,60 | 0,43 | 4,21 | 5,39 | 1,04 | 0,30 | 8,15 | 10,07 | 2,64 | 0,73 |

Адгэтуль прыбытковасьць працы спажыўкаапэрацыі, якая вызначаецца розьніцай паміж коштам пасярэдніцкіх паслуг (г. зн. накладныя выдаткі плюс налажэньні і выпадковыя прыбыткі) і ўзроўнем гандлёва-арганізацыйных выдаткаў, выявіцца ў наступных велічынях (у проц. да звароту па продажы):

| | 1926-27 г. | 1927-28 г. | 1928-29 г. | Нормы СПА |
|---|---|---|---|---|
| Спажыўтаварыствы . . . . . | 0,63 | 1,58 | 1,63 | 2,25 |
| ЦРК . . . . . . . . . . . . . . | 0,50 | 0,90 | 0,77 | 1,90 |
| Р. С. . . . . . . . . . . . . . | 0,23 | 0,95 | 1,00 | 1,00 |
| БКС . . . . . . . . . . . . . . | 0,22 | 0,25 | 0,35 | 0,75 |

Такім чынам, дзякуючы павышэньню падаткаў, узровень прыбытку ў нізавых зьвеньчаках і ў 1928-29 г. далёка не дасягае нормаў СПА (норма гэта дасягаецца толькі па райсаюзах), пры чым па рабоча-гарадзкой кааперацыі адзначаецца нават значнае пагоршаньне супроць мінулага году.

У выніку праламленьне выдаткаў звароту і кошту пасярэдніцкіх паслуг па каапэрацыйным цэнастварэньні характарызуецца наступнымі паказьнікамі (у правай частцы табліцы за 100 прынята продажная цана тавару; у левай частцы—за 100 прынята пакупная цана тавару для каапэрацыі):

| | У %% да чыстага звароту сыстэмы па прадажн. цэнах | | | | У %% да чыстага звароту сыстэмы па пакупн. цэнах | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 |
| Кошт пасярэдн. паслуг (выдаткі і страты) . . . . . | 19,08 | 18,77 | 17,36 | 17,28 | 24,51 | 28,32 | 21,46 | 21,33 |
| Прыбытак . . . . . . . . . . | 3,03 | 0,73 | 1,69 | 1,72 | 3,88 | 0,90 | 2,05 | 2,12 |
| Усяго кошт паслуг для спажыўца . . . . . . . . . | 22,11 | 19,50 | 19,05 | 19,00 | 28,39 | 24,22 | 23,51 | 23,45 |
| Кошт тавару . . . . . . . . | 77,89 | 80,50 | 80,95 | 81,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 | 100,00 |
| **Усяго. . .** | **100,00** | **100,00** | **100,00** | **100,00** | **128,39** | **124,22** | **123,51** | **123,45** |

Значыць, калі ў 1926-27 г. спажывец з кожных 100 руб., патрачаных на тавар, 22 руб. 11 кап. плаціў за прасоўваньне гэтага тавару, а самага тавару набываў толькі на 77 р. 89 к.,—то ў далейшым адзначаецца паступовае патаненьне кошту паслуг.

## Фінансы

Фінансавая гаспадарка сыстэмы, зьяўляючыся асновай, якая вызначае пасьпяховасьць выкананьня гаспадарчае праграмы спажыўкаапэрацыі, пры ўмовах неабходнасьці пераабсталяваньня тэхнічнае базы, а значыць і капітальных затрат, пры ўмове росту гандлёва-нарыхтоўчае працы спажывецкае каапэрацыі, вымагае большае да сябе ўвагі, тым больш пры наяўнасьці крайняе кан'юнктурнае неўраўнаважанасьці рынку.

Сыстэма спажыўкаапэрацыі БССР на працягу апошніх год ня выходзіла з паласы фінансавых цяжкасьцяй, што абумоўлівалася наступнымі асноўнымі прычынамі:

а) невыстарчальным ўцягненьнем сродкаў спажыўца ў каапэрацыю ў выглядзе паявых узносаў;

б) рэзкім зьніжэньнем з 1926-27 году прыбытковасьці працы ўсіх зьвенчакоў сыстэмы, як вынік зьніжэньня цэн без выстарчальнага скарачэньня выдаткаў;

в) загрузкай значных зваротных сродкаў ў капітальнае будаўніцтва, як вынік вострае патрэбнасьці забясьпечыць рост гандлёвае працы адпаведнай тэхнічнай базай;

г) некаторай затаваранасьцю паасобных зьвенчакоў сыстэмы з аднаго боку, і загрузкай балянсаў рознымі дэбіторскімі артыкуламі, з другога;

д) пагоршаньнем ўмоў разрахунку з дзяржпрамысловасьцю, што паводле арыентыровачных падлікаў каштавала сыстэме каля 850.000 руб.

Намечаныя кантрольнымі лічбамі на 1928-29 год мерапрыемствы складаюцца з фінансавага ўмацаваньня сыстэмы ў меру максымальна магчымага зьнішчэньня неадпаведнасьці абхопу гаспадарчае працы спажыўкаапэрацыі яе фінансавае базы.

Асноўнымі паказьнікамі ўстановак, што даюцца кантрольнымі лічбамі на 1928-29 год у галіне фінансаў, трэба адзначыць наступнае.

Узмацненьне значэньня паянамнажэньня, як асноўнага спосабу прыцягненьня сродкаў ад насельніцтва, да стварэньня ўласных капіталаў пры адначасовым пераліваньні гэтых сродкаў з ніжэйшых зьвенчакоў у вышэйшыя, адпаведна ролі апошніх у абслугоўваньні ніжэйстаячых зьвенчакоў, якая ўзрастае.

Цікавымі зьяўляюцца лічбовыя паказьнікі паданае ўстаноўкі:

| | Адносіны паявых капіталаў у суме балянсу | | | | Рост паяв. капіт. у $^0/_0{}^0/_0$ да папярэд. году | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1928 г. | 1/X 1929 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1928 г. | 1/X 1929 г. |
| Селск. спажтаварыствы . . . . . | 8,7 | 15,8 | 24,3 | 38,2 | 167,9 | 269,0 | 195,0 |
| ЦРК і гар. спажтаварыствы . . . . | 4,0 | 5,3 | 11,9 | 16,2 | 176,9 | 234,5 | 164,3 |
| Райсаюзы . . . . . . . . . . . | 1,9 | 3,3 | 9,7 | 18,1 | 202,2 | 311,0 | 184,5 |
| БКС . . . . . . . . . . . . . . | 1,8 | 4,4 | 10,2 | 16,4 | 285,1 | 234,4 | 215,0 |

Падвышэньне рэнтабэльнасьці працы паасобных зьвенчакоў сыстэмы за кошт скарачэньня залежных выдаткаў і правядзеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў зьяўляецца наступным фактарам ўзмацненьня фінансавага становішча.

Аднак падвышэньне прыбытковасьці ў спажывецкіх таварыствах і ЦРК значна стрымліваецца павялічэньнем падатковага абкладаньня гэтых зьвенчакоў.

Затраты на капітальнае будаўніцтва ўводзяцца ў строгую норму, у сэнсе затрат на яго ўласных сродкаў, што пацьвярджае наступная даведка:

| Усяго будаўніцтва | Крыніцы | |
|---|---|---|
| | Уласныя сродкі | Прыцягн. сродкі |
| 1.866 | 671 | 1.195 |

Аднак, агульная сума будаўніцтва зусім адпавядае асноўнаму пляну будаўніцтва, разлічанаму на паскарэньне пабудовы тэхнічнае базы каапэрацыі, у зьвязку з роляю яе ў тавараздвароце рэспублікі, якая ўзрастае.

Паскарэньне капіталазвароту сыстэмы, што знаходзіць сваё адлюстраваньне ў кантрольных устаноўках на будучы год, павінна зьявіцца наступным зьвяном мерапрыемстваў па палепшаньні фінансаў.

У зьвязку з некаторымі зьменамі тавараўзаемаадносін, як унутры сыстэмы, так і паміж апошняй і дзяржпрамысловасьцю (транзыт, папярэднія заказы і г. д.), разьмеры таварных запасаў павінны быць перагледжаны.

| Зьвяно | Запасы тавараў і сырцу ў днёх | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1928 г. | 1/X 1929 г. |
| Спажыў. таварыствы | 33,9 | 28,2 | 29,8 | 30,2 |
| ЦРК і гар. спажыў. таварыствы | 51,2 | 46,1 | 41,9 | 37,2 |
| Саюзы | 41,5 | 37,1 | 32,0 | 28,8 |
| БКС | — | 38,0 | 37,5 | 29,9 |

Паданая справка сьведчыць аб скарачэньні таварных запасаў у днёх, г. зн. аб паскарэньні шпаркасьці тавараздвароту. Абсалютная лічба запасу таварных мас у сыстэме ў 1928-29 г. супроць 1927-28 г. узрастае на 15,4 проц., што не перашкаджае ім (таварным масам) быць у адносных выражэньнях (дні запасу) значна ніжэй супроць мінулага году.

Праўда, у даным выпадку памяншэньне таварных запасаў ёсьць вынік ня толькі нашага плянаваньня, але і вынік агульнага недазабесьпячэньня сыстэмы таварамі.

Наступным мерапрыемствам па паскарэньні капіталазвароту—кантрольныя лічбы высоўваюць мабілізацыю балянсу шляхам памяншэньня дэбіторскае запазычанасьці, што зьяўляецца лёгічным вынікам росту ўласных сродкаў у паасобных зьвенчаках сыстэмы, з аднаго боку, і цьвёрдай устаноўкаю на скарачэньне заборшчыкаў, асабліва ў сельспажыўтаварыствах, з другога.

Нарэшце, кантрольныя лічбы на 1928-29 г. упяршыню адбіваюць пытаньне аб узмацненьні прыцягненьня сродкаў насельніцтва ў зварот каапэрацыі ў выглядзе ўкладаў.

Разьмер меркаваных апэрацый па ўкладах наступны: на 1/X-1928 г. укладаў па балянсе сельспажыўтаварыстваў арыентыровачна 200.000 руб., на 1/X-1929 г. мяркуецца давесьці да 300.000 руб.

Па сетцы ЦРК і па гарадзкіх спажывецкіх таварыствах на 1/X-1928 г. вызначана 30.000 руб., на 1/X-1929 г. павінна быць 200.000 руб.

У выніку суадносіны ўласных і прыцягнутых сродкаў будуць наступныя:

| | На 1 руб. уласных прыпадае пазычаных | | | | На 1 р. уласн. у звароце прыпад. пазыч. (без доўгатэрм. пазык) | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1928 г. | 1/X 1929 г. | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1928 г. | 1/X 1929 г. |
| Спажыў. таварыствы | 1,4 | 1,3 | 0,70 | 0,39 | 1,33 | 1,20 | 1,17 | 0,69 |
| ЦРК і гар. спаж. таварыствы | 3,5 | 4,0 | 2,36 | 1,93 | 3,62 | 5,32 | 3,66 | 2,81 |
| Саюзы | 5,6 | 5,8 | 3,01 | 1,55 | 6,38 | 5,84 | 3,32 | 1,91 |
| БКС | — | 4,0 | 2,55 | 1,90 | — | 5,35 | 3,95 | 3,37 |

Такім чынам узмацненьне прыцягненьня сродкаў ад насельніцтва ў выглядзе паёў і ўкладаў, плянаваньне на магчымым узроўні ўласных капіталаўкладаньняў у будаўніцтва і паскарэньне капіталазвароту атрымліваюць у якасьці свайго лёгічнага выніку некаторае аздараўленьне гаспадаркі сыстэмы.

## Капітальнае будаўніцтва

Капітальнае будаўніцтва на 1928-29 год упяршыню падлягае плянаваньню і вызначаецца кіруючымі ідэямі, закладзенымі ў аснове пяцігадовага пляну, г. зн.:

1) перабудова складзкае гаспадаркі усіх зьвенчакоў з кропкі гледжаньня рацыяналізацыі і патаненьня таварапрасоўваньня і захаваньня таварных мас;

2) будаўніцтва крам у гарадох і сельскіх мясцовасьцях, як умова паляпшэньня тэхнікі і якасьці абслугоўваньня спажыўца;

3) пашырэньне і пераабсталяваньне існуючае сеткі сталовак і хлебапякарань да разьмераў, якія забясьпечвалі-б сапраўднае каапэрацыйнае ўзьдзеяньне на бытавыя ўмовы рабочага насельніцтва.

Пералічаныя меркаваньні знаходзяць сваё канкрэтнае ажыцьцяўленьне ў 1928-29 годзе, як пачатак пяцігадовага будаўніцтва, ў наступным:

### А. Крамавае будаўніцтва

Па рабоча-гарадзкой каапэрацыі намечана пабудаваць у найбольш буйных гарадох 8 магазынаў, у сельскіх мясцовасьцях мінімальна 100—110 крам.

### Б. Складзкае будаўніцтва

Пабудова 10 складаў у райсаюзах (галоўным чынам каля чыгуначных станцый) і 4 складаў у Цэрабкопах.

### В. Грамадзкае харчаваньне

Пабудова сталовак: у г. Рэчыцы аднае з прапускной здольнасьцю у дзень 1.000 абедаў, у Віцебску аднае—2.000 абедаў.

Намечана таксама прыступіць да пабудовы фабрыкі-кухні з прапускной здольнасьцю ў 12.000 абедаў.

Па сельскім сэктары намечана ў раёне дзейнасьці кожнага райсаюзу абсталяваць па 1 чайной-закусачнай, якая павінна, апрача функцый грамадзкага харчаваньня, мець характар грамадзка-культурных пачынаньняў у каапэрацыі.

### Г. Хлебапячэньне

Мяркуецца скончыць пачатую пабудову хлебазаводаў у Гомлі і Віцебску і прыступіць да пабудовы ў Бабруйску камбінаванага хлебазаводу з млынам.

Нарэшце, пераабсталяваньне пякарань з частковай мэханізацыяй мяркуецца ў Воршы, Клімавічах і інш. дробных гарадох.

Наступныя лічбы дадуць магчымасьць уявіць укладаньні па паасобных відах будаўніцтва, а таксама па аб'ектах (у тыс. руб.):

| Хто будуе | Склады | Крамавае будаўніцтва | Хлебапячэньне | Грамадзк. харчаван. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| ЦРК | 100 | 105 | 419 | 395 | 1.019 |
| Спажыўтаварыствы | — | 500 | — | 53 | 553 |
| Саюзы | 294 | — | — | — | 294 |
| **Усяго** | **394** | **605** | **419** | **448** | 1.866 |

Уласных сродкаў мяркуецца ўкласьці 671.000 руб., а астатняе пакрыцьцё зрабіць з крыніц банкаўскіх, бюджэтных і спэц. фондаў.

## Культурна-асьветная праца

Па меры ўсё большага гаспадарчага разьвіцьця беларускае спажыўкаапэрацыі і ўсё большага ператварэньня яе ў сыстэму вялізнага масавага руху задача якаснага паляпшэньня ўсіх галін яе працы ўсё больш высоўваецца на першы плян. Як сыстэма масавага руху, спажыўкаапэрацыя ня зможа ўступіць на шлях сапраўднага пераходу ад колькасьці да якасьці без уцягненьня ў гэтую справу шырокіх каапэраваных мас. Але актыўны ўдзел мас у культурным каапэрацыйным будаўніцтве непарыўна зьвязаны з агульным уздымам культурнага ўзроўню пайшчыкаў. У гэтых адносінах на спажыўсыстэму ўскладаецца партыяй і савецкай грамадзкасьцю вялізарная і адказная задача. Таму, пры плянаваньні дзейнасьці спажыўкаапэрацыі на 1928-29 г., пытаньням культасьветпрацы аддана асаблівая ўвага, у адпаведнасьці з яе значэньнем, якое падкрэсьліў апошні сход упаўнаважаных БКС. Гэты сход, перш за ўсё, забясьпечыў за культасьветнай працай моцную і пэўную матар'яльную базу, на аснове падвышэньня проц. адлічэньняў ад зваротаў і прыбыткаў. Ажыцьцяўленьне гэтае дырэктывы ствараe на 1928-29 г. наступныя рэсурсы (у тысячах).

| | Каштарысныя асыгнаваньні (са звароту) | Культфонд (з прыбыткаў) | Фонд на бытав. мерапрыемствы (з прыбыт.) | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Сельск. спажыў. т-вы | 243,8 | 124,3 | 124,3 | 492,4 |
| ЦРК і гар. т-вы | 39,0 | 82,5 | 55,0 | 176,5 |
| Райсаюзы | 31,0 | 44,8 | — | 75,8 |
| БКС | 37,3 | 23,1 | — | 60,4 |
| **Усяго** | **351,1** | **274,7** | **179,9** | **805,3** |

Пэўная частка культфондаў нізавых зьвенчакоў будзе перадана вышэйшым у мэтах стварэньня выстарчальных цэнтралізаваных фондаў

на ажыцьцяўленьне буйных культурных мерапрыемстваў і для аказаньня падтрыманьня ў галіне культурнага будаўніцтва найбольш слабым нізавым арганізацыям.

Зьмест культурна-асьветнае працы на 1928 год., адбіваючы сабой тую агульную лінію і ўстаноўку, якая дана 8-м сходам упаўнаважаных, выявіцца ў наступным:

### А. Па лініі каапэрацыйна-асьветнай

*Курсавая праца*, як асноўная і найбольш мэтазгодная форма перадачы кадрам нізавых каапэратараў патрэбных ім практычных ведаў ва ўсіх галінах. Мяркуюцца два тыпы курсаў: а) пры паасобных саюзах і ЦРК, у раённым маштабе, кароткатэрміновыя (2—3 тыдні) з вузка-спэцыяльнымі сьціснутымі праграмамі; б) цэнтральныя пры БКС—доўгатэрміновыя (2—3 месяца) з больш паглыбленай прапрацоўкай прадметаў.

*Масавая-ж праца* па падрыхтоўцы шырокіх кадраў каапактыву сканцэнтроўваецца на мясцох і атрымлівае свае афармленьне на 1928-29 г.

*а) па рабоча-гарадзкой каапэрацыі* ў арганізацыі пры кожным ЦРК і гар. с. т. па адным двухмесячным каапгуртку (ўсяго на 600 слухачоў), і ў заснаваньні пры 4 найбольш буйных ЦРК (Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў) аднагадовых школ каапэрацыйнае пісьменнасьці (усяго на 180 слухачоў);

*б) па сельскай сетцы*—90 двухмесячных гурткоў на 2 700 чал. і 110 пяцідзёнmen курсаў каапэрацыі на 4.400 чалавек, для навучаньня элемэнтарным асновам каапэрацыйнае пісьменнасьці членаў рэвізійных, крамавых, аргасьветных камісій і актыву ўпаўнаважаных наогул.

Па лініі жанпрацы намечана 16 двухмесячных гурткоў каапэрацыйнае пісьменнасьці на 480 чал. пры найбольш буйных таварыствах; 45 трохмесячных гурткоў кройкі і шыцьця на 1.1ʒ0 чалавек хатніх гаспадынь і моладзі.

### Б. Па лініі агульна-культурнага абслугоўваньня

У 1928-29 г. закладваецца пачатак сыстэматычнае кінофікацыі вёскі і насаджэньня шэрагу сацыяльна-грамадзкіх устаноў, у асноўным накіраваных да сямейнага вызваленьня жанчыны.

У галіне кінофікацыі намечана абсталяваньне 34 кіно-перасовак і аднае стацыянаркі, на што забраніроўваецца 20 проц. агульнае сумы культфондаў.

Бытавая праца на 1928-29 год выяўляецца ў арганізацыі:

| | У гарадох | На вёсцы |
|---|---|---|
| Дзіцячых пляцовак | 10 | 20 |
| Ясьляў-пляцовак | — | 60 |
| Сталых ясьляў | — | 11 |
| Дзіцячых садоў | 5 | 5 |
| Дзіцячых ачагоў | 4 | — |
| Магаз. і куткоў „Маці і дзіця“ | 10 | 100 |
| Дзіцячых кансультацый | 1 | — |
| **Лік дзяцей** | **930** | **4750** |

Лічбы гавораць самі пра сябе.

Апрача ўсіх зазначаных мерапрыемстваў, вялізарнае разьвіцьцё набывае гандаль кнігай, у якасьці праваднікa якой у глыбіню вёскі спажывецкай каапэрацыі надаецца роля асноўнага каналу.

Роўным чынам, да канца 1928-29 г. будуць уцягнены ў кніжны гандаль і ўсе ЦРК на основе шырокага крэдытаваньня спажыўца.

Увесь гэты вялізарны плян разьвіцьця пабудаваны на рэальнай матар'яльнай базе, якая спэцыяльна ствараецца спажыўсыстэмаю пры актыўным падтрыманьні Цэнтрасаюзу і камітэту па справах друку СНК БССР у выглядзе кніжнага фонду ў суме 145.000 руб. дзеля стварэньня незалежнага становішча кніжнага гандлю ад агульных зваротных сродкаў каапэрацыі.

Вось у асноўным тое кола працы, якое намечаецца кантрольнымі лічбамі на 1928-29 год. Гэты год зьяўляецца першым адрэзкам пяцігадовага пляну і таму набывае асаблівае значэньне ў сэнсе таго вялізарнага зруху, ў галіне культпрацы, які ён мае прынесьці.

---

Жукаў

# Культурна-асьветная праца сыстэмы сельгаскаапэрацыі

*на 1928-29 апэр. год*

Разьвіцьцё сыстэмы с.-г. каапэрацыі ставіць перад апошняй пытаньне аб разьвязваньні цэлага шэрагу задач у галіне падрыхтоўкі новых і перападрыхтоўкі кадраў тых працаўнікоў, якія ўжо працуюць.

Разьвязваньне гэтае задачы ўскладняецца яшчэ тэю акалічнасьцю, што спэцыялізацыя, якая ўтвараецца ўнутры сыстэмы, высоўвае неабходнасьць спэцыялізацыі і паасобных груп працаўнікоў.

Калі да гэтага часу сыстэма с.-г. каапэрацыі мела патрэбу толькі ў працаўнікох па унівэрсальнай сетцы, дык у сучасны момант разьвіцьцё спэцыяльных форм каапэрацыі вымагае з свайго боку ўтварэньня спэцыяльнага абслугоўваючага пэрсаналу.

Разьвязваньне гэтае праблемы толькі ў напрамку падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў ня будзе поўным разьвязваньнем, так як і ў першым і ў другім выпадку неабходна ўтварэньне рэзэрву, з якога можна было-б чэрпаць новыя сілы.

Таму ўзьнікае неабходнасьць, роўналежна з працаю па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы працаўнікоў, такім-жа самым інтэнсыўным тэмпам разьвіваць дзейнасьць у галіне вылучэньня і прыцягненьня да практычнае працы каапэрацыі каапэрацыйнага актыву.

Такім чынам разьвязваньне задачы з утварэньнем новых кадраў працаўнікоў мяркуецца па наступных напрамках:

а) утварэньне і выхаваньне каапэрацыйнага актыву;

б) падрыхтоўка новых кадраў, і

в) перападрыхтоўка практычных працаўнікоў.

Перш чымся перайсьці да выкладаньня плянавых меркаваньняў на 1928-29 год у галіне падрыхтоўкі працаўнікоў сыстэмы с.-г. каапэрацыі, трэба спыніцца на характарыстыцы ступені патрэбы ў працаўнікох каапэрацыі.

Лічбы па пяцігадовым пляне будаўніцтва сыстэмы с.-г. каапэрацыі даюць у гэтым кірунку наступны малюнак (у адносіне 1928-29 г.):

| Назва спэц. інстррктароў і іншых працаўнікоў | Колькасьць аб'яднан. | Будзе патрэбна інструктароў | Маецца інстр. | Недахват |
|---|---|---|---|---|
| Інструктары па с.-г. крэд. сетцы . . . . . . | 358 | 30 | 18 | 12 |
| Інструктары па садова-гародніцтву і пчалярству . . . . . . . . . . . . . . | 158 | 8 | 2 | 6 |
| Інструктары па малочнай гаспад. . . . . . | 440 | 24 | 13 | 11 |
| Майстры, масларобы, сыравары . . . . . . . | 440 | 440 | 250 | 190 |
| Бухгальтары і рахункаводы для нізавое сеткі . . . . . . . . . . . . . . . . . | 358 | 1100 | 704 | 396 |
| Старшыні праўленьня с.-г. кр. т-ваў . . . . | 358 | 358 | 300 | 82[1]) |

Вызначаючы, такім чынам, патрэбу сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі ў асноўных групах каапэрацыйных працаўнікоў на 1928-29 апэр. год, неабходна спыніцца на тых плянавых меркаваньнях, якімі с.-г. каапэрацыя мяркуе пакрыць вышэйпаданую патрэбу.

Па пляне на 1928-29 апэр. год мяркуецца правесьці наступныя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы каапэрацыйных працаўнікоў.

## А. Па малочнай сетцы

У 1928-29 годзе для нармальнага абслугоўваньня нізавое сеткі малочна-жывёлагадоўчае каапэрацыі кваліфікаваным тэхнічным пэрсаналам мяркуецца правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы майстраў масларобства у г. г. Менску і Гомлі, праз якія будзе прапушчана па 60 чалавек, усяго, 120 чалавек.

Тэрмін курсаў 3 месяцы і правядзеньне іх вызначана ў пэрыод часу пачынаючы з сьнежня месяца.

2) Курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы майстраў сыраробства і масларобства ў г. Магілеве; будзе прапушчана праз гэтыя курсы—70 чалавек, тэрмін 3 месяцы.

Такім чынам патрэба ў кваліфікаваных майстрах малочнае гаспадаркі на 1928-29 апэр. год у 190 адзінак цалкам пакрываецца за рахунак правядзеньня гэтых курсаў.

3) Для аднолькавае і правільнае пастаноўкі рахункаводнае справы ў малочных таварыствах прапанавана правесьці ўва ўсіх акругах 8 кароткатэрміновых (двухтыднёвых) курсаў, праз якія будзе прапушчана па 25 чалавек, а ўсяго 200 чалавек.

Рахункаводныя курсы мяркуецца правесьці ў сьнежні-лютым месяцы пры акруговых цэнтрах.

## Б. Па іншых відах каапэрацыі

4) Вызначаючы патрэбу на 1928-29 апэр. год сельска-гаспадарчае каапэрацыі ў старшынях праўленьняў с.-г. крэд. таварыстваў у 82 чалавекі якая складаецца ў неабходнасьці іх для таварystваў, якія ўноў арганізоўваюцца ў ліку 58 і для замены старшынь па розных прычынах у ліку

[1]) 58 ва ўноў арганізав. т-вы і 24 у парадку замены.

24 чал., трэба адзначыць, што патрэба гэтая будзе пакрывацца за рахунак правядзеньня ў 1928-29 апэр. годзе курсаў для старшынь с.-г. крэдытных тэварыстваў у г. г. Менску і Віцебску, праз якія будзе прапушчана па 60 чал., а ўсяго 120 чалавек.

Тэрмін гэтых курсаў вызначаны ў адзін месяц і правядзеньне іх мяркуецца ў чэрвені—ліпені месяцах 1929 г.

5) Для перападрыхтоўкі ў мэтах удасканаленьня і папаўненьня ведаў рахункаводаў сельска-гаспадарчых крэд. тавариствау вызначана правядзеньне ў 1928-29 г. рахункаводных курсаў ў Менску і Віцебску, праз якія будзе прапушчана ўсяго 120 чал., лічачы на кожныя курсы па 60 чал. Тэрмін рахункаводных курсаў устаноўлены ў $1^1/_2$ месяцы. Час правядзеньня той самы, як і для старшынь праўленьняў.

Улічваючы тую акалічнасьць, што Віцебскім каапэрацыйным тэхнікумам будзе ў сваю чаргу выпушчана 30 рахункаводаў, можна канстатаваць, што ў 1928-29 апэр. годзе сыстэма с.-г. каапэрацыі па с.-г. крэдытнай сетцы будзе мець 150 кваліфікаваных рахункаводаў.

6) У мэтах падрыхтоўкі ніжэйшага пэрсаналу, як вытворчага, так і эксплёатацыённага напрамку, ў галіне садаводзтва і гародніцтва вызначана правядзеньне курсаў па садаводзтве ў Менску або Гомлі на 50 чал. Тэрмін курсаў 1 месяц. Час правядзеньня гэтых курсаў сьнежань-студзень месяцы 1929 г.

Курсы па садаводзтве мяркуецца камплектаваць з прадстаўнікоў калгасаў і нізавое сеткі садова-агароднае каапэрацыі, пры чым першыя будуць падрыхтоўвацца ў кірунку адбудаваньня садовае гаспадаркі, а другія ў кірунку арганізацыі і практыкі збытавое дзейнасьці.

7) Для падрыхтоўкі кваліфікаваных працаўнікоў у справе загатоўкі яек, птушак і паляпшэньня стада птушак, вызначана правесьці курсы па птушніцтву, праз якія будзе прапушчана 50 чалавек. Тэрмін курсаў 2 месяцы і камплектаваньне іх будзе ўтварацца за рахунак прадстаўнікоў нізавое каапэрацыйнае сеткі.

Праводзіцца курсы па птушніцтве будуць пры Горацкай сельска-гаспадарчай акадэміі ў студзені-лютым 1929 г.

8) Для перападрыхтоўкі кіраўнікоў калектыўных гаспадарак у 1928-1929 апэр. годзе вызначана правесьці курсы тэрмінам у 2 месяцы.

Гэтымі курсамі будзе ахоплена 300 чал., пры чым правядзеньне гэтых курсаў мяркуецца пры наступных с.-г. тэхнікумах:

| | | |
|---|---|---|
| а) Варонецкі | 75 | чал. |
| б) Марына-Горскі | 75 | „ |
| в) Чырвона-Бярэскі | 77 | „ |
| г) Вузьлянская малочная школа | 75 | „ (Орша). |

Час правядзеньня курсаў разьлічаны на пэрыод лістапад-люты (па два камплекты).

9) Маючы на мэце падрыхтоўкі кваліфікаваных каапэрацыйных працаўнікоў-інструктароў і аграномаў, вызначна правесьці 2-мясячныя курсы для інструктароў і аграномаў па калгасах, крэдытных и малочных таварыствах.

Разьмеркаваньне па спэцыяльнасьці наступнае:

| | | |
|---|---|---|
| а) па калгасах | 25 | чал. |
| б) „ таварыствах | 10 | „ |
| в) „ малочн. т-вах | 15 | „ |
| Усяго | 50 | чал. |

Курсы для інструктароў і аграномаў будуць праведзены при Горацкай с. г. акадэміі ў лютым-сакавіку месяцах.

10) Мяркуецца правядзеньне месячных курсаў для загатоўцаў нізавое сеткі ў кожнай акрузе. Праз курсы будзе праушчана 200 чалавек.

## В. Па ільнаводзтву

У гэтай галіне мяркуецца правесьці курсы для сялян-ільнаводаў у колькасьці 20, пры чым курсы па акругах разьмяркоўваюцца наступным парадкам:

| | |
|---|---|
| Віцебск | 5 |
| Полацак | 5 |
| Орша | 3 |
| Магілеў | 3 |
| Гомель | 3 |
| Менск | 1 |

Курсы для сялян-ільнаводаў вызначаюцца тыднёвыя з разьлікам правядзеньня іх у пэрыодзе лістапад-люты мес. Мэта гэтых курсаў—даць магчымасьць селяніну-ільнаводу падрабязна азнаёміцца ня толькі з пытаньнямі культуры і першараднаю апрацоўкаю лёну, але і з арганізацыяй гаспадаркі ў цэлым, вывучыць значэньне шматпольных севазваротаў і другіх гаспадарчых момантаў, якія цесна зьвязаны з рацыянальна пастаўленым ільнаводзтвам.

Курсы праводзяцца пры с.-г. гуртках або каапэрацыйных аб'яднаньнях.

## У галіне работы з каапэрацыйным актывам

У справе ўзмацненьня і прыцягненьня каапэрацыйнага актыву вызначаецца правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Канфэрэнцыі-зьезды для каапэрацыйнага актыву сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў (членаў праўленьняў, рэв. камісій, часткі ўпаўнаважаных). Гэтыя зьезды мяркуецца правесьці па 5 у кожнай акрузе, а ўсяго, значыцца, 40. Тэрмін іх тыднёвы. Выходзячы з разрахунку, што праз кожныя з іх будзе прапушчана па 30 чалавек, усяго такім чынам праз гэтыя зьезды-канфэрэнцыі пройдзе 1.200 чалавек.

2) Курсы-дзесяцідзённыя для каапэрацыйнага актыву і майстраў па цэльным малаку. Мяркуецца прапусьціць праз гэтыя курсы 400 чалавек.

Апрача гэтых мерапрыёмстваў у галіне выгадоўваньня каапэрацыйнага актыву павінны быць паглыблены і пашыраны наступныя спосабы ўцягваньня актыўных пайшчыкаў у практычную работу каапэратыву:

а) уцягненьне пайшчыкаў у абгаварэньне каапэрацыйных пытаньняў праз запрашэньне іх на пасяджэньні выбарчых органаў;

б) ўцягненьне членаў каапэратыву ў справу правядзеньня ўсялякіх кампаній;

в) скарыстаньне справаздачна - перавыбарчых кампаній у галіне разьвіцьця каапэрацыйнае грамадзкасьці на вёсцы.

Гэтыя і цэлы шэраг іншых падрабязна распрацаваных мерапрыемстваў будуць дапамагаць і дапаўняць правадзімую сыстэму курсаў у галіне ўтварэньня новых кадраў каапэрацыйных працаўнікоў.

## Іншыя культурныя мерапрыемствы

Не малаважную ролю ў гэтым жа кірунку павінны таксама адыграць вызначаныя па пляну на 1928-29 апэр. год іншыя культурныя мерапрыемствы.

1) Арганізацыя бібліотэк і забесьпячэньне праз іх літаратурай. У 1928-29 годзе мяркуецца арганізаваць бібліотэкі пры с.-г. крэд. т-вах і малочных таварыствах, калгасах і акруговых саюзах:

| Пазва аб'ядн, пры якіх будуць арг. бібліотэкі | Колькасьць аб'яднан. | Кошт 1 компл. бібл. у рублях | Кольк. компл. | Агульная сумма ў рублях |
|---|---|---|---|---|
| С.-г. крэд. т-вы 50 проц. | 180 | 30 | 2 | 5.400 |
| Мал.- жыв. т-вы 30 „ | 148 | 30 | 1 | 4.400 |
| Калгасы 50 проц. | 495 | 20 | 2 | 9 900 |
| Акр. саюзы 100 проц. | 8 | 500 | 1 | 4.000 |
| **Усяго** | — | — | — | **23.740** |

2) Апрача гэтага, ёсьць меркаваньне арганізаваць падпіску на каапэрацыйны часопіс „Шлях каапэрацыі“ і часопіс „Малочная гаспадарка“ з такім разьлікам, каб усе с.-г. крэд. і малочныя таварыствы былі падпішчыкамі на гэтыя выданьні.

3) У галіне пытаньняў ільнаводзтва ў 1928-29 апэр. годзе мяркуецца правесьці сярод сялянства, асабліва ў ільнаводных акругах цэлы шэраг лекцый і гутарак, а таксама распаўсюдзіць масу літаратуры.

Выдаткі і абхоп гэтае работы будзе характарызавацца наступнаю табліцай:

| НАЗВА АКРУГІ | Патрэбна сродкаў: На лекцыі | Патрэбна сродкаў: На літаратуру | Усяго сродкаў |
|---|---|---|---|
| Віцебская | 800 | 400 | 1.200 |
| Полацкая | 800 | 400 | 1.200 |
| Аршанская | 500 | 250 | 750 |
| Магілеўская | 400 | 200 | 600 |
| Гомельская | 300 | 150 | 450 |
| Менская | 200 | 100 | 300 |

Пералічаныя мерапрыемствы на 1928-29 апэрацыйны год у галіне культурна-асьветнае дзейнасьці сыстэмы с.-г. каапэрацыі павінны быцьвыкананы і паслужыць пачаткам плянавае работы ў галіне культурнае асьветнае дзейнасьці.

---

Ш. Бон

# Стан жыльлёва-арэнднае каапэрацыі на Беларусі

Мінулы 1927 год прайшоў у жыльлёва-арэнднай каапэрацыі Беларусі пад знакам вышукваньня найлепшых арганізацыйных форм унутры, максымальнага разьвіцьця свае гаспадарчае дзейнасьці і завастрэньня ўвагі на каапэрацыйна-асьветнай і культурна-бытавой дзейнасьці сярод сваіх членаў.

Праведзены асноўны ўлік сыстэмы дае магчымасьць атрымаць дасканальнае ўяўленьне аб стане арэнднае каапэрацыі на 1/І—1928 г.

На 1/І 1928 г. ў 1.400 дамаўладаньнях, якія арандуюцца ЖАКТ‘амі пражывае каля 50.000 жыхароў. За год лік каапэраваных жыхароў павялічыўся на 20 проц.

Звыш 80 проц. насельніцтва прыходзіцца на рабочых і служачых; непрацоўны элемэнт складае ўсяго 1,65 проц. па сваёй удзельнай вазе супроць 2,11 проц. у 1926 г. Апошняе ясна паказвае на тое, на колькі нераабаснаваны нападкі на арэндную каапэрацыю за тое, што яна аддае жыльлёвую плошчу непрацоўным элемэнтам.

Пры росьце ліку жыхароў на 20 проц. маецца рост членаў на 32 проц. Усяго членаў 11.511 чалавек, з якіх звыш 17 проц. жанчын. Дзякуючы праведзенай кампаніі па ўцягненьні ў лік членаў хатніх гаспадынь, удзельная вага апошніх павялічылася на 3,5 проц.

Рабочых сем‘яў з заработкам гаспадара ў сям‘і да 100 руб. у месяц пражывае ў дамох ЖАКТ‘аў 90 проц., а сем‘яў служачых—83 проц.

Дзякуючы агульнаму жыльлёваму крызысу, які наглядаецца, звыш $^{2}/_{3}$ насельніцтва ЖАКТ'аў жыве на плошчы ніжэй санітарнае нормы. Нармальная жылая плошча прыходзіцца толькі на 16 проц. насельніцтва. Апошняя частка нібы «раскошнічае».

Зразумела, што ў лепшых кватэрных умовах знаходзяцца служачыя, бо катэгорыя рабочых у сваёй большасьці ў дамаўладаньнях ЖАКТ'аў зьяўляецца «прышлым элемэнтам».

У сучасны момант у карыстаньні арэнднае каапэрацыі знаходзіцца 2297 дамоў з жылою плошчаю 375.000 кв. мэтраў. Апроч таго, ЖАКТ'амі эксплёатуецца до 70.000 кв. мэтр. гандлёвае плошчы. Арэндная плата за гандлёвую плошчу ідзе ў карысьць ЖАКТ'аў ня поўнасьцю, а толькі часткова, у памеры ад 25 да 100 проц.

Значная частка гандлёвае плошчы, якая знаходзіцца ў дамох ЖАКТ'аў, эксплёатуецца непасрэдна Камгасам, дзякуючы чаму ўтвараецца як-бы гаспадарка ў гаспадарцы. Гэтая акалічнасьць, бязумоўна, кепска адбіваецца на гаспадараньні ЖАКТ'аў і таму пажадана было-б яе зьнішчыць шляхам перадачы гэтае плошчы ў эксплёатацыю таварыстваў.

Па гэтых дамаўладаньнях ЖАКТ'ы абавязаліся дагаварамі з аддзеламі Камгасу зрабіць рэмонты на суму, прыблізна, 4.500.000 руб. На 1/I 1928 г. ЖАКТ'амі было зроблена рэмонту на суму звыш 2.600.000 р. Затрата такое сумы адбілася на стане жылфонду і супыніла яго далейшае разбурэньне.

У некаторых ЖАКТ'ах ужо прыступлена да адбудоўчых работ.

У 1927 годзе ЖАКТ'амі было адбудована і заселена 5.000 кв. мэтраў.

Агульны прыбытак ЖАКТ'аў выразіўся за 1927 год у 1.680.000 руб., з якіх паступленьні ад кватэрнае платы 56 проц. і за гандлёва-складовыя памяшканьні 36,5 проц.

Звыш 2.000 руб., паступіла ад жыхароў у якасьці узносаў на эксплёатацыйныя выдаткі і на рэмонт. Трэба адзначыць, што паказаная сума няправільна ўлічваецца т-вамі, бо ў сапраўднасьці яны павінны быць залічаны ў паявы капітал членаў т-ва, як узносы звыш дэкрэтаванае кватэрнае платы.

Каля 67 проц. выдатку ЖАКТ'аў (за вылічэньнем выдаткаў па пагашэньні запазычанасьці за рэмонты мінулых гадоў) падае на рэмонтныя работы. На культурна-бытавыя выдаткі прыходзіцца 2,13 проц. Такім чынам на кіраўніцтва, падаткі, эксплёатацыйныя і іншыя выдаткі прыходзіцца 31 проц. У гэтую суму ўваходзіць 2,5 проц. на аплату за камунальныя паслугі, якія пакрываюцца з лішкаю ўзносамі жыхароў.

Паказаныя вынікі дасягнуты дзякуючы праведзенаму ўзбуйненьню ЖАКТ'аў, якія існуюць і ў якіх у сярэднім даведзена да 13.000 кв. мэтраў плошчы. Працэс узбуйненьня ў цяперашні час у горадзе Менску закончаны поўнасьцю, а ў вакругах яшчэ ідзе.

Паявы ўзнос устаноўлены ў 10 руб., пры чым для ўтрыманцаў членаў сям'і ільготны пай у 3 руб. Паявы капітал паводле агульнага балянсу ЖАКТ'аў складае каля 90.000 рублёў.

Вядзецца кампанія па ліквідацыі запазычанасьці членаў т-ваў па паявых узносах і па ўцягненьні новых членаў.

Рэмонтныя работы большаю часткаю (83 проц.) рабіліся ЖАКТ'амі гаспадарчым спосабам. У сувязі з умацаваньнем ЖАКТ'аў і разам з тым і памеру работ асобных каапэратываў пажадана было-б перадаць іх будаўнічым органам жылсаюзаў. Гэта значна палепшыла-б якасьць работы.

На працягу 1927 году ЖАКТ'ы атрымалі крэдыт у памеры 500.000 р., але гэты крэдыт зьяўляецца нездавальняючым па сваёй кароткатэрміновасьці: ад 9 да 18 месяцаў. Дзякуючы зробленым затратам на цэлы шэраг капітальных рэмонтаў, непагашаная каштоўнасьць рэмонтаў па

балянсе выражаецца ў суме 700.000 руб. Гэта выклікала грашовую напружа асьць у ЖАКТ'ах. Для ўхіленьня гэтае напружанасьці трэба прадоўжыць тэрміны крэдытаў да 5 год, з адпаведным паніжэньнем памеру процантаў.

Значная ўвага аддаецца ЖАКТ'амі культурна-асьветнай і бытавой працы, у ёй прымаюць жывы ўдзел 328 чал., з якіх 146 жанчын. Пры праўленьнях ЖАКТ аў арганізована 19 чырвоных куткоў, 39 гурткоў: МОПР'у, Прыхільнікаў дзяцей, Асоавіяхіму, ліквідацыі няпісьменнасьці, кройкі і шыцьця і г. д. Ёсьць 33 насьценгазэты і 21 бібліотэчка. Абсталявана таксама 8 дзіцячых садоў, 19 дзіцячых пляцовак, 1 ясьлі і 10 пральняў. Разгортваньне культурна-бытавое працы зьвязана са значнымі выдаткамі, якіх ЖАКТ'ы ў цяперашні час ня могуць пакрываць, бо гэта можа адбіцца на рэмонтных работах. Тут павінны ім на дапамогу прыйсьці праф. саюзы і рабоча-спажывецкая каапэрацыя, у якіх маюцца спэцыяльныя культфонды. ЖАКТ'ы маюць права на карыстаньне гэтымі фондамі, бо кантынгэнт членаў ЖАКТ'аў на 80 проц.—рабочых і служачых, якія адначасова зьяўляюцца і членамі вышэйпаказаных арганізацый.

Узмацненьне культурна-бытавое працы поруч з гаспадарчаю дзейнасьцю ў ЖАКТ'ах перарабіла-б арэндную каапэрацыю ў магутны падважнік нашага сацыялістычнага будаўніцтва.

---

Л. Агееў

# Прамысловыя і тэхнічныя прадпрыемствы калгаспадарак БССР і пэрспэктывы іх разьвіцьця

Сельска-гаспадарчыя калектывы, як буйныя гаспадаркі, маюць шмат пераваг перад сялянскаю дробнаю гаспадаркаю. Галоўныя з іх заключаюцца ў тым, што буйная калгаспадарка дае магчымасьць больш правільна арганізаваць і весьці сельскую гаспадарку і атрымліваць ад яе большыя прыбыткі. Гэта тлумачыцца тым, што ў калгаспадарцы можна больш інтэнсыўна арганізаваць і паставіць паасобныя галіны земляробства, жывёлагадоўлі, а тым самым лепш матар'яльна забясьпечыць на ельніцтва і падняць культурна-бытавы ўзровень калектывістых. Акрамя таго, калектывы даюць магчымасьць лепш скарыстаць наяўную ў гаспадарцы рабочую сілу шляхам увядзеньня больш працаёмкіх культур, арганізаваўшы апрацоўку і пераапрацоўку сельгаспрадуктаў як земляробства, так і жывёлаводзтва. Робіцца гэтае апошняе праз арганізацыю ў калгаспадарцы г. зв. прамысловых і тэхнічных прадпрыемстваў.

Усе прамысловыя і тэхнічныя прадпрыемствы могуць быць падзелены на дзьве асноўныя групы:

а) сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы ў вузкім сэнсе гэтага слова і б) прадпрыемствы блізкія да сельскае гаспадаркі.

Прадпрыемствы першае групы ў асноўным абхапляюць апрацоўку і пераапрацоўку сельгаспрадуктаў галін земляробства і жывёлагадоўлі. З ліку гэтых апошніх найбольшае значэньне ў сельскай гаспадарцы калектываў набывае малочная прамысловасьць і пераапрацоўка прадуктаў палярводзтва—бульбы, зернавых і тэхнічных культур, а таксама прадуктаў садоўніцтва.

## Малочная прамысловасьць

Ва ўмовах Беларусі разьвіцьцё сельскае гаспадаркі павінна пайсьці па шляху наданьня сельскай гаспадарцы жывёлагадоўчага напрамку з малочным ухілам. Галоўную частку ў агульнай прадукцыі ад буйнай рагатай жывёлы складае малако. Апошняе ў сілу свае прыроднай якасьці прадстаўляе сабою прадукт, які хутка псуецца. У зьвязку з гэтым частку малака прыходзіцца пераапрацоўваць у больш стойкія прадукты, масла і сыр, якія ўжо значна больш могуць захоўвацца і перавозіцца на большыя адлегласьці. Такім чынам, у калгаспадарак маюцца наступныя магчымасьці па рэалізацыі лішкаў малака: 1) весьці збыт малака праз малочную арцель альбо сельсаюз для продажы яго ў цэльным выглядзе; 2) збываць малако на сырмаслазавод для пераапрацоўкі яго ў масла або сыр; 3) пераапрацоўваць лішкі малака ў сваёй гаспадарцы на прымітыўным або абсталяваным па ўсіх правілах тэхнікі сырмаслазаводзе з прыцягненьнем малака навакольнага сялянскага насельніцтва.

Дынаміку росту сырмаслазаводаў і маслазаводаў у калектыўных гаспадарках у параўнаньні з ростам сырмаслазаводаў усяе малочнае сеткі можна бачыць з наступнае табліцы:

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|
| Сырмаслазаводы і маслазаводы калгасаў . | 12 | 27 | 38 |
| У процантах да ўсяе сеткі сырмаслазав . | 16,0 | 18,6 | 20,0 |
| Малочныя арцелі і унівэрсальная сетка . | 63 | 118 | 156 |
| У процантах да ўсяе малочн. сеткі . . . | 84,0 | 82,4 | 80,0 |
| Разам маслазаводаў . . . . . . . . . . . | 75 | 145 | 194 |

З прыведзеных лічбаў можна бачыць, што колькасьць сыраварных і маслабойных заводаў у сетцы калгаспадарак хутка павялічваецца, а ўдзельная вага іх ува ўсёй сетцы заводаў паднялася да 20 проц. Лік сыраварных і маслабойных заводаў у калгаспадарках у гэтым годзе павялічваецца яшчэ больш шпарка. Мяркуецца, што колькасьць іх у 1927-28 г. будзе даведзена да 72. Такі хуткі рост сыраварных і маслабойных заводаў у калгаспадарках можна тлумачыць наладжваньнем у іх малочнае справы, з аднаго боку, і ўключэньнем наяўных у калгасах прымітыўных заводаў у малочную сетку. Да гэтага-ж часу толькі нязначная частка была ўключана ў сетку малочнае каапэрацыі і была больш-менш абсталявана. Сярэдняя каштоўнасьць аднаго заводу ў сучасны момант складае суму 1.408 р., што паказвае на недастатковае іх абсталяваньне. Значная частка сыраварных і маслабойных заводаў знаходзіцца ў непрыстасаваных памяшканьнях, ня маючы здавальняючых масласховы, ільдасховы і г. д.

У сувязі з гэтым і самая вытворчасьць па пераапрацоўцы малака насіла невялікія разьмеры. За мінулы 1926-27 год сыраварнымі і маслабойнымі заводамі калгаспадарак было пераапрацавана 9.000 цэнтнэраў малака на агульную суму 62.900 руб. За сэзон сыраварнымі і маслабойнымі заводамі калгаспадарак было выпрацавана 140 цэнтнэраў масла і 510 цэнтнэраў сыру. Сярэднія выхады для масла 24—25, а для сыру 10—11, што трэба лічыць больш-менш здавальняючым. Сярэдняя нагрузка на адзін завод складае 237 цэнтнэраў. Гэтую нагрузку трэба лічыць вельмі малай. У бягучым 1927-28 годзе адначасова з павялічэньнем колькасьці масласырзаводаў мяркуецца павялічыць і нагрузку заводаў за кошт павялічэньня малочнае прадукцыі як сваіх гаспадарак, так і за кошт прыцягненьня да пераапрацоўкі малака навакольнага насельніцтва. Такім чынам, маецца на ўвазе, што сталая сетка сырмаслазаводаў калгаспадарак будзе мець у 1927-28 г. нагрузку ў 867 цэнтнэраў малака на адзін завод, з іх 710

цэнтнэраў сялянскага. Усімі сырмаслазаводамі мяркуецца пераапрацаваць 62 420 цэнтнэраў малака на суму каля 499.400 руб. Але гэтая праграма сырамаслазаводаў і маслазаводаў у 1927-28 г., магчыма, і ня будзе выканана поўнасьцю з прычыны недавыкананьня пляну завозу канцэнтраваных кармоў—макухі і вотрубяй. Недахоп у канцэнтраваных кармох надзвычайна зьнізіў прадукцыйнасьць малочных кароў, а ў зьвязку з гэтым значна паменшыўся занос малака для пераапрацоўкі яго на заводах.

## Крухмальныя і патачныя заводы

Другое месца па сваім значэньні займаюць крухмальныя і патачныя заводы. Процант бульбы з кожным годам усё больш і больш павялічваецца. У севазвароце калгаспадарак бульбе адводзіцца сталае месца—адно поле, а ў іншых выпадках і два палі. Процант бульбы з кожным годам зьмяняецца наступным парадкам: 1924-25 г.—11,4 проц., 1925-26г.—13,0 проц. і 1926-27 г.—14,7 проц.

Гэта значыць, што процант бульбы ў севазвароце шпарка павялічваецца, значна перагнаўшы процант бульбы ў сялянскіх гаспадарках.

Але большая частка таварных лішкаў бульбы ў калгаспадарках скарыстоўвалася як корм для сьвінагадоўлі, і толькі нязначная частка яе пераапрацоўвалася ў крухмал. Гэта апошняе мае месца ў Магілеўскай і Бабруйскай акругах, дзе ў калгаспадарках маюцца крухмальныя заводы. Але з агульнага ліку іх у колькасьці 7 заводаў у мінулым годзе працавала ўсяго 6, з іх адзін у Магілеўскай акрузе і 5 заводаў у Бабруйскай акрузе. Аб працы сёмага заводу ў Гомельскай акрузе зьвестак няма.

Абсталяваньне заводаў надта прымітыўна, аб чым сьведчыць іх надзвычайна малая каштоўнасьць. Заводы калгасаў Бабруйшчыны ў сярэднім маюць каштоўнасьць каля 6.000 руб., а завод калгаса Магілеўскай акругі каштуе 11.000 руб. Акрамя іх прымітыўнага абсталяваньня, крухмальныя заводы маюць і невялікую нагрузку—працавалі каля 80 дзён у год у сярэднім. Пры гэтым завод Магілеўскае акругі працаваў выключна сваімі працаўнікамі, заводы-ж Бабруйскае акругі ў значнай ступені ўжывалі і наёмную сілу. Заводам калгаса Магілеўскае акругі за сэзон пераапрацавана 63.745 пуд. бульбы, у той час як пяцьцю заводамі Бабруйскай акругі пераапрацавана ўсяго 62.000 пуд. бульбы, што дае каля 13.000 пудоў бульбы ў сэзон. На жаль, вынікаў працы крухмальных заводаў у калгасах Бабруйскае акругі ня дадзена. Што-ж датычыць крухмальнага заводу ў калгасе Магілеўскай акругі, то з маючыхся зьвестак відаць, што праца яго была ўсё-такі даволі прыбытковая. Усе агульныя выдаткі разам з аплатаю працы членаў калгасу і наймовае сілы складалі суму ў 21.428 руб., а ўсе агульныя прыбыткі складалі суму ў 25.196 руб. Такім чынам, калгасам за год атрымана прыбыткаў 3.768 руб.

Для вытворчасьці аднае вагавае адзінкі сырога крухмалу ў калгасе Магілеўскай акругі ішло пяць вагавых адзінак бульбы, што паказвае на кепскую працу заводу, з аднаго боку, і невялікі процант крухмалу бульбы—з другога Заводы калгасаў Бабруйскае акругі, паводле даных гадавых справаздач, мелі наступны выхад—з 62.071 пуд. бульбы атрымана 7.723 пуд. сухога крухмалу, што дае сярэдні выхад—8,0 вагавых адзінак бульбы на адну вагавую адзінку сухога крухмалу. Гэта сьведчыць аб дрэннай працы заводаў, невялікім процанце крухмалу самае бульбы. Неабходна адзначыць, што заводы калгасаў Бабруйскае акругі пераапрацоўвалі ня толькі сваю бульбу, а ў значнай ступені і завозную сялянскую, у той час як завод калгаса Магілеўскае акругі пераапрацоўваў толькі сваю сыравіну. Акрамя гэтых заводаў, у адным калгасе Мазырскае і адным калгасе Менскае акругі маюцца крухмальныя заводы, якія належаць Менсельпрому. Дагэтуль пытаньне аб перадачы іх калгасам у сталае карыстаньне апошнім ня вырашана, ня гледзячы на дэкрэт саюзнага ўраду ад 16 сакавіка 1927 г.

## Млыны

Самую шматлікую падгрупу тэхнічных прадпрыемстваў калгасаў складваюць млыны. Апошніх у калгасах налічваецца каля 54 штук. З іх невялікая частка з паравымі альбо нафтавымі рухавікамі, большасьць-жа іх выяўляюць сабою вадзяныя млыны з турбінамі, а часткаю і калёсныя. Агульная каштоўнасьць усіх млыноў калгасаў, паводле даных гадавых справаздач, складае суму ў 231.600 руб. З гэтае сумы каля 96.500 руб. складае каштоўнасьць будынкаў і каля 130.100 руб. каштоўнасьць абсталяваньня. У сярэднім жа адзін млын каштуе каля 4.290 руб. За мінулы год млынамі пераапрацавана 14.700 тон рознага збожжа і атрымана каля 144 200 руб. прыбытку. Што-ж датычыць рэнтабэльнасьці працы млыноў, то зьвестак па ўсіх калгасах няма. У гэтых адносінах спыніліся на аналізе працы млыноў Менскае і Магілеўскае акруг, па якіх маюцца больш-менш пэўныя зьвесткі Апошнія можна бачыць з наступнае табліцы:

| АКРУГІ | Колькасьць млыноў | Каштоўнасьць прадпрыемстваў | На якую сутакавую вытворчасьць разьліч. прадпр. | У працягу году прац. дзён | Выпрацавана за год дзён | | | | Выдаткі прадпрыем. без рабсілы | Атрымана за год прыбыткаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Сябрамі калектываў | | Наёмнай сілай | | | |
| | | | | | Кольк. дзён | На суму | Кольк. дзён | На суму | | |
| Менская . . . . | 9 | 20.775 | — | 1.444 | 3.079 | 3.150 | 1.317 | 1.841 | 11.702 | 19.995 |
| Магілеўская . . | 7 | 40.884 | 500—750 | 704 | 3.157 | 3.300 | 1.641 | 2.722 | 16.904 | 29.797 |
| **Разам . . .** | **16** | **21.659** | — | **2.148** | **6.236** | **6.450** | **2.958** | **4.563** | **28.606** | **49.792** |

Млыны працавалі 2.148 дзён, з іх каля 70 проц. выпрацавана членамі калектываў. Агульны прыбытак ад млыноў за мінулы год складае 49.792 руб. па 16 млынох, а выдаткі разам з аплатай рабочае сілы складаюць суму ў 39 619 руб. Такім чынам, чысты прыбытак ад 16 млыноў за мінулы год складае 10.173 руб., альбо 635 руб. на адзін млын у сярэднім. Такі нязначны прыбытак сьведчыць аб тым, што частка млыноў мела патрэбу ў рамонце. Значныя сродкі калгасам прыходзілася ўкладаць на рамонт будынкаў і даабсталяваньне, асабліва на апошняе. Рамонт будынкаў і абсталяваньне млыноў у сувязі з перадачай іх калгасам ва ўласнае карыстаньне павінны праводзіцца сваячасова, бо ад іх калгасы пачынаюць атрымліваць ужо даволі значныя вынікі.

## Пладасушылкі і ўварачна-вінаробчыя заводы

Галіна садоўніцтва ў калгасах займае даволі віднае месца, але з прычыны запушчанасьці садоў прыбытак ад садоўніцтва невялікі. У мінулым годзе ён складаў суму каля 340.000 руб., альбо 9,4 проц. усяго агульнага прыбытку. Невялікі прыбытак ад садоўніцтва трэба тлумачыць і тым, што спосаб рэалізацыі (у большасьці калгасаў—здача ў арэнду ўласьнікам) ня спрыяў паляпшэньню садоў і павялічэньню прыбытку. Вялікую ролю ў гэтай галіне маглі-б адыграць прамысловыя і тэхнічныя прадпрыемствы па пераапрацоўцы фруктаў. З гэтых апошніх ва ўмовах Беларусі найбольшую ролю адыгрываюць сушылкі і ўварачна-вінаробчыя заводы. Да гэтага часу ў калгасах Беларусі ні сушылак, ні ўварачна-вінаробчых заводаў не існавала. У гэтым годзе ў калгасах адпушчаны адпаведныя сродкі на пабудову 20 пладасушылак. Да іх пабудовы ў сучасны момант ужо прыступлена. Але застаецца невядомым тое пытаньне, ці знойдзе сушаная садавіна належны збыт, ці, можа, гэтыя прадпрыемствы акажуцца мала рэнтабэльнымі з прычыны вялікае каштоўнасьці апалу і нязначнага попыту на гэты прадукт.

Апошнюю падгрупу тэхнічых прадпрыемстваў першае групы складаюць маслабойныя заводы. У калгасах Беларусі іх налічваецца каля 9, усе саматужнага тыпу. Частка з іх больш абсталявана, мае гідраўлічныя прэсы, перааапрацоўвае, галоўным чынам, ільна-насеньне навакольнага сялянскага насельніцтва. Але ў параўнаньні з дзяржаўнымі маслабойнымі заводамі заводы калгасаў ня маюць вялікага значэньня. Працуюць яны пэрыядычна, сырцом не забясьпечаны, ды і ня маюць адпаведных зваротных сродкаў. Усё гэта сьведчыць аб тым, што маслабйоныя заводы калгасаў маюць другараднае значэньне, у зьвязку з чым яны не атрымаюць значнага разьвіцьця.

## Лесапільныя заводы і цыркуляркі

Да групы прадпрыемстваў, блізкіх сельскай гаспадарцы, адносяцца прамысловыя прадпрыемствы па перааапрацоўцы лясных матар'ялаў, лесапільныя заводы, цыркуляркі, смалярні, заводы па апрацоўцы матар'ялаў няжывое прыроды: цагельныя заводы, вапнавыя, чарапічныя і інш. Лесапільных заводаў і цыркулярак у калгасах налічвалася 8, большасьць з іх выяўляла дапаможныя прадпрыемствы пры млынох. Самастойных-жа лесапільных заводаў у калгасах мала. Як самастойныя лесапільныя заводы, так і цыркуляркі пры млынох ня здолеюць канкураваць з дзяржаўнымі лесапільнымі заводамі як дзеля свайго абсталяваньня, так і дзеля слабае забясьпечанасьці зваротнымі сродкамі. Гэта наводзіць на думку, што лесапільныя заводы ў калгасах ня будуць мець пэрспэктыў для разьвіцьця.

## Цагельныя і вапнавыя заводы

Сказанае пра лесапільную прамысловасьць у калгасах цалкам можа быць аднесена і да цагельных, вапнавых і чарапічных заводаў. Па колькасьці найбольшае разьвіцьцё атрымалі цагельныя заводы. Апошніх у калгасах налічвалася 10, усе саматужнага тыпу, з сярэдняю вытворчасьцю да 100.000 цэглін у сэзон. Абсталяваньне заводаў—прымітыўнае, у сувязі з чым і вытворчая праграма невялікая. На заводах адначасова з сваімі членамі працавалі і наёмныя працаўнікі. Наколькі карысны для калгасаў цагельныя заводы—зьвестак няма. Адпаведныя зьвесткі маюцца толькі па вапнавым заводзе. З іх можна ўбачыць, што вапнавы завод дае калгасу чыстага прыбытку каля 2.000 руб. у год. Наогул-жа трэба адзначыць, што прамысловасьць калгасаў у частцы няжывой прыроды ня мае пэўных пэрспэктыў для разьвіцьця. Калгасы займаюцца гэтымі прадпрыемствамі, пакуль сельская гаспадарка яшчэ ня прыняла досыць інтэнсыўнага напрамку, і частка рабочых рук не скарыстоўваецца поўнасьцю ў гаспадарцы. А калі гэта апошняе будзе дасягнута, то калгасам ня будзе ніякага сэнсу будаваць заводы для выпрацоўкі прадметаў, якія маюць толькі частковую сувязь з сельскаю гаспадаркаю. Справа гэта больш датычыць саматужнае прамысловасьці, ад якой цалкам і залежыць яе разьвіцьцё.

## Пэрспэктывы

Падагульваючы ўсё сказанае, прыходзіцца згадзіцца, што прамысловыя прадпрыемствы калгасаў першае групы маюць найбольшае значэньне ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі. Але ўсе прамысловыя прадпрыемствы калгасаў у сучасным іх становішчы зьяўляюцца прадпрыемствамі дробнага тыпу. Самая праца гэтых прадпрыемстваў носіць выключна ўласьніцкі характар, чым значна і адрозьніваецца ад прадпрыемстваў каапэрацыйных. Дзеля таго, каб гэтыя прадпрыемствы ўзбуйніць, трэба іх працу паступова пераводзіць на каапэрацыйны пачатак. Такому пераводу і ўзбуйненьню падлягаюць у першую чаргу сырмаслазаводы, маслазаводы і крухмальныя заводы калгасаў, з забесьпячэньнем іх адпаведным даабсталяваньнем. Пабудова новых крухмальных, уварачна-вінаробных заводаў павінна праводзіцца аб'яднаньнямі калгасаў, з прыцягненьнем да працы на гэтых заводах навакольнага

сялянскага насельніцтва. Новыя-ж сырамаслазаводы і маслазаводы павінны будавацца ў калгасах выключна на каапэрацыйных пачатках паводле пляну малочнае сеткі. На абсталяваньне новых і даабсталяваньне старых заводаў павінны быць адпушчаны дзяржавай адпаведныя сродкі, што дасьць гэтым самым магчымасьць пачаць індустрыялізацыю сельскае гаспадаркі наогул і ў першую чаргу калгаспадарак.

Наколькі гэта апошняе ўжо выконваецца, можна бачыць з вытворчае праграмы калгасаў у частцы індустрыялізацыі ў бягучым 1927-28 г. Лічбы ніжэйзьмешчанае табліцы яскрава аб гэтым сьведчаць:

| НАЗВЫ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ | Колькасьць прадпрыемстваў | | Каштоўн. у 1927-28 г. (у тыс. руб.) | | | Сырэц (па мерк.) | | Прадукцыя (па мерк.) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925-26 г. | 1927-28 г. | Будынкаў | Абсталяваньня | Усяго | Кольк. (у тыс. тон) | Կашт. (у тыс. руб.) | Кольк. (у тыс. тон) | Кашт. (у тыс. руб.) |
| Сырмаслазаводы . . . . | 38 | 72 | 50,0 | 57,0 | 107,0 | 6,24 | 499,4 | 0,447 | 577,2 |
| Крухмальныя заводы . | 6 | 6 | 6,6 | 39,6 | 46,5 | 2,00 | 37,7 | 0,335 | 52,5 |
| Млыны . . . . . . . | 54 | 54 | 96,5 | 135,1 | 231,6 | — | — | — | 168,2 |
| Пладасушылкі . . . | — | 10 | 15,0 | 15,0 | 30,0 | 0,65 | 20,0 | 0,091 | 52,8 |
| Іншыя прадпрыемствы (лесапілкі, цагельны чарапічныя і інш. заводы) . . . . . . . . | 10 | 16 | 2,5 | 5,9 | 8,4 | — | — | — | 89,5 |
| **Разам . . .** | **108** | **158** | **170,6** | **252,9** | **423,5** | **8,89** | **557,1** | **0,879** | **940,2** |

Як бачым, найбольшае разьвіцьцё набываюць сырмаслазаводы і маслазаводы, колькасьць якіх мае павялічыцца амаль што ў два разы. Агульная прадукцыя сырмаслазаводаў, па меркаваньнях, павінна дасягнуць 577.000 р., што складае 63 проц. агульнае прадукцыі ўсіх прамысловых прадпрыемстваў калгаспадарак і перавышае ў некалькі разоў валавую прадукцыю сырмаслазаводаў у мінулым годзе.

Для галіны паляводзтва набываюць вельмі важнае значэньне крухмальныя заводы. Апошнія павінны падштурхнуць разьвіцьцё культуры бульбы ў паляводзтве, што для сельскае гаспадаркі мае вельмі важнае значэньне.

Ня менш важнае значэньне для садоўніцтва мае разьвіцьцё пладасушылак і ўварачна-патачных заводаў, якое мяркуецца. Апошнія павінны зьявіцца вялікім стымулам да лепшае пастаноўкі садовае гаспадаркі. Яны дадуць калгасам штуршок да аднаўленьня садоў, якія маюцца ў наяўнасьці, і закладкі новых садовых плошчаў.

Што-ж датычыць прадпрыемстваў па апрацоўцы прадметаў няжывое прыроды, то яны не атрымаюць вялікага разьвіцьця. Гэтыя матар'ялы будуць больш танна выпрацоўвацца на дзяржаўных заводах, якія лепш абсталяваны і забясьпечаны зваротнымі сродкамі. Апрача таго, гэтаю справаю таксама будзе займацца саматужна прамысловая каапэрацыя, якая таксама, бязумоўна, прыме належны ўдзел у пабудове адпаведных заводаў і прадпрыемстваў калгасаў.

А. Лебедзеў

# Практыка многокрамнага будаўніцтва

Цяпер, калі асаблівая ўвага накіравана на рацыяналізацыю тавара-праводнае сеткі, пытаньне пра формы сельскага спажывецкага т-ва павінна быць усебакова вывучаным.

У практыцы арганізацыйнага будаўніцтва беларускае спажывецкае каапэрацыі сустракаюцца тры формы пабудовы сельскага каапэратыву: аднакрамка, многакрамка ўнутранога тыпу і многакрамка раённая.

Мінулы 1926-27 гаспадарчы год у параўнаньні з 1925-26 г. вызначаецца набліжэньнем каапэрацыйнага апарату да насельніцтва.

Рост каапэрацыйнае сеткі ў мінулым справаздачным годзе адбываўся, галоўным чынам, за лік арганізацыі аддзяленьняў спажывецкіх т-ваў. У той час, як колькасьць спажывецкіх т-ваў 1926-27 г. у параўнаньні з 1925 26 г. паменшылася на 33 адзінкі (на 4,7 проц.), лік крам узрос на 66 адзінак (з 1.749 да 1.815 крам), або на 3,8 проц.

Рух ліку сельскіх спажывецкіх т-ваў па БССР за апошнія два гады быў наступны:

| | На 1/X 1926 г. | | На 1/X 1927 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік спаж. т-ваў | У %% да аг. ліку | Лік спаж. т-ваў | У %% да аг. ліку |
| Аднакрамных спаж. т-ваў | 254 | 36,9 | 200 | 30,5 |
| З 2 крамамі | 169 | 24,5 | 178 | 27,0 |
| „ 3 „ | 110 | 16,0 | 117 | 17,8 |
| „ 4 „ | 62 | 9,0 | 66 | 10,7 |
| „ 5 „ | 36 | 5,2 | 31 | 4,7 |
| „ 6 „ | 17 | 2,5 | 23 | 3,5 |
| „ 7 „ | 20 | 2,9 | 15 | 2,2 |
| „ 8 „ | 10 | 1,5 | 11 | 1,6 |
| Звыш 8 крам | 10 | 1,5 | 14 | 2,0 |
| Разам | 688 | 100,0 | 655 | 100,0 |

З гэтае табліцы відаць, што за мінулы 1926-27 г. таваpаправодная сетка даволі значна зьмянілася, і што ўдзельная вага многакрамнага каапэратыву ў агульным ліку спажывецкіх т-ваў БССР прыкметна павялічылася. Пераважным тыпам спажывецкага т-ва зьяўляецца многакрамка да 4 аддзяленьняў. Лік аднакрамных спажывецкіх т-ваў за 1927-28 г. паменшыўся на 54 адзінкі, і ўдзельная вага іх панізілася на 6,4 проц.

Хоць цяпер яшчэ і нельга зрабіць добрае ацэнкі аднакрамкі і многакрамкі, але усё-ж галоўнейшыя вынікі іх працы можна лічыць выяўленымі. У даным выпадку матар'ялы пра пабудову сельскае сеткі мы маем з Слуцкае, Калінінскае, Магілеўскае і Аршанскае акруг. Матар'ялы гэтыя на 1/X 1927 г. даюць наступныя асноўныя паказьнікі ўдзельнае вагі аднакрамкі і многакрамкі:

| | Разам | Аднакрамак | Многакрамак |
|---|---|---|---|
| Лік сельск. спаж. т ваў | 174 | 17,2% | 82.8% |
| Абслуг. сялянск. гаспадарак | 274.850 | 8,8 „ | 91,2 „ |
| Паводле ліку пайшчыкаў | 114.772 | 8,5 „ | 91.5 „ |
| Паводле сумы сябр. появ. капіт. | 272.482 | 7,5 „ | 92,5 „ |
| Паводле памеру сярэдн. месячн. звароту (продаж—збыт) | 1.479.221 | 7,8 „ | 92,2 „ |

Вынікі дзейнасьці аднакрамкі і многакрамкі досыць выразна відны з наступнага параўнаньня:

| | Аднакрам. | Многакрам. |
|---|---|---|
| Паявы ўзнос на аднаго пайшчыка | 2 р. 07 к. | 2 р. 40 к. |
| Процант каапэраваньня | 39,9% | 41,9% |
| Сярэдні мес. зварот на 1 сялян. гасп. | 4 р. 73 к. | 5 р. 45 к. |
| Процант агульна гандл. выдатк. | 8,87% | 8,84% |

Як бачым, многакрамка спрэс мае значна лепшыя паказьнікі. Гэтыя лічбы сьведчаць аб тым, што ўзяты ў апошні час курс на многакрамку, як асноўную, роўную з аднакрамкаю, форму будаўніцтва сельскіх спажывецкіх т-ваў цалкам сябе апраўдаў. З гэтага, аднак, ня трэба рабіць такі вывад, што нібыта трэба фарсаваць тэмп многакрамнага будаўніцтва з тым разьлікам, каб ужо ў бліжэйшы час многакрамка зусім выціснула аднакрамку і стала адзінаю формаю будаўніцтва спажывецкіх т-ваў.

Вырашаючы пытаньне пра многакрамку, трэба сказаць, што аднакрамка мае права, пры наяўнасьці ўсіх даных, якія гавораць за гэта, разьвінацца ў многакрамку. Перш за ўсё аднакрамка павінна мець працаздольны апарат, і ўся праца павінна быць пабудавана выразна, з тым каб недахопы працы аднакрамкі не пранікалі і яшчэ больш не ўзмацняліся ў многакрамцы.

Разьвінаньне каапэратыву ў раённую многакрамку трэба рабіць пры абавязковым захаваньні наступных асноўных умоў:

а) зварот—мінімум 8 000-10 000 руб.;

б) радыус дзейнасьці—12-15 кілёмэтраў;

в) эканамічная цяга раёну да цэнтральнага пункту многакрамкі;

г) наяўнасьць вядомых пэрспэктыў разьвіцьця аддзяленьняў, упэўненасьць у тым, што праца ня дасьць страт;

д) месца знаходжаньня крам спажывецкага т-ва павінна быць у цэнтральных гандлёвых пунктах раёну.

Многакрамка апраўдае сябе і будзе мець перавагу над аднакрамкаю толькі ў тым выпадку, калі ў нас будуць лепшыя паказьнікі ў адносінах зьніжэньня цэн, выдаткаў на ўтрыманьне апарату, поўнага і своечасовага забесьпячэньня пайшчыка таварамі.

Гэтыя паказьнікі могуць быць у наяўнасьці толькі тады:

а) калі ня будзе паменшан лік абслугаваных кожнаю крамаю двароў; б) калі будзе забясьпечаны прыток новых пайшчыкаў і паявых узносаў; в) калі ўся праца будзе пабудавана пляназгодна; г) пры адпаведным звароце наяўнасьці ўласных капіталаў; д) пры максымальнай нагрузцы на штатную адзінку; е) пры нармальнай шпаркасьці звароту сродкаў.

Вось асноўныя вымаганьні, якія павінны ў далейшым быць пакладзены ў аснову пабудовы многакрамак. Бесьпярэчна, калі ў наяўнасьці ня будзе гэтых даных, пераход да многакрамкі не заўсёды апраўдае сябе.

---

**В. Ваўкавіцкі.**

# Аб рацыяналізацыі закупачнага апарату і закупачных апэрацый

Задача скарачэньня выдаткаў, патаненьня сабекошту тавараў і паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца ва ўмовах сельскай спажывецкай каапэрацыі можа быць выканана толькі пры правядзеньні рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. Без апошніх ніякіх эфэктаў у гэтых адносінах не атрымаецца.

Праведзенае Менскім аддзяленьнем БКС узбуйненьне сеткі дало станоўчыя вынікі. На І/IV мелася 89 каапэратываў з лікам крам 285, на І/VII маецца 76 спажыўтаварыстваў з лікам крам 289.

Спажыўтаварыстваў з 5 і больш крамамі было на 1/IV—8, стала на I/VII—14.

Наглядна аб гэтым сьведчаць наступныя даныя:

| | На I/IV | На I/VII |
|---|---|---|
| Лік спажыўтаварыстваў з 1 крамай . | 23 | 18 |
| " " " 2 " . | 24 | 19 |
| " " " 3 " . | 10 | 13 |
| " " " 4 " . | 11 | 6 |
| " " " 4 і больш " . | 8 | 14 |
| Усяго . . . | 76 | 70 |
| Аднакрамных спажыўтаварыстваў . . | 13 | 6 |

Лічбы не патрабуюць камэнтарыяў. Да гэтага трэба яшчэ дадаць тое, што гэтым дасягнена і скарачэньне выдаткаў (скарачэньне 13 старшынь праўленьняў і 13 рахункаводаў). Эканомія прыблізна каля 7-8 сот рублёў у месяц, пры адначасовым пашырэньні звароту і колькасьці гандлёвых ад інак.

Далейшыя мерапрыемствы павінны быць праведзены па лініі рацыяналізацыі закупачных апэрацый і гэтым, папершае, палепшыцца якасьць каапэрацыйнае працы, а падругое, будзе дасягнута эканомія сродкаў.

Да гэтага часу закупка тавараў спажыўтаварыствамі адбываецца наступным чынам: пры местачковых і буйных сельскіх спажыўтаварыствах маюцца спэцыяльныя закупшчыкі, у менш буйных с. т. роля закупшчыка выконваецца старшынёю праўленьня. Дзейнасьць закупшчыкаў выяўляецца ў тым, што яны прыяжджаюць у Менск, бяруць тыя тавары, якія ёсьць, робяць разьлікі і выяжджаюць праз дзень ці некалькі дзён назад, і такія паездкі робяцца, напрыклад, разоў 5-6 у месяц. Закупшчыкі за свае паездкі атрымліваюць сутачныя, праяздныя, як гэта належыць.

Трэба адзначыць, што мануфактура і іншыя дэфіцытныя тавары адпускаюцца спажыўтаварыствам па загадзя выпрацаваных каэфіцыентах і роля закупшчыка па гэтых асноўных таварах вызначаецца толькі ў атрыманьні ў колькасьці і асартымэнце, адабраным апаратам Менаддзяленьня БКС. Такім чынам, нам будзе больш правільным, калі закупшчыкаў мы назавём „экспэдытарамі“ па адпраўцы тавараў, якія прыяжджаюць кожны раз у Менск з фурманкамі.

Утрымліваць такі апарат зьяўляецца немэтазгодным. Апарат гэты каштуе вельмі дорага. Па 15 спажыўтаварыствах, дзе ёсьць спэцыяльныя закупшчыкі, адна толькі зарплата складае 1.014 руб. у месяц плюс сутачныя і разьяздныя каля 300 руб. у месяц. У астатніх спажыўтаварыствах старшыні праўленьняў, займаючыся дастаўкай тавараў, не зьвяртаюць увагі на масавую і арганізацыйную працу, ня маюць сталага нагляду за працай свайго апарату і г. д.

За год сума камандыровачных па ўсіх спажыўтаварыствах складае каля 35.000 руб.

Зусім зразумела, што ператварэньне асноўных працаўнікоў спажыўтаварыстваў у экспэдытараў—зьявішча ненармальнае, і таму гэты від працы трэба рацыяналізаваць.

Асноўныя мерапрыемствы ў гэтых адносінах павінны быць наступныя.

1. Спажыўтаварыствы робяць закупку тавараў па пісьмовых заказах. Для атрыманьня цяжкіх тавараў спажыўтаварыства пасылае сваіх фурманаў, якія атрымліваюць тавары і робяць разьлік. Тым спажыўтаварыствам, якія знаходзяцца ў паблізу чыгунак, адпраўка па іх заказах робіцца Менаддзяленьнем. Спажыўтаварыствы, што знаходзяцца далёка ад чыгунак, пасылаюць фурманаў для атрыманьня заказаных тавараў. Усялякія паездкі спэцыяльных людзей за таварамі павінны быць адменены, і яны дапушчаюцца

толькі ў выпадках, калі таго ці іншага тавару трэба набыць у другіх каапэрацыйных і дзяржаўных установах з прычыны адсутнасьці яго ў Менаддзяленьні. Практыкаваць адпраўку тавару спажыўтаварыствам па пошце (галянтарэю).

2. Апарат закупшчыкаў ліквідаваць.

3. Цэфіцытныя тавары павінны адпускацца ў строгай адпаведнасьці з выпрацаванымі каэфіцыентамі, і тавары, якія прызначаны для таго ці іншага спажыўтаварыства, не павінны быць адпушчаны другім спажыўтаварыствам.

4. У Менаддзяленьні павінен весьціся дакладны падлік паступленьня і выкананьня заказаў, і апошнія павінны выконвацца своячасова. З боку Менаддзяленьня павінны быць ужыты ўсе меры да забесьпячэньня патрэбнымі таварамі заказаў спажыўтаварыстваў. У выпадку адсутнасьці таго ці іншага тавару аб гэтым трэба зараз-жа паведаміць заказчыка.

5. Прымацаваць да Менаддзяленьня аднаго працаўніка транспартнага аддзелу БКС, які падпарадкуецца загадчыку Менаддзяленьнем па адміністрацыйнай лініі, а па апэрацыйнай—транспартнаму аддзелу. Паслугі за адпраўкі тавараў павінны спаганяцца ад спажывецкіх таварыстваў, выходзячы са складзенага каштарысу ўтрыманьня працаўніка, зацьверджанага Менаддзяленьнем.

6. Транспартным аддзелам павінны быць забясьпечаны перавозачныя сродкі для бесьперабойнай і своячасовай адпраўкі тавараў спажыўтаварыствам.

7. Дні водпуску тавараў спажыўтаварыствам павінны быць рэглямэнтаваны. Для кожнага таварыства павінен быць устаноўлен пэўны дзень водпуску тавараў дзеля таго, каб таварыства ведала, калі прысылаць фурмана. Пры нармаваньні выходзіць з колькасьці 10-12 водпускаў тавараў у дзень, і гэтым магчыма будзе скараціць колькасьць фактурыстых.

8. Кожнае спажыўтаварыства выдае Менаддзяленьню вэксальныя блянкі, якія запаўняюцца па меры патрэбнасьці ў часе водпуску ім тавараў.

Вольная выручка павінна здавацца ў касу Менаддзяленьня. Тэрміны і сумы вэксалёў устанаўліваюцца гандлёвай часткаю.

9. Бухгальтэрыя Менаддзяленьня ў рахунку на адпушчаныя тавары зазначае падрабязна суму запоўненых вэксалёў і зараз-жа пасылае рахунак таварыству поштай ці праз фурмана. Выкуп вэксалёў павінен рабіцца таварыствамі своячасова, не дапускаючы ні ў якім выпадку пратэстаў (грошы пераводзяцца па пошце ці праз фурмана).

10. Гандлёвая частка абавязана ў кожным паасобным выпадку інфармаваць сетку аб ўсіх навінах.

11. Па тых таварах і ў тыя раёны, дзе адпраўка тавараў магчыма транзытам, тавары накіроўваць непасрэдна з месца закупкі, каб унікнуць лішніх выдаткаў па перагрузцы і дастаўцы.

Правядзеньнем гэтых мерапрыемстваў будзе дасягнута вялікая эканомія сродкаў, і будзе палепшана культурная і арганізацыйная праца, бо старшыні праўленьняў будуць вызвалены ад паездкі за таварамі. Акрамя таго, гэтае мерапрыемства дасьць магчымасьць на месцы умацаваць апарат спажыўтаварыства за кошт скарочаных закупшчыкаў.

На першы час сыстэму заказаў, як спробу, трэба правесьці па 15 спажыўтаварыствах і, пры атрыманьні станоўчых вынікаў, трэба будзе ўжыць гэтую сыстэму ва ўсёй сетцы.

Хэйфэц

# Аб пабудове сеткі сампрамкаапэрацыі

Пастанова СНК СССР ад 21 мая г. г. аб саматужна-прамысловай каапэрацыі вызначае пэўныя шляхі, па якіх на бліжэйшы пэрыод будзе існці разьвіцьцё саматужна-прамысловае каапэрацыі, маючы на мэце памякчэньне беспрацоўя і папаўненьне таварнага дэфіцыту. Каапэраваньне саматужнікаў-адзінак ідзе шпаркім тэмпам, і яму перашкаджае толькі ня досыць поўнае забесьпячэньне сыравінаю.

Курс далейшага каапэраваньня ўзяты выключна на арцель з агульнай майстэрняй, і гэта вымагае ўстанаўленьня цьвёрдых прынцыпаў пабудовы сеткі прамысловае каапэрацыі ў прыватнасьці ва ўмовах БССР, дзе саматужнікі сканцэнтраваны ў мястэчках з пэўнымі сацыяльнымі і бытавымі ўласьцівасьцямі.

Практыка працы наяўных арцеляй паказала, што, калі ў адным мястэчку існуюць 2-3 аднолькавыя арцелі, тэмп арцельнага каапэраваньня замаруджваецца. Саматужніку, які жадае ўступіць у арцель, доступ у яе цяжкі. Пачынаецца пасылка саматужніка ад аднае арцелі ў другую, ажыўляюцца старыя прыёмы саматужнікаў: адгаварыць лепшага майстра ад аднае арцелі, цягнуць яго ў другую (м-ка Бярэзіна), павялічваць аплату і г. д. У выніку паглыбляецца варожасьць паміж членамі арцелі, што ня можа дапамагаць нармальнай штодзённай практычнай працы.

У гарадох пры наяўнасьці арганізаванага збыту на вырабы арцеляй ёсьць разнабой у гатунках фабрыкату, якія выпускаюцца (разьмеры, крой, нормы сырцу). Даны пэрыод працы арцелі ўжо вымагае адзінага стандарту і паступовага паляпшэньня пастаноўкі працы, пры зьніжэньні сабекошту і адпускных цэн на вырабы арцеляй.

На 1 красавіка па БССР налічвалася 483 арцелі, якія аб'ядналі 7.701 саматужніка і 26,4 проц. агульнага ліку каапэраваных саматужнікаў. Такім чынам, 21.500 саматужнікаў-адзінак, каапэраваныя ў таварыствы, зьяўляюцца бліжэйшымі кандыдатамі для ўступленьня ў арцель.

Арцелі ў мястэчках часткова маюць ужо пэўны кадр таварышоў каапэрацыйна-вытрыманых, якія арыентуюцца ў працы арцелі, якія могуць даць напрамак і тэхнічна кіраваць працай арцелі.

Пры аб'яднаньні ў мястэчках аднолькавых арцеляй у адну ствараецца магчымасьць згрупаваць здаровыя арцельныя кадры, вакол якіх будзе каапэравацца рэшта саматужнікаў. У вытворчых адносінах гэтыя арцелі павінны будавацца паводле прынцыпу спэцыялізацыі членаў па паасобных відах вытворчасьці, напрыклад, аддзяленьне па вырабу мужчынскага, жаночага і дзіцячага гатовага адзеньня і г. д. дзеля таго, каб зьнішчыць тую унівэрсальнасьць, якая ўкаранілася вякамі і якая перашкаджае спэцыялізацыі саматужнікаў.

Гарадзкія арцелі мэтазгодна будаваць паводле прынцыпу 2-х аднолькавых прадпрыемстваў у адным горадзе з мэтаю рэгуляваньня норм, расцэнак, стандартаў, вучоту ініцыятывы і канкурэнтназдольнасьці прадпрыемстваў.

Практыка праведзенага ўзбуйненьня арцеляй ў г. Менску, дзе ёсьць прадпрыемствы, якія ахапляюць да 170 чал. у адну арцель, даводзіць мэтазгоднасьць такое перабудовы арцеляй ў гарадох. Узбуйненьне арцеляй у мястэчках трэба пачаць да верасьня месяца з тым, каб да сэзону мець у мястэчках моцныя арцелі, пабудаваныя паводле прынцыпу цэхавага прадпрыемства, здольныя ў бліжэйшы пэрыод папоўніць склад сваіх членаў за кошт рэшткі саматужнікаў і, у першую чаргу беднякоў і серадняков, каапэраваных у крэдытныя прамысловыя таварыствы.

В.

# Каапэрацыйная грамадзкасьць

У матар'ялах пра бліжэйшыя задачы спажывецкае каапэрацыі пытаньню развіцьця каапэрацыйнае грамадзкасьці аддана адпаведная ўвага. Яскрава сказана, што бліжэйшая задача--перарабленьне каапэрацыі ў грамадзка масавую арганізацыю. Г. зн., трэба зрабіць так, каб каапэрацыйная праца будавалася пры самым актыўным удзеле масы пайшчыкаў, і вяла штодзённую культурную працу. Трэба, каб яна асьвятляла вынікі працы сярод каапэраванае і некаапэраванае масы пад лёзунгам самакрытыкі, каб яна арганізавала актыў з ліку пайшчыкаў і ўпаўнаважаных для штодзёнага ўдзелу ў працы каапэрацыйных зьвенчакоў, з разьбіўкаю яго на адпаведныя сэкцыі.

Няма чаго хаваць, што да гэтага часу актыў упаўнаважаных і пайшчыкаў скарыстоўваўся недастаткова. Мы маем такое становішча, калі ўпаўнаважаныя скарыстоўваліся толькі для перавыбарчых гадавых сходаў, зусім ня прымаючы ўдзелу ў працы ў працягу часу ад аднаго гадавога сходу да другога. Арганізацыя сталых сэкцый ўпаўнаважаных дасьць магчымасьць прыцягнуць актыў ўпаўнаважаных да сталае практычнае працы ў сваім каапэратыве. Калі мы гаворым «актыў», нам трэба высьветліць, што выяўляе з сябе гэты актыў. Для гэтага зьвернемся да матар'ялаў Менаддзяленьня БКС.

Усяго ўпаўнаважаных—6.359. Члены КПБ займаюць 8 проц., ЛКСМ—3,6 проц., партыйны кадр у складзе ўпаўнаважаных—11,6 проц.

Па сацыяльным становішчы: работнікаў—306—4,8 прац., беднякоў—2.307—36,2 проц., серадняков—2.571—40,4 проц., саматужнікаў—158—2,5 проц., служачых—932—14,7 проц., заможных—85—1,4 проц., разам—6.359—100 проц.

Адсюль мы бачым, што 70 проц. актыву складаюць сяляне, 4,8 проц. работнікі, 2,5 проц. саматужнікі і 14,7 проц.—служачыя. Асноўным ядром зьяўляюцца сяляне.

Трэба адзначыць, што ў апошні час мы маем рост актыўнасьці і зацікаўленасьці ў працы свайго каапэратыву з боку каапэраванае масы.

Гэты вывад пацьвердзіўся матар'ялямі леташняе справаздачна-перавыбарчае кампаніі і цяпер пацьвярджаецца матар'ялам аб праведзеных у трэцім квартале паўгадавых сходах па спажывецкіх т-вах Менскае акругі. Удзел пайшчыкаў у паўгадавых сходах выявіўся ў 30,6 проц., і ўпаўнаважаных—56,5 проц. Удзел пайшчыкаў у адносінах да агульнага ліку прысутных упаўнаважаных складае 31 проц. Такі проц. удзелу маем у пэрыодзе, калі сялянства было занята палявою працаю.

Сходы адбываліся ў абставінах ажыўленае крытыкі дзейнасьці спажывецкіх т-ваў і дачы канкрэтных і практычных паказаньняў для далейшае працы. У спрэчках выступілі 11,6 проц. прысутных. На сходах слухаліся даклады праўленьняў пра дзейнасьць спажывецкіх т-ваў, пра вынікі правядзеньня паявое і загатоўчае кампаніі, пра вынікі каапэраваньня беднаты і далейшыя пэрспэктывы, пра выкананьне дырэктывы аб 20-проц. скарачэньні выдаткаў і, урэшце, пра пераход на павышаны 10-руб. статутны пай.

Строгія паказаньні былі даны ў справе выкананьня дырэктывы пра 20-проц. скарачэньне выдаткаў. Праўленьням спажывецкіх т-ваў прапанована выканаць да 1/Х гэтую дырэктыву і выдаткі ўмясьціць у нормы Менаддзяленьня.

Для далейшага каапэраваньня беднаты сходамі адлічана 7.267 руб. і прапанована гэтую суму скарыстаць своечасова паводле яе прызначэньня.

Пытаньне пра пераход на 10-руб. статутны пай амаль нідзе не сустракала супярэчаньняў. Толькі ў трох спажывецкіх т-вах гэтае пытаньне не атрымала канчатковага афармленьня па тэй прычыне, што самі працаўнікі былі ня добра падрыхтаваны.

Пытаньне разьвіцьця каапэрацыйнае грамадзкасьці зьяўляецца асноўнаю задачаю каапэрацыйных арганізацый і ў гэтых адносінах павінна весьціся бяссупынная а штодзённая праца. Актыў пайшчыкаў і ўпаўнаважаных павінен прыймаць практычны ўдзел у штодзённай працы каапэратыву.

---

Ш. Бон

# Культурна-асьветная праца і новы быт у жылкаапэрацыі Беларусі

Адначасова з працаю па будаўніцтве новых памяшканьняў для жыльля і па рэмонце жыльлёвае плошчы я уую жылкаапэрацыя атрымала ад камгасаў у арэнднае карыстаньне, жыльлёвая каапэрацыя праводзіць таксама і культурна-асьветную працу сярод сваіх членаў.

Асабліва разгарнулася гэтая праца пасьля заканчэньня працэсу арганізацыйнага афармленьня жыльлёвае каапэрацыі. К пачатку 1928 года мы ўжо маем наступныя вынікі.

У жыльлёва-каапэрацыйных т-вах абсталяваны 23 чырвоныя куткі і 25 бібліатэк, выпускаюцца нармальна 3. насьценгазэты, арганізавана 39 гурткоў: па ліквідацыі няпісьменнасьці, мопраўскіх, т-ва „Прыхільнік дзяцей", Аасоавіяхіму, кройкі и шыцьця і г. д.

Значная ўвага зьвернута на прыцягненьне кватэрантаў да ўдзелу ў гаспадарчым жыцьці т-ваў шляхам працы ў кватэрных санітарных і рэмонтна-будаўнічых камісіях пры праўленьнях т-ваў. У 62 культурна-бытавых камісіях, якія існуюць пры ЖАКТ'ах, прыймаюць удзел 372 кватэранты, у тым ліку 161 жанчына і 23 чал. моладзі.

Для паляпшэньня бытавых умоў абсталяваны 10 дзіцячых садоў, 20 дзіцячых пляцовак, 3 яслі і 10 пральняў.

На правядзеньне культурна-бытавое працы ў 1927 годзе т-вамі выдаткавана 29.350 руб.

Большая частка працы, якая прароблена, прыходзіцца на долю арэндных каапэратываў. Гэта тлумачыцца тым, што ў большасьці будаўнічых каапэратываў будаўніцтва яшчэ не стварыла значных жыльлёвых масываў, у якіх магчыма было-б павесьці культпрацу. Трэба зазначыць, што і ў жыльлёвай каапэрацыі маецца спрыяльны грунт для разьвіцьця ўсялякіх культурна бытавых мерапрыемстваў. Цяжкасьці ўзнікаюць толькі ў асноўн м— дзякуючы недахопу сродкаў, бо жыльлёвая каапэрацыя ў сучасны момант яшчэ ў змозе выдаткаваць на культурную працу вялікія сумы грошай. Апошняе можа адбіцца на гаспадарчай дзейнасьці жылкаапэратываў.

У гэтай справе жыльлёвай каапэрацыі павінны дапамагчы прафэсыянальныя саюзы і рабочая спажывецкая каапэрацыя, у распараджэньні якіх маюцца значныя сумы на культурна-бытавыя патрэбы. Кантынгэнт членаў жыльлёвай каапэрацыі ў разьмеры звыш 90 проц. складаецца з рабочых і служачых, іякія адначасова зьяўляюцца членамі прафсаюзаў і рабочае каапэрацыі, якія дзеля гэтага маюць поўнае права на абслугоўваньне за кошт культфондаў гэтых арганізацый.

Замест таго, каб кожнай арганізацыі распыляць свае сродкі, гэтыя апошнія трэба было-б сканцэнтраваць у руках жыльлёвай каапэрацыі для выкарыстаньня па прызначэньні ў гэтай галіне.

Удзел у жылкаапэрацыйнай грамадзкасьці шырокіх працоўных гушчаў можа служыць гарантыяй таму, што сродкі, якія будуць адпушчаны на культурныя мэты, будуць выкарыстаны рацыянальна.

А. Г.

# Каапэрацыйны друк БССР

Каапэрацыйны друк на Беларусі налічвае ўжо 8-мы год свайго існаваньня. Пачатак яму быў пакладзены ў 1922 годзе, калі Цэнтрабелсаюз (сучасны Белкаапсаюз) выпусьціў першыя нумары свайго бюлетэню.

Але агульная неналаджанасьць каапэрацыйнае працы, слабасьць каапэрацыйных органаў тагочаснае Беларусі, мізэрнасьць матэрыяльных рэсурсаў тагочаснае беларускае каапэрацыі, брак кваліфікаваных каапэрацыйных працаўнікоў, ўсё гэта не давала магчымасьці разьвінуць як сьлед выдавецкую працу беларускае каапэрацыі, не давала магчымасьці належным чынам паставіць справу беларускага каапэрацыйнага друку.

У 1925 годзе адбылося ўзбуйненьне тэрыторыі БССР. Гэтае ўзбуйненьне адразу дало моцны штуршок разьвіцьцю эканомікі нашае рэспублікі, а разам з тым адчыніла пэўныя магчымасьці і ў справе разьвіцьця беларускага каапэрацыйнага друку.

У 1925 годзе пачаў выходзіць аб'яднаны орган усіх відаў Каапэрацыі БССР „Каапэрацыйнае Жыцьцё". Асноўнай мэтай яго было каапэрацыйнае выхаваньне мас, дапамога справе згуртаваньня навакол нізавых зьвенчакоў нашае каапэрацыі моцнага каапэрацыйнага актыву, належнае выхаваньне і інструктаваньне гэтага актыву.

Але гэта быў толькі адзін бок працы часопісу. Акрамя таго, часопіс адыгрываў і другую чыста службовую ролю. „Каапэрацыйнае Жыцьцё" абслугоўвала патрэбы ня толькі масавага чытача, яно абслугоўвала так сама непасрэдна і практычных працаўнікоў каапэрацыйных арганізацый, у асобе дзеячоў як нізавых, гэтак і саюзных яе зьвенчакоў.

Такім чынам „Каапэрацыйнае Жыцьцё" выконвала адначасова дзьве надзвычайна важныя і складаныя задачы, у сваёй існасьці вельмі рознастайныя. Разам з далейшым ростам нашае каапэрацыйнае грамадзкасьці, вырашэньне гэтых дзьвюх задач рабілася ўсё больш і больш цяжкім.

Выхаваўшы значныя кадры каапактыву, вылучыўшы значную колькасьць каапкораў, „Каапэрацыйнае Жыцьцё" стала перад фактам немагчымасьці злучэньня так значна ўзрослшае каапэрацыйна-масавае работы з так значна ўскладніўшайся задачай службовага абслугоўваньня працаўнікоў каапэрацыйнага апарату.

Гэта прывяло да рэарганізацыі „Каапэрацыйнага Жыцьця" у бюлетэнь „Шлях Каапэрацыі", які выконвае ўжо толькі другую з вышэйпаказаных задач. А ў справе правядзеньня масавае працы прышлося пайсьці па лініі стварэньня новых органаў каапэрацыйнага друку.

Так, зьявілася штотыднёвая газэта „Спажывецкая Каапэрацыя" (дадатак да „Беларускае Вёскі"), „Листок Рабочей Кооперации" (пры газэце „Рабочий"), старонка саматужніка пры яўрэйскай газэце „Акцябр".

Але пры далейшым росьце каапэрацыі ўсё больш і больш пасоўваецца справа яе спэцыялізацыі. Мы ўжо маем 5 самастойных асноўных сыстэм каапэрацыі: спажывецкую, сельска-гаспадарчую, саматужніцкую, жыльлёвую, інвалідную. Калі мы возьмем такую буйную сыстэму, як сыстэма сельска-гаспадарчая, дык убачым, што і яна ідзе па лініі спэцыялізацыі, па лініі абасабленьня паасобных галін свае працы. Так мы маем ужо саюзы: калгасныя, крэдытныя, малочныя, садова-гародныя.

Пры такіх умовах абслугоўваньне ўсіх відаў каапэрацыі адным бюлетэнем робіцца ўсё больш і больш цяжкім. Гэтую акалічнасьць улічыў Белкаапсаюз, які сёлета прыступіў да выданьня свайго ўласнага асобнага бюлетэню. На гэткі-ж шлях памалу становяцца і некаторыя іншыя цэнтры.

Расьце, узмацняецца беларуская каапэрацыя. Расьце, узмацняецца, шырыцца і беларускі каапэрацыйны друк.

# НА МЯСЦОХ

Б. Бэрэнштэйн

## Дасягненьні сампрамкаапэрацыі Бабруйскае акругі за 1927-28 апэрацыйны год

### 1. Рост арганізацыі і колькаснага складу членаў

На 1/Х-27 г. у саюзе было: арцеляй—47, з 664 членамі, крэдытна-прамысловых таварыстваў—12, з 3.447 членамі. На 1/Х-28 г. у саюзе налічваецца: арцеляй—128, з 2.020 членамі, крэдытна-прамысловых таварыстваў—13, з 3.813 членамі. Адсюль мы маем рост арцеляй на 81 адзінку, ці на 172 проц., рост колькаснага складу членаў у іх—1.356 чалавек, ці 204 проц., павялічэньне складу членаў таварыства на 366 чалавек, ці на 11 проц.

Рост арганізацыі ішоў галоўным чынам за кошт пашырэньня рамесьніцкіх і смалакурных арцеляў у мястэчках і сельскіх мясцовасьцях, а менавіта:

Лік шавецка-загатовачных арцеляй узрос з 7 да 27, г. зн. на 286 проц., кравецка-шапачных арцеляй з 8 да 28, г. зн. на 250 проц., лік смалакурных арцеляй з 3 да 10, г. зн. на 233 проц. і г. д.

З агульнага ліку новаарганізаваных рамесьніцкіх і смалакурных арцеляй у 47 адзінак арганізавана ў мястэчках і сельскіх мясцовасьцях 35 арцеляй, г. зн.—77 проц. агульнага ліку.

У выніку маем на 1/Х-28 г.: гарадзкіх арцеляй—63, з 1.154 членамі, ці 57 проц.; местачковых і сельскіх—65, з 866 членамі, ці 43 проц.

Лік каапэраваных арцелямі членаў складае 22,5 проц. да агульнага ліку саматужнікаў, што лічацца па акрузе.

Лік членаў, каапэраваных таварыствамі, складае 43 проц. да агульнага ліку саматужнікаў акругі.

### 2. Узбуйненьне арцеляй

Былі ўжыты меры да ўзбуйненьня арцеляй шляхам злучэньня аднолькавых з іх у адну.

Зроблена злучэньне у г. Бабруйску 2 шавецкіх арцеляй, 2 кравецкіх арцеляй, 2 панчошных арцеляй, 2 бляшаных арцеляй, 3 пякарскіх арцеляй і 2 арцеляй па вырабу цукеркаў.

У г. Жлобіне 3 кравецкіх арцеляй, у м. Сьвіслач—шавецкай і загатовачнай арцелі. Усяго праведзена злучэньне 18 арцеляй.

Узбуйненьне арцеляй праводзілася таксама за кошт пашырэньня складу, папаўненьне якога рэгулявалася Сампрамсаюзам.

### 3. Сацыяльны склад арцеляй і крэдытныя прамысловыя таварыствы

#### Па арцелях

Па матар'ялах, што маюцца на 1 ліпеня, сацыяльны склад прадстаўляецца ў наступным выглядзе: саматужнікаў—73 проц., сялян—14 проц., былых рабочых—7 проц., былых служачых—3 проц., былога непрацоўнага элемэнту—3 проц.

Зьвернута падвойная ўвага на якаснае паляпшэньне сацыяльнага складу. На фабрыцы мэблі „Прагрэс" і ў некаторых іншых арцелях праведзена чыстка складу ад непажаданага антыкаапэрацыйнага элемэнту.

У сучасны момант сацыяльны склад арцеляй здавальняючы. Былы непрацоўны элемэнт, які лічыцца ў арцелях, складаецца з дэклясаванага элемэнту, які прыстасаваўся да працы, але ніякага ўплыву ў арцелях ён ня мае.

Можна адзначыць, што арцелі ў большасьці сваёй забясьпечаны партыйным уплывам. Усяго лічыцца ў арцелях членаў і кандыдатаў КП(б)Б—46 чалавек і членаў ЛКСМБ—73 чел.

Вялікія дасягненьні можна адзначыць у галіне каапэраваньня жанчын. На 1/X-27 г. лічылася ў арцелях 17 жанчын, а на 1/VII-28 г. лічыцца ў арцелях 253 жанчыны.

Такім чынам мы маем рост каапэраваньня жанчын на 236 чалавек.

### Па крэдытна-прамысловых таварыствах

Па крэдытна-прамысловых таварыствах праведзена перарэгістрацыя членаў і ў выніку выключаны са складу таварыстваў нежаданы элемэнт.

Паводле матар'ялаў таварыстваў на 1 ліпеня 1928 году лічыцца: саматужнікаў 3.344, ці 88 проц., членаў прафсаюзаў—469, ці 12 проц.

У 7 больш буйных крэдытна-прамысловых таварыствах на чале кіруючых органаў стаяць члены КП(б)Б.

Лік каапэраваных жанчын па таварыствах складае 295, ці 8 проц. да агульнага ліку членаў.

Па нацыянальным складзе члены таварыства падзяляюцца на яўрэяў—3.538, ці 93 проц., і іншыя нацыянальнасьці—275, ці 7 проц.

## Каапэраваньне беднаты

Каапэраваньне беднаты праводзілася па дзьвёх лініях: па лініі арганізацыі спэцыяльных арцеляй з беднаты і па лініі накіраваньня беднаты ў існуючыя арцелі

Работа па каапэраваньні беднаты праходзіла ў цеснай сувязі з таварыствам саматужнікаў і камітэтам узаемадапамогі.

Усяго каапэравана ў арцелі 215 чалавек з беднаты, у тым ліку жанчын—121. (У склад каапэраваньня беднаты ўключаны і лік каапэраваньня беднаты па лініі гаспадарчага ўпарадкаваньня м. Глуск у колькасьці 93 чал.).

Для каапэраваньня беднаты адпушчана з сродкаў саюзу (фонд па каапэраваньні беднаты)—2.750 руб.

## 5. Валавая прадукцыя і збыт

Валавая прадукцыя арцеляй (паводле матар'ялаў 101 арцелі) за няпоўныя 9 месяцаў складае 1.700.000 руб. (ня лічачы прадукцыі адзінак). Пры поўнай гадовай працы ўсімі арцелямі можа быць выпушчана валавое прадукцыі да 3.000.000 рублёў.

Усяго рэалізавана вырабаў за 9 месяцаў на суму 1.821.000 руб, з якіх мясцовым спажыўцом прададзена на 490.000 р, што складае 27 проц., і прыватным асобам прададзена на суму 212.000 р., што складае 11 проц., а на 62 проц. рэалізацыя прадукцыі праводзілась праз дзяржорганы і каапэрацыю.

Лічым патрэбным адзначыць, што прададзеныя прыватным асобам вырабы ня мелі попыту з боку дзяржорганаў і каапэрацыі (обад бракованы, вугаль і інш.).

## 6. Зарплата і выдаткі

Зарплата ў арцелях устаноўлена зьдзельная па выпрацоўцы, а ў некаторых арцелях існуе калектыўная сыстэма зарплаты. Праведзены шэраг нарад па пытаньнях устанаўленьня правільных норм зарплаты ў шавецкіх, пякарскіх, мэблевых і другіх арцелях. Наогул у аснову ўстанаўленьня зарплаты былі пакладзены стаўкі, які існуюць для прафсаюзаў, з некатораю надбаўкай у памеры да 10 проц.

З матар'ялаў за 3-ці квартал відаць, што сярэдняя зарплата дасягае ў шавецкім цэху: 68 р. у гарадзкіх і 50 р. у местачковых; у загатоўчым цэху: 110 руб. у гарадзкіх і 90 руб. у местачковых; у шапачным цэху: 105 руб. у гарадзкіх і 60 руб. у местачковых; у шавецкім цэху: 95 руб. у гарадзкіх і ад 40 р. да 80 р. у местачковых; у кавальскім цэху: 70 р. у гарадзкіх і 60 руб. у местачковых; у панчошна-трыкатажным цэху—37 р., у бляшаным цэху—95 р.; у мэблевым цэху—90 р. і ў белашвейным цэху—20 р.

Наогул, памеры зарплаты здавальняючыя, за выключэньнем белашвейных і панчошных арцеляй, дзе зарплата зьяўляецца нізкаю.

Вялікая ўвага зьвернута на пытаньне скарачэньня выдаткаў у арцелях. Дзякуючы правядзеньню злучэньня арцеляй мы маем скарачэньне выдаткаў па ўтрыманьні загадчыкаў і інш. абслугоўваючага пэрсаналу на суму 800 р. у месяц. Скарочаны таксама заг. гандлю ў мэбелевых арцелях, дзякуючы чаму скарочаны выдаткі на 300 р. у месяц.

Наогул, будзем мець эканомію ў выдатках да 13.000 р. у год.

## 7. Апэрацыі таварыстваў

За 9 месяцаў выдадзена пазык: саматужнікам—398.000 р., ці 66 проц., юрыдычным арганізацыям—173.000 р., ці 28 проц., не саматужнікам—33.000 руб., ці 6 проц., а ўсяго—604.000 р.

Выдача пазык параўнальна з мінулым годам павялічылася на 132.000 р., ці на 28 проц. Па пазыках спаганяецца ад 18 да 24 проц. Тавараў куплена ўсяго на 401.200 р., з іх: у саюзе на 330.000 руб., ці 82 проц., у дзяржорганах і каапэрацыі на 45.400 руб., ці 11 проц., у прыватных асоб на 9.600 р., ці 2 проц., ад членаў таварыства на 16.200 р., ці 5 проц.

Закупка тавараў за справаздачныя 9 месяцаў павялічылася ў параўнаньні з закупкамі 9-месячнага пэрыоду мінулага году на 183.900 руб., ці на 85 проц

Прададзена тавараў па забесьпячэньні па прад. цэнах на 424.000 р., што ў сярэднім у месяц складае 47.100 руб.

Збытавыя апэрацыі ў таварыствах разьвіваюцца павольна. Усяго прададзена тавараў па збыце на 10.800 р., што складае ўсяго 2,5 проц. да звароту па куплі тавараў.

Накладаньні на тавары робяцца ў межах устанаўленьня Наркамгандлю.

Выдаткі ў таварыствах па пазыковых і таварных апэрацыях складаюць 48.500 р., ці 4,74 проц. да зваротаў па продажу і выдачы пазык. Пры параўнаньні выдаткаў за справаздачны пэрыод з выдаткамі мінулага году мы маем адноснае зьніжэньне выдаткаў з 5,7 проц. да 4,74 проц., г. зн. на 1,02 проц.

## 8. Грашовае становішча

### А. Па арцелях на 1/X-28 г.

Агульная сума балянсу складае 1.440.983 руб.; уласных сродкаў лічыцца: паявых—185.352 р., ці 12,8 проц. да балянсу, іншыя капіталы—65.439 руб., ці 4,5 проц., чысты прыбытак—103.000 р., ці 7,2 проц Усяго ўласных сродкаў, уключаючы прыбытак за справаздачны пэрыод,—24,5 проц. да балянсу.

Калі да уласных сродкаў дадаць і ўклады членаў, у суме 86.604 р., што складаюць 6 проц. да балянсу, то ў выніку будзем мець уласных, якія ня выходзяць са звароту сродкаў, у разьмеры 440.395 р., ці 30,5 проц. да балянсу.

Нярухомых каштоўнасьцяй (маемасьць і паі ва ўстановах) лічыцца на суму 441.779 р, што складае 30,6 проц. да балянсу.

Адсюль бачым, што нярухомыя каштоўнасьці амаль поўнасьцю пакрываюцца уласнымі сродкамі, а сродкі па пазыках поўнасьцю ўкладзены ў звароты, і таму агульнае грашовае становішча арцеляй можна лічыць здавальняючым.

Трэба адзначыць, што *сярэдні пай па статуце* ў арцелях складае суму 158 руб. на 1 члена, *а фактычна сабраны пай складае 107 р.*, што складае 68 проц. да статутнага паю. Пры поўным спагнаньні ўзносаў сума уласных сродкаў павялічыцца на 89.000 руб, і тады стан арцеляй будзе больш трывалым.

**Б Па таварыствах на 1/VII-28 г.**

Сума балянсу—379.902 р., уласныя сродкі: паявы капітал—46.459 р., іншыя—21.639 р., чысты прыбытак—24.000 р., усяго уласных сродкаў—92.098 р, ці 24 проц. Суадносіны уласных сродкаў да сродкаў па пазыках—1 : 3,2. Грашовае становішча таварыстваў устойлівае.

Трэба адзначыць, што ў адносінах грашовага становішча маем наступныя дасягненьні:

а) *па арцелях*: рост балянсу на 733.439 р., ці 103 проц., рост уласных сродкаў—207.626 руб., ці 142 проц; б) *па таварыствах:* рост балянсу на 84 проц., рост уласных сродкаў на 86 проц.

## 9. Культурна-масавая работа

У г. Бабруйску і ў мястэчках культурнае абслугоўваньне членаў арцеляй і таварыстваў праходзіць праз клюбы таварыства саматужнікаў. Пры Бабруйскім клюбе саматужнікаў існуе каапэрацыйны гурток, які наведваўся членамі арцеляй здавальняюча, але з прычыны летняга пэрыоду работа ў ім часова спынілася.

Акрамя таго, адчынены ў 4-сельскіх арцелях хаты чытальні і таксама каапэрацыйныя куткі ў некаторых гарадзкіх арцелях і на фабрыках мэблі ў Бабруйску пэрыодычна выдаюцца насьценгазэты.

Сампрамсаюзам праведзены 2-дзённыя курсы для членаў праўленьняў рэвізійных камісій арцеляй у горадзе на 1 красавіка г. г.

Акрамя таго, праведзены 4-дзённыя курсы для старшынь праўленьняў і старшынь рэвізійных камісій па акрузе на 20/IX-28 г.

Праведзены агульныя сходы ўсіх членаў арцеляй па пытаньнях: аб 10-годзьдзі Кастрычніка, аб АЗЭЦ-е, аб міжнародным дні каапэрацыі, і зроблены даклад аб 5-гадовым пляне. Таксама праведзены два агульныя сходы жанчын—членаў арцеляй па пытаньні аб міжнародным дні работніц і заслуханы даклад дэлегаткі ўсесаюзнага зьезду жанчын-саматужніц.

Арцелямі выпісваюцца газэты да 400 экземпляраў.

## 10. Рост і ўмацаваньне саюзу

Побач з ростам першапачатковае сеткі умацаваўся і ўзрос саюз.

Звароты па куплі тавараў саюзам ўзрасьлі з 552 000 руб. за 3-ці квартал 1926-27 г. да 909.000 руб. за 3-ці квартал 1927-28 г., г. зн. пакупка павялічылася на 64,6 проц.

Звароты па продажы тавараў павялічылася з 556.000 р. за 3-ці квар. 1926-27 г. да 916.000 р. за 3-ці квартал 1927-28 г., г. зн. на 65 проц.

Звароты па камісійным забесьпячэньні складаюць 323.200 р.

Саюз заключыў шэраг дагавораў з дзяржустановамі і каапэрацыяй па збыце вырабаў арцеляй. Усяго рэалізавана вырабаў арцеляй на суму 655.000 руб.

Плян па збыце ў смалакураных арцелях выкананы на 131 проц., па кравецкіх арцелях—на 771 проц.

Фінансавае становішча саюзу таксама значна ўмацавалася.

Балянс на 1/X-27 г. складаў суму—149.899 р., а на 1/VII-28 г. (нэта) 398.907 р. Сума балянсу павялічылася на 166 проц.

Уласныя сродкі саюзу на 1/X-27 г. выявіліся ў суме 22.849 руб., ці 15,4 проц. да балянсу, а на 1/VII-28 г. уласныя сродкі павялічыліся да 97.308 р., што складае 23,8 проц. да балянсу.

### Заключэньне

Азначаныя дасягненьні ў рабоце сампрамкаапэрацыі атрымаліся, дзякуючы ўсямернаму падтрыманьню, што аказваецца урадам Савецкага Саюзу сваімі дэкрэтамі на карысьць разьвіцьця прамкаапэрацыі.

Пры далейшым падтрыманьні мясцовых партыйных і савецкіх органаў прамкаапэрацыя нашае акругі абяцае і ў далейшым узмацняцца і разьвівацца на карысьць гаспадарчага разьвіцьця нашай краіны.

---

С. В.

## Дзейнасьць сельскае спажывецкае каапэрацыі Менскае акругі

*Агульнае становішча.* Сельская спажывецкая каапэрацыя акругі абслугоўваецца Менаддзяленьнем БКС як у арганізацыйнай, гэтак і ў гандлёвай адносіне. У гор. Барысаве маецца кантора Менаддзяленьня, якая забясьпечвае таварамі спажыўтаварыствы, якія знаходзяцца ў раёне дзейнасьці яе.

Менаддзяленьне БКС абслугоўвае ўсе спажыўтаварыствы Менскае акругі, за выключэньнем спажыўтаварыстваў Капыльскага і Грэскага раёнаў, якія абслугоўваюцца Слуцкім аддзяленьнем БКС, і 3 спажыўтаварыствы Бярэзінскага раёну, якія абслугоўваюцца Бабруйскім акрсаюзам.

*Агульная ацэнка дзейнасьці с.-т.* Мінулы 1927-28 год характарызуецца ростам і паляпшэньнем абслугоўваньня каапэраванае і некаапэраванае масы насельніцтва. Спажыўкаапэрацыя акругі стала асноўным тавараправодзячым каналам на вёсцы. Удзельная вага спажыўкаапэрацыі ў агульным таваразвароце акругі вызначаецца ў памеры 70 проц.

У гэтым жа пэрыодзе ўзмацніўся аўтарытэт каапэрацыі сярод сялянскага насельніцтва, аб гэтым гавораць лічбы росту зваротаў, каапэраваньня і іншых асноўных паказальнікаў, аб чым падрабязна будзе паказана ніжэй.

*Сетка спажыўтаварыстваў акругі.* У пачатку 1927-28 году Менаддзяленьне БКС, падлічваючы неабходнасьць патаненьня сабекошту тавараў, скарачэньня выдаткаў і зьніжэньня цэн паставіла перад сабою задачу рацыяналізацыі будаўніцтва сеткі. Пабудаваная сетка ў мінулыя гады не адпавядала патрэбам сёньняшняга дня, і ў выніку меліся стратныя спажыўтаварыствы і вялікія выдаткі.

Менаддзяленьнем БКС быў складзены падрабязны плян з разьлікам пашырэньня каапэрацыйнага абслугоўваньня, набліжэньня гандлёвых пунктаў да насельніцтва, якаснага паляпшэньня абслугоўваньня спажыўца,

шляхам падбору адпаведнага апарату, і ліквідацыі спажыўтаварыстваў няжыцьцёвых, якія ня маюць эканамічнае падставы для самастойнага існаваньня, як с.-т. Гэты плян дэтальна абмяркоўваўся на раённых каапэрацыйных нарадах і быў праведзены ў жыцьцё ў сярэдзіне году, у час паўгадавых справаздачных сходаў.

Вынікі ажыцьцёўленага пляну гэткія:

на 1/X 1927 г. было 89 с.-т. з колькасьцю крам . 259
„ 1/X 1928 г. „ 76 „ „ „ „ . 293

Такім чынам, пры зьмяншэньні колькасьці спажыўтаварыстваў на 14,6 проц., павялічылася колькасьць крам на 13,1 проц.

Па пляну на 1928-29 год вызначана зьліць з іншымі бліжэйшымі спажыўтаварыствамі яшчэ 10 каапэратываў, і ў выніку будзе 66 с.-т-ваў, з колькасьцю крам 323, што дасьць магчымасьць, адначасова з рацыяналізацыяй сеткі, ліквідаваць каапэрацыйныя пустыні ў акрузе.

*Каапэраваньне насельніцтва.* У мінулым 1927-28 годзе маюцца рэальныя дасягненьні ў справе каапэраваньня і прыцягненьня новых пайшчыкаў.

| ПЭРЫОДЫ | Колькасьць пайшчыкаў | % росту | % каапэр. сялянскіх двароў |
|---|---|---|---|
| На 1/X 1926 году . . . | 49.554 | 100,0 | 40,0 |
| „ 1/X 1927 „ . . . | 57.959 | 116,9 | 47,2 |
| „ 1/X 1928 „ . . . | 74.500 | 150,4 | 58,6 |

У 1927-28 г. рост пайшчыкаў у параўнаньні з 1926-27 г. складае 28,5 проц., тады, як у 1926-27 г. ён складаў па параўнаньні з 1925-26 г. 16,9 проц. Такім чынам у апошнім годзе тэмп каапэраваньня па спажыўкаапэрацыі ўзмацніўся, і гэтым самым павялічаны процант каапэраваньня гаспадарак па акрузе. На 1928-29 г. вызначаецца рост пайшчыкаў на 16 000 чал., і процант каапэраваньня гаспадарак на 70,8 проц.

Узмацненьню тэмпу каапэраваньня дапамагалі:

а) узяты курс на пераважнае і першачарговае забесьпячэньне пайшчыкаў дэфіцытнымі таварамі;

б) узмацненьне работы па каапэраваньні беднаты;

в) узмацненьне аўтарытэту каапэрацыі сярод сялянскага насельніцтва;

г) рост культурнага ўзроўню сялянскага насельніцтва;

д) праведзеная паявая і загатоўчая кампанія.

Належыць яшчэ прыняць пад увагу тыя абставіны, што фактычны процант вызначыўся ў большым памеры, бо ў гэтым годзе была вытварана чыстка пайшчыкаў ад так званых „мёртвых душ".

*Каапэраваньне беднаты.* Гэтай рабоце быў дадзены адпаведны штуршок у час паявое і загатоўчае кампаніі. Існавала становішча, калі фонды на каапэраваньне беднаты несваячасова скарыстоўваліся, і бедната не каапэравалася. У час справаздачна перавыбарчай і паявой кампаніі быў створаны пералом у гэтай адносіне, і работа па каапэраваньні беднаты была пастаўлена, як адна з важнейшых задач спажыўкаапэрацыі.

На 1 кастрычніка 1928 году спажыўкаапэрацыя каапэравала каля 14.463 беднякоў, якім выдадзены пазыкі з фонду каапэраваньня беднаты ў суме 61.063 руб., або ў сярэднім на аднаго бедняка выдадзена пазыка ў памеры 4 р. 22 к.

*Паявы капітал і сярэдні пай.* Узмацненьне тэмпу каапэраваньня і збору паявых узносаў дало магчымасьць павялічыць паявы капітал, а адсюль—уласныя сродкі. Лічбавыя даныя гэткія:

| ПЭРЫОДЫ | Сума паявога капіталу | % росту | Сярэдн. пай на 1 пайшч. | | Рост сярэдн. паю: У суме | | Рост сярэдн. паю: У процантах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1/X 1926 г. | 99.495 | 100,0 | 1 | 96 | — | — | 100,0 |
| „ 1/X 1927 г. | 151.459 | 152,2 | 2 | 61 | — | 65 | 133,1 |
| „ 1/X 1928 г. | 398.000 | 400,0 | 5 | 35 | 3 | 39 | 273,0 |

У 1927-28 годзе рост паявога капіталу вызначыўся ў памеры 163 проц. у параўнаньні з 1926-27 г., бо ў 1926-27 г. рост вызначыўся ў параўнаньні з 1925-26 г. на 52,2 проц. Сярэдні пай у абсалютных сумах вырас на 2 р. 74 к. на параўнаньні з 1926-27 г.

*Выбарчы апарат спажыўтаварыстваў.* Справаздачна-перавыбарчая кампанія мінулага году прашла пад знакам умацаваньня выбарчага апарату спажыўкаапэрацыі бедняцка-серадняцкім блёкам і ўзмацненьня партыйнага кіраваньня. Гэта відаць з наступнага:

| САЦЫЯЛЬНЫЯ ГРУПЫ | Склад праўленьня ў процантах: 1926-27 г. | Склад праўленьня ў процантах: 1927-28 г. | Склад рэўкамісіі ў процантах: 1926-27 г. | Склад рэўкамісіі ў процантах: 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|
| Бедпякі | 27,5 | 38,5 | 11,6 | 15.3 |
| Серадпякі | 31.1 | 23.3 | 20,6 | 19,1 |
| Заможныя | 1,8 | 0,3 | 1,5 | — |
| Рабочыя | 6,4 | 9,5 | 5,0 | 5,6 |
| Служачыя | 33,2 | 28,4 | 62,3 | 60,0 |
| **Усяго** | **100.0** | **100,0** | **100.0** | **100.0** |
| Партыйцаў | 24,3 | 31,0 | 16,4 | 27,0 |
| ЛКСМ | 4,0 | 6,8 | 10,5 | 11,6 |

Склад праўленьня быў абноўлены на 55,6 проц. і склад рэўкамісіі на 68 проц.

*Культурная работа* Культурная работа праводзілася па лініі арганізацыі каапэрацыйных куткоў і гурткоў. Трэба адзначыць, што ў гэтай адносіне яшчэ не дасягнуты рэальныя вынікі. Тлумачыцца гэта тым, што ў гэтым годзе апарат быў перагружаны правядзеньнем розных кампаній (справаздачна-перавыбарчая, зьніжэньня цэн і скарачэньня выдаткаў і паявая загатавіцельная кампанія). Акрамя гэтага, толькі ў апошнім пэрыодзе году была зацьверджана пасада спэцыяльнага інструктара-культурніка. Асноўныя мерапрыемствы ў адносіне культпрацы, якія былі праведзены ў 1927-28 годзе, наступныя.

За рахунак сродкаў спажыўтаварыстваў былі арганізаваны 6 дзіцячых ясьляў і 2 дзіцячыя пляцоўкі ў наступных раёнах: Бягомльскім, Плешчаніцкім, Койданаўскім, Заслаўскім, Сьмілавіцкім і Барысаўскім.

Менаддзяленьнем былі праведзены ў чэрвені, ліпені і жніўні месяцах курсы перападрыхтоўкі працаўнікоў: членаў праўленьня, членаў рэўкамісіі, прыказчыкаў-загататоўцаў і рахункаводаў.

Усяго было праведзена 4 курсы, і працаўнікі атрымалі адпаведную перападрыхтоўку.

*Гандлёвая дзейнасьць.* Гандлёвае абслугоўваньне спажыўца праходзіла ва ўмовах недастатковага забесьпячэньня асобнымі дэфіцытнымі таварамі. Але разам з гэтым, дзякуючы перабудаваньню асартымэнту ў бок разьвіцьця зваротаў з гаспадарчымі таварамі і прадукцыяй мясцовае прамысловасьці (гатовае адзеньне, гатовы абутак, мэбля і г. д.), звароты па сетцы далі значны рост у параўнаньні з 1926-27 г. Зварот па прамтаварах у 1926-27 г. складаў суму ў 8.091 тыс. руб., у 1927-28 г. выкананы ў суме 10.936 тыс. руб., або рост маецца на 35,1 проц. На 1928-29 г. зварот вызначаецца ў суме 13.535 тыс. руб.

*Загатоўкі.* Гэтая праца ўзмацнілася і вырасла ў 1927-28 г. У 1926-27 г. ня ўсе спажыўтаварыствы займаліся загатоўкамі. У час паявое-загатоўчае кампаніі быў створаны адпаведны перадом, і ў сучасны момант усе спажыўтаварыствы займаюцца загатоўкамі.

Калі за 1926-27 г. уся загатоўка была ў суме 285.776 руб., то ў 1927-28 г. яна будзе ў адзін мільён рублёў. Спажыўкаапэрацыя па асобных відах загатовак прызнана асноўным загатоўцам на вёсцы. За 1927-28 г. узмацнёна былі разьвіты звароты з мясам і забесьпячэньне мясцовага насельніцтва мяснымі прадуктамі і іншымі харчовымі прадуктамі мясцовае вытворчасьці.

Пры большасьці мястэчковых спажыўтаварыствах маюцца спэцыяльныя мясныя крамы. Калі ў 1926-27 г. мясны гандаль знаходзіўся ў руках прыватнікаў, то ў 1927-28 г. маем адваротны малюнак, і спажыўкаапэрацыя зьяўляецца дыктатарам цэн на мясным рынку. Характэрным зьяўляецца наступны факт: у Марына-Горцы да таго, як каапэрацыя займалася мясною справаю, цана на сала існавала на рынку 80 кап. Па пляну на 1928-29 г. зварот па загатоўках павінен быць у суме 1.235 тыс. руб.

*Выдаткі.* Перад спажыўкаапэрацыяй была пастаўлена задача скарачэньня адм.-кіраўнічых выдаткаў на 20 проц. Менаддзяленьнем былі распрацаваны цьвёрдыя нормы выдаткаў для кожнага спажыўтаварыства, і ім было прапанавана прыняць усе меры да выкананьня гэтае дырэктывы. У выніку ў 3-м квартале 1927-28 г. дасягнута скарачэньне выдаткаў на 13,6 проц. пры росьце звароту і колькасьці гандлёвых пунктаў.

*Фінансы.* Праведзеная праца па зборы паявых узносаў і рацыяналізацыі сеткі ўмацавала грашовае становішча спажыўтаварыстваў. За 1926-27 г. быў атрыманы прыбытак у суме 93.376 руб., у 1927-28 г. ён будзе арыентыровачна—225 тыс. руб.

На 1 кастр. 1927 г. уласны капітал складаў суму ў 588.275 руб., а на 1 кастр. 1928 г.—складае 1 мільён рублёў. Грашовае становішча нізоўкі палепшылася. Ужо маюцца гэткія спажыўтаварыствы, якія пераходзяць на куплю тавараў і выключна за наяўны разьлік.

Вось тая сума працы, якая была зроблена спажыўкаапэрацыяй акругі.

У далейшым асноўнымі задачамі павінны быць:

1) узмацненьне культпрацы і ўцягненьне каапэрацыйнага актыву ў практычную працу;

2) узмацненьне тэмпу каапэраваньня і збору паявых узносаў;

3) далейшае паляпшэньне апарату спажыўтаварыстваў;

4) паляпшэньне абслугоўваньня каапэраванае і некаапэраванае масы;

5) паляпшэньне грашовага становішча, за рахунак спагнаньня ўсяе дэбіторскае завінавачанасьці, за рахунак паявых узносаў і нармальнага гандлёвага прыбытку, зьнізіўшы выдаткі звароту да мінімуму.

А. Крол

# Вынікі працы Менскага ЦРК

*за 1927-28 год*

Менскі ЦРК абслугоўвае гор. Менск і яго прыгарады, з агульным лікам налічча ў 132 тыс. чалавек. У тэй лічбе рабочых, занятых на вытворчасьці,—11.686, служачых 17.385, саматужнікаў 4 372 чалавекі.

Сяброў прафэсыянальных саюзаў лічылася па Менску 33.295, з іх лічацца сябрамі каапэратыву 27 963, або 83 проц., супроць 70 проц. на 1/X—27 г. Процант каапэраваньня па асобных саюзах паказвае вельмі рэзкія хістаньні. Так, напр., саюзы: дрэваапрацоўчы, гарбарнікаў, чыгуначнікаў, харчавікоў, працзямлес, амаль поўнасьцю каапэраваны ў той-жа самы час, як будаўнікі каапэраваны на 61 проц., тэкстыльшчыкі—60 проц., харчаўнікі—44 проц. Прафэсыянальны склад пайшчыкаў на 1/X—27 г. і 1/X—28 г. і тыя перамены, якія ў ім адбыліся за 1927-28 г., характарызуюцца наступнымі данымі:

| | Лічба пайшчыкаў | | Зьмены ў %% у параўнаньні з 1927 г. | Удзельная вага | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | | 1927 г. | 1928 г. |
| Сяброў прафсаюзаў | 30.186 | 39.938 | + 32 | 74,5 | 70,1 |
| Ваеннаслужачых | 5.988 | 5.720 | — 4 | 19,6 | 14,3 |
| Саматужнікаў | 483 | 758 | + 57 | 1,6 | 1,9 |
| Хатн. гаспад. | 62 | 1.259 | +1.931 | 0,2 | 3,2 |
| Іншых | 1.247 | 4. 29 | + 239 | 4,1 | 10,5 |
| **Усяго** | **30.186** | **39.938** | **+ 32** | **100** | **100** |

Гэтая табліца паказвае, што больш 40 проц. лічбы ўноў прыбыўшых за год пайшчыкаў складаюць не сябры прафсаюзаў (жонкі пайшчыкаў, вучні, інваліды, неарганізаваныя работнікі), пры чым удзельныя вага пайшчыкаў, якія ня лічацца сябрамі саюзаў, узрасла з 5,9 проц. на 1/X—27 г. да 15,6 проц. на 1/X—28 г.

Разьмеркаваньне пайшчыкаў па полу зьмяніліся ў бок росту ўдзельнае вагі: лічбы жанчын з 24,6 проц. на 1/X—27 г. да 31,7 проц. на 1/X—28 г. Абсалютная цыфра росту лічбы жанчын за год складае 4.431, або 82 проц. лічбы ўноў прыбыўшых пайшчыкаў, у той час, як лічба мужчын узрасла на 4.871 чал., або на 28 проц.

Уяўленьне аб нацыянальным складзе сяброў каапэратыву дае наступная табліца (6 проц. агульнае лічбы сяброў без ваеннаслужачых):

| | 1/X—27 г. | 1/X—28 г. |
|---|---|---|
| Беларусаў | 41,9 | 44,0 |
| Яўрэяў | 45,9 | 43,8 |
| Вялікарусаў | 6,4 | 6,3 |
| Іншых | 5,8 | 6,0 |

## Паянамнажэньне і сярэдні пай

У красавіку месяцы 1928 году паявы ўзнос у каапэратыў устаноўлены ў памеры 15 руб., для інвалідаў працы—5 руб., для жонак пайшчыкаў - 3 руб., вучняў, якія знаходзяцца на дзяржстыпэндыі—2 руб., беспрацоўных, якія лічыліся на вучоце біржы працы, зусім ад узносу паю аслабаняюцца.

Паявы капітал на 1/Х—28 г. складае суму ў 304 тыс. руб. супроць 145 тыс. руб. на 1/Х—27 г., г. зн. паявы капітал узрос на 159 тыс. руб., або 109 проц. Кантрольны лічбы па зборы паёў на пэрыод з 1/1 па 1/Х—28 г., устаноўленыя для МЦРК Белрабсэкцыяй у памеры 145 тыс. руб. і выкананы з перавышэньнем на 3 проц.

| | 1/Х—27 г. | 1/Х—28 г. | % ізм. |
|---|---|---|---|
| Сярэдні пай на аднаго пайшчыка складае . . . . . . . | 6 р. | 8,88 | +48 |

Параўнальна нізкі рост сярэдняга паю можна выявіць інтэнсыўным прытокам у склад сяброў каапэратызу тых груп пайшчыкаў, якія ня ўносяць 15 руб. паю.

## Каапэрацыйны актыў

Актыў каапэратыву на 1/Х—28 г. складаўся з 847 чалавек, у тым ліку ўпаўнаважаных 320, сяброў каапэрацыйных камісій 509, каапэрац. арганізатараў 18. Упаўнаважаныя разьмяркованы па наступных сэкцыях: арганізацыйная сэкцыя—97, гандлёвая сэкцыя—156, вытворчая—48, сэкцыя кантролю—17.

Каапэрацыйных камісій на 1/Х—28 г. лічыцца 109, з лічбаю членаў у 509 чалавек. Праца каапэрацыйна-крамавых камісій у асноўным заключаецца ў тым, што яна садзейнічае каапэратыву пры разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў, нагля дзе за правільным разьмеркаваньнем дэфіцітных тавараў крамамі, вярбоўцы сяброў к-ву і зборы паёў, зборы скарг пайшчыкаў на няправільныя ўчынкі працаўнікоў каапэратыву. Працу па растлумачэньні на прадпрыемствах праводзілі толькі адзінкавыя камісіі (Эльвод). Дэфэктамі ў рабоце камісій трэба лічыць слабае разьвіцьцё працы па растлумачэньні на самым прадпрыемстве, слабае кіраўніцтва працай камісій з боку прафорганаў, недастатковую плянавасьць у працы.

## Масавая праца

Масавая праца сярод пайшчыкаў выяўлялася у папулярызацыі мерапрыемстваў і вынікаў дзейнасьці каапэратыву сярод шырокіх мас пайшчыкаў, каапэрацыйна-асьветнай працы і абслугоўваньні бытавых патрэб сяброў к-ву.

За год каапэратывам праведзена 193 сходы пайшчыкаў, 10 сходаў жанчын, 15 вечароў пытаньняў і адказаў. Акрамя гэтага, праведзен шэраг сходаў, прызначаных да паасобных кампаній (Міжнародны каапэрацыйны дзень і г. д.).

Трэба падкрэсьліць, што МЦРК прымаў удзел у мітынгу-пераклічцы, які праводзіўся газэтай „Каапэрацыйнае Жыцьцё“ ў чэрвені і ліпені месяцах г. г. У заданьні мітынгу ўваходзіла:

1) павысіць актыўнасьць каапэраваных мас і каапэрацыйнага актыву ў справе каапэрацыйнага будаўніцтва; 2) узмацніць працу па паянамнажэньні і каапэраваньні; 3) разьвіць укладныя апэрацыі.

Задачы, якія паставіў перад сабою каапэратыў пры правядзеньні мітынгу, у галіне каапэраваньня і збору паёў выкананы. Заданьні па зборы ўкладаў у памеры 20.000 руб. выкананы толькі ў нязначнай частцы.

Каапэрацыйна-асьветная праца сярод пайшчыкаў, дзякуючы таму, што яна не ўвайшла ў агульную сыстэму культработы прафорганаў, разьвіта слаба.

Наогул неабходна канстатаваць тое, што ў справе развіцьця каапэрацыйна-асьветнае работы каапэратыву не ўдалося яшчэ знайсьці правільных дарог.

Абслугоўваньне бытавых патрэб пайшчкаў пачало наладжвацца параўнальна ня так даўно. У сучасны момант пры каапэратыве існуе дзіцячы прытулак на 40 дзяцей, на летні час была арганізавана дзіцячая пляцоўка, існавала кансультацыя для цяжарных жанчын, арганізавана крама „Мацер і дзіця“.

## Гандлёвая сетка

На 1 кастрычніка 1928 г. каапэратыў налічваў 102 крамы, 17 ларкоў, уключаючы прыведзеную лічбу 33 крамы, якія прыняты ад Белларка і ад Белмясгандлю. Большасьць крам, якія маюцца ў каапэратыве, знаходзяцца ў малапрыстасаваных, кепска абсталяваных памяшканьнях. Некаторае разуменьне аб тым, што надае сабой крамавая сетка каапэратыву на 1/X-28 г. паказвае наступная табліца:

| Віды гандлю | Сярэдні месячны зварот аднае крамы у тысячах руб. | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 5000 | 5 т. 10 т. | 10 т. 20 т. | 20 т. 30 т. | 30 т. 40 т. | 40 т. 50 т. | 50 т. 60 т. | 60 т 70 т. | Звыш 100 т. | Усяго |
| Прад. крам. . . . | 38 | 20 | 22 | 3 | 1 | 2 | — | — | — | 86 |
| Тыпу унівэрмага | — | — | — | 2 | 1 | — | — | 1 | — | 4 |
| Непрадав. зьмешан. . . . . . | — | 1 | 4 | 1 | 2 | 1 | — | 1 | 1 | 11 |
| Інш. непр. . . . . | 9 | 3 | 1 | 4 | — | — | — | — | 1 | 18 |
| **Усяго** . . | **47** | 24 | **27** | **10** | **4** | **3** | — | **2** | **2** | **119** |

Паданая табліца паказвае, што звыш 79 проц. ліку гандлёвых адзінак МЦРК складаюць харчовыя крамы, у тым ліку бакалейных 53, хлебных 8, мясных 20, харчова-зьмешаных 5. Асартымэнт нехарчовых і зьмешаных крам зьяўляецца ў асноўным з мануфактурных і галянтарэйных тавараў, некаторыя крамы маюць абутковыя і начынныя аддзяленьні. У іншыя нехарчовыя крамы ўключаны: газавыя крамы—8, начынныя—2, гатовага ўбраньня—2, абутку—2.

## Служачыя, нагрузка, зарплата

Служачых у гандлёвых прадпрыемствах і апараце кіраваньня на 1 кастрычніка налічваецца 695, у тым ліку штатных служачых па апарату 67 чал. Сярэдняя месячная нагрузка ў рублёх на аднаго служачага складае за 26-27 г—2.440 р. і за 27-28 г.—2.559 р.

Нагрузка на аднаго працаўніка прылаўку за 27-28 г. складае суму ў 3.112 р. (за выключэньнем вучняў-броні) супроць 2.871 р. за 26 27 г. Па параўнаньні з нагрузкаю шэрагу другіх гарадоў, нагрузку па МЦРК нельга лічыць прыкладчай і адпаведнай, але улічваючы нізкую кваліфікацыю большасьці працаўнікоў прылаўку, у прыватнасьці бакалейшчыкаў, кепскае становішча тэхнічнага абсталяваньня крам, прыходзіцца канстатаваць, што ў далейшым каапэратыву, у мэтах паляпшэньня абслугоўваньня спажыўцоў, давядзецца ўзяць курс на зьмяншэньне нагрузкі прадаўца.

Сярэдняя зарплата на аднаго працаўніка каапэратыву (за 27-28 гаспадарчый год) характарызуецца наступнымі дадзенымі: заг. крамаю—85 р. 14 к., заг складамі—121 р. 50 к, прадаўца—52 р. 82 к., працаўніка цэнтральнага апарату—63 р. 62 к. Параўнаўча з 26-27 г. сярэдняя зарплата крамавае групы служачых узрасла на 2 проц.

## Звароты

Выручка каапэратыву за 27-28 г. складае суму 15.707 тыс. рублёў, у тым ліку гандлёвы зварот—14.524 тыс. руб., або 92½% да звароту; прадпрыёмстваў агульнага харчаваньня—1.183 тыс. руб. або 7,5 проц. Разьмеркаваньне звароту па кварталах і зьмены звароту параўнаўча з 26-27 г. паказвае наступная табліца:

| Пэрыоды | Звароты | | % змянен. у параўнаньні з 26-27 г | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 26-27 г. | 27-28 г. | Гандлёвыя звар. | Зварот агул. харч | Усяго |
| 1-й квартал | 3.065 | 3.843 | 1,27 | 1,09 | 1,25 |
| 2 „ | 2.741 | 3.547 | 1,36 | 1,04 | 1,27 |
| 3 „ | 2.912 | 3.795 | 1,31 | 1,20 | 1,30 |
| 4 „ | 3.168 | 4.422 | 1,40 | 1,40 | 1,40 |
| **Усяго** | **11.886** | **15.707** | **1,33** | **1,19** | **1,32** |

## Асартымэнт

Асартымэнт тавараў і тыя перамены, якія ў ім адбыліся параўнаўча з 26-27 г., характарызуюцца наступнымі дадзенымі:

| Назва груп | Паступіла за 26-27 г. | Паступіла за 27-28 г. | % зьмены параўн. з 26-27 г. | Удзельная вага 26-27 г. | Удзельная вага 27-28 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| | В тыс. руб. | | | | |
| С/г. тавары | 2.465 | 3.732 | + 5,7 | 25,5 | 27,4 |
| Бакал.-калён. тавары | 2.203 | 2.841 | + 29 | 22,8 | 20,8 |
| Жалеза-скоб. | 281 | 303 | + 8 | 2,9 | 2,2 |
| Мануфактура | 1.659 | 1.909 | + 15 | 17,2 | 14,0 |
| Гатов. убран. | 346 | 1.045 | +201 | 3,6 | 7,7 |
| Галант. трыкат. | 693 | 1.231 | + 78 | 7,2 | 0,9 |
| Скур. абувн. тав. | 868 | 1.210 | + 39 | 0,9 | 8,9 |
| Іншыя тавары | 1.155 | 1.367 | + 18 | 11,8 | 10,0 |
| **Усяго** | **9.670** | **13.638** | + 41 | **100** | **100** |

У дадзеную табліцу ўключаны поўнасьцю ўсе тавары, якія ўвашлі ў 27-28 годзе, за выключэньнем паступленьняў ад уласнай вытворчасьці і перапрацовак. Прыведзеная табліца паказвае, што паступленьне па с.-г. групе тавараў узрасло на 1.267 тыс. руб., альбо на 57 проц. пры росьце удзельнае вагі дадзенае групы на 2,1 проц. Рост паступленьняў па с.-г. групе ўтварыўся, галоўным чынам, за лік росту паступленьня мяса на 493 000 р., або на 200 проц., мукі пшанічнай на 192.000 р., альбо на 38%, малочных прадуктаў—172.000 руб., альбо 130 проц., сьвежае рыбы на 123.000 р. Значна зьменшылася паступленьне харчовага збожжа і атрубей.

Бакалейная група тавараў узрасла на 638.000 р., альбо на 29 проц., пры зьмяншэньні яе ўдзельнае вагі на 2 проц. Рост бакалейнае групы ўтварыўся за лік павялічэньня паступленьняў цукру на 396.000 руб., альбо на 49 проц., селядцоў на 48 проц., гастранамічных тавараў—56 проц., цукерных тавараў—114 проц. Зьменшылася паступленьне тытуновых вырабаў і саленае рыбы, хлебнага віна і піва.

Паступленьне мануфактуры ўзрасло на 250.000 р., альбо на 15 проц. пры зьмяншэньні яе удзельнае вагі на 3,2 проц. Рост паступленьня крамніны ўтварыўся за лік павялічэньня паступленьня хлапчата-папяровых і штучных тавараў пры значным зьмяншэньні паступленьня суконна-камвольных тавараў.

Звароты па галянтарэйна-трыкатажнай групе павялічыліся на 541 т. рублёў, або на 78 проц., пры ўзросьце яе ўдзельнае вагі на 2,1 проц., пры чым паступленьне трыкатажных тавараў узрасло на 404 тыс. рублёў, або 179 проц., а паступленьне галянтарэйных тавараў—на 22 проц. Парфумэрныя тавары займаюць нікчэмнае месца ў асартымэнце каапэратыву. Паступленьне па скура-абутковай групе ўзрасло на 342.000 руб., або на 39 проц., пры чым паступленьне скураных і брэзэнтных абуткаў узрасло на 32 проц., а паступленьне галёшаў—на 148 проц., пры зьмяншэньні паступленьня скуртавараў на 15 проц.

## Цэны і нацэнкі

У працягу разглядаемага пэрыоду, пераважна ў астатнім квартале, утварыліся досыць значныя зьмены цэн на асноўныя с.-г. тавары ў бок іх росту пры агульнай стабільнасьці цэн на прамтавары. Рост прадажных цэн зьяўляецца вынікам росту сабекаштоўнасьці шэрагу с.-г. тавараў, пры чым тэмп росту сабекаштоўнасьці значна апярэджвае тэмп росту прадажных цэн, г. з., зьмяншаецца рэнтабельнасьць працы з с.-г. таварамі, гандаль з якімі і без таго не зьяўляецца рэнтабельным.

Сярэдні процант нацэнак на сабекаштоўнасьць паступіўшых тавараў за 27-28 год складае 11,84 проц., супроць 12 проц. за 26-27 г. Найбольшы памер налажэньня, устаноўлены для МЦРК рэгулюючымі арганізацыямі, складае 12,3 проц.

Зьмены сабекаштоўнасьці і прадажнае каштоўнасьці на асноўныя с.-г. і харчовыя тавары, роўны зьмяненьню проценту налажэньня па паказных таварах і характарызуюцца наступнымі данымі:

| | Колькасьць | Цэны: Па сабекаштоўнасьці, На 1/X 1927 г. | Цэны: Па сабекаштоўнасьці, На 1/X 1928 г. | Цэны: Прадажн., На 1/X 1927 г. | Цэны: Прадажн., На 1/X 1928 г. | Процанты налажэньня, На 1/X 1927 г. | Процанты налажэньня, На 1/X 1928 г. | Процанты зьмянен. кашт., Сабекошт | Процанты зьмянен. кашт., Прадажн. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хлеб жытні | кгр. | 9,00 | 9,00 | 10,00 | 11,00 | 10,00 | 10,00 | + 10.0 | —10,0 |
| Грэчн. круп. адр. | „ | 18,50 | 19,90 | 20,50 | 22,00 | 10.80 | 10,50 | +7,6 | — 7,3 |
| Бульба | „ | 2,50 | 3,88 | 3,00 | 3,75<br>4,07 | 20,00 | — | +55,2 | — |
| Капуста сьвежая | „ | 4 | 5,50 | 5,50 | 7,00 | 28.70 | 27,00 | +37,5 | —27,3 |
| Буракі | „ | 4,60 | 5,80 | 6,00 | 7,50 | 32,00 | 30,00 | +26,1 | —25,0 |
| Цыбуля | „ | 8,20 | 9,00 | 11,00 | 11,00 | 34,10 | 22,20 | +9.8 | — |
| Каровіна | „ | 57,50 | 27.50 | 60,00 | 60,00 | 4,30 | 4,30 | — | — |
| Масла сьлівачн. сьвеж. | „ | 195,00 | 205,00 | 220,00 | 260,00 | 12,80 | 4.00 | +28.4 | —18,2 |
| Малако | літр | 11,25 | 13,25 | 12,00 | 14,00 | 6.70 | 5.70 | +17,8 | —16,7 |

Увага. Сабекаштоўнасьць клгр. бульбы ад уласных зарыхт вак 3.88 к., прадажная цана 3,75 к., з дастаўкай да хаты 4,07 к.

### Гандлёва-арганізацыйныя выдаткі

Цэрабсэкцыяй устаноўлены для МЦРК гранічны памер гандлёва-арганізацыйных выдаткаў у 8,9 проц. да звароту. Каапэратыў добрасумленна спрабаваў укласьціся ў гэтую норму выдаткаў, але практыка паказала, што гэтая норма не зьяўляецца жыцьцёвай, і каапэратыў у жадным выпадку ня зможа яе дасягнуць.

Сярэдні процант выдаткаў за 27-28 г. па МЦРК складае 10,2 проц. супроць 10,3 проц. за 26-27 г. Адміністрацыйныя выдаткі адносна да гандлёвага звароту за 26-27 г. складалі 1,44 проц., за 27-28 г.—0,94 проц.

Разьмеркаваньне выдаткаў па асноўных артыкулах і зьмяненьне артыкулаў выдаткаў па параўнаньні з 26-27 г. характарызуецца наступнаю табліцай:

| Назва артыкулаў выдаткаў | Проц. да звароту | |
|---|---|---|
| | 26-27 г. | 27-28 г. |
| Утрыманьне пэрсан. . . | 3,76 | 3,53 |
| Разьезды і каманд. . . | 0,05 | 0,03 |
| Утрыман. памяшкан. . . | 0,24 | 1,23 |
| Канц. і п.-т. выдаткі . . | 0,19 | 0,16 |
| Падаткі і зборы . . . . | 2,56 | 3,09 |
| Культвыдаткі . . . . . | 0,03 | 0,03 |
| Захоўваньне тавараў . | 1.35 | 1.10 |
| Проц. па пазыках . . . | 1,05 | 1,04 |
| Іншыя выдаткі . . . . . | 0,10 | 0,02 |
| Усяго . . | 10,33 | 10,24 |

Паданая табліца паказвае, што залежныя выдаткі ўзрасьлі па зраўненьні з 26-27 г. на 0,54 проц. пры зьмяншэньні залежных на 0,63 проц. Адміністрацыйныя выдаткі зьніжаны на 18 проц. адносна да сумы выдаткаў за 26-27 г. Каштарыс выдаткаў выкананы з нязначным перавышэньнем.

### Грамадзкае харчаваньне

У справе паляпшэньня пастаноўкі агульнага харчаваньня за 27-28 гасп. год маецца значны зрух. Калі за мінулыя гады працаўнікі каапэратыву, каапэратыўны актыў і наведвальнікі сталовак толькі абмяжоўваліся канстатаваньнем дэфэктаў пастаноўкі работы грамадзкага харчаваньня, дык у справаздачным годзе праўленьнем каапэратыву, пры ўдзеле працаўнікоў прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня, прафэсыянальных арганізацый, органаў РСІ і ўсяе пралетарскае грамадзкасьці быў праведзены цэлы шэраг канкрэтных мерапрыемстваў па паляпшэньні грамадзкага харчаваньня, як напрыклад: наладжана дастаўка абедаў на прадпрыемствы, палепшана абслугоўваньне сэзонных працаўнікоў і ваеннаслужачых, сталовыя часткова пашыраны і мэханізаваны, палепшаны кіруючы пэрсанал, і ў сталоўках зьвернута належная ўвага на паляпшэньне якасьці абедаў.

Усе даныя мерапрыемствы ня ўхіляюць, бязумоўна, яшчэ ўсіх дэфэктаў пастаноўкі грамадзкага харчаваньня, але можна думаць, што рэальныя вынікі гэтых мерапрыемстваў пакажуць сябе ў бліжэйшым будучым.

Звароты прадпрыемстваў грамадзкага харчаваньня за 1926-27 г. складаюць 1.183.000 руб., супроць 992.000 руб. за 1926-28 г., г. зн. звароты ўзрасьлі на 191.000 руб., альбо на 19 проц. Адпушчана абедаў у 1926-27 г. 906 тыс. адзінак, у 1927-28 г. 1.051.000 адзінак. Страты па сталоўках, па дадзеных на 1 верасьня, складаюць 38.120 руб.

### Хлебапячэньне

Забесьпячэньне насельніцтва хлебам утвараецца каапэратывам праз 74 гандлёвыя адзінкі, ня лічачы буфэтаў. Выпечка хлеба ў пачатку 26-27 г. утваралася цераз 3 пякарні саматужнага тыпу; ў сярэднім пякарні выпякалі хлеба паўбелага і жытняга 308.000 клгр. кожны месяц і 58.000 клг. пшоннага хлеба і 376 000. штук баранкаў, вагаю у 55 гр. кожны. З пускам хлебнага заводу пякарні былі ліквідаваны. У першыя месяцы свайго існаваньня (лютага 28) завод працаваў з перабоямі, ў сучасны момант завод выпякае кожны месяц 820.000 кгр. хлеба, акрамя таго Т/К. пекароў і саматужнікі выпякаюць для каапэратываў каля 220.000 клгр жытняга хлеба. Акрамя гэтага, хлебны завод выпякае кожны месяц 364.000 клгр. пшоннага хлеба і 650.000 штук баранкаў.

Абсталяваньне заводу абышлося звыш 900 тыс. руб., з гэтае сумы 350 тыс. руб. укладзена каапэратывам з уласных сродкаў.

### Грашовае становішча ЦРК

У першым паўгодзьдзі пэрыоду, які намі разглядаецца, грашовое становішча каапэратыву было надзвычайна напружаным. Асноўнаю прычынай грашовых цяжкасьцяў каапэратыву зьяўлялася неабходнасьць вынятку са звароту значных сум для даабсталяваньня хлебнага заводу. За першае паўгодзьдзе было ўкладзена ў хлебны завод 260 тыс. рублёў з уласных сродкаў каапэратыву, акрамя тых сродкаў, якія былі ўкладзены ў 26-27 г. На 1 красавіка 1928 г. каапэратыў амаль ня меў уласных сродкаў у звароце. Другія прычыны, якія дрэнна адбіліся на грашовым становішчы МЦРК, трэба адзначыць недастатковую высокую рэнтабельнасьць работы каапэратыву ў выніку нізкага памеру сярэдняга проценту накладаньня, недастатковасьць дадзеных каапэратыву банкаўскіх крэдытаў.

У другім паўгодзьдзі грашовае стачовішча каапэратыву некалькі палепшылася. У выніку: 1) узмацненьне прытоку паявых узносаў; 2) спыненьне ўлажэньня ўласных сродкаў у нярухомую маёмасьць; 3) павялічэньне банкаўскіх і таварных лімітаў каапэратыву.

Паводле балянсу на 1 верасьня каапэратыў мае за 11 месяцаў прыбытак у суме 158.000 руб. Уласныя сродкі на 1 верасьня складаюць суму 934.000 руб. супроць 652.000 руб. на 1 кастрычніка 27 году.

---

**Гэршковіч**

## На дапамогу каапэраванаму саматужніку

Урадам выданы цэлы шэраг пастаноў аб садзейнічаньні разьвіцьцю саматужнае прамысловасьці і саматужна-прамысловай каапэрацыі і аб дапамозе каапэраванаму саматужніку.

Апошні дэкрэт ад 21-га траўня г. г. гаворыць аб прыраўнаньні каапэраваных у арцелі саматужнікаў да членаў прафсаюзаў. Ня менш зьвярраецца ўвагі і на ахову здароўя саматужнікаў. Яшчэ ў мінулым годзе арг. аддзелам Бабруйскага Акрсампрамсаюзу ставілася на абгаварэньне пытаньне аб арганізацыі страхкасы каапэраваных саматужнікаў.

Праца ішла вельмі слаба, усё-ж апошні зьезд упаўнаважаных арцеляй Бабруйскага Акрсампрамсаюзу ў лютым месяцы даў дырэктывы арганізаваць касу.

І ў першых лічбах красавіка г. г. каса пачала функцыянаваць. На першае чэрвеня сампрамстрахкаса ўжо аб'яднае 26 арцеляй з лікам

510 членаў, каля 30 адзінак-саматужнікаў і 1.480 чалавек утрыманцаў. Пакуль што каса пашырае сваю чыннасьць толькі на горад, але паступова яна пачынае ахапляць і раёны.

Каса аказвае наступныя віды дапамогі: мэдычна-лекарскую, як амбуляторную, так і хатнюю, утрымлівае шпітальныя ложкі, а таксама выдае лекі і пратэзы. Акрамя таго, каса выплачвае ў выпадку хваробы членам арцелі 50 проц. зарплаты. Выдае дапамогу пры радох, сьмерцях, а таксама і бяспроцантныя ўзваротныя пазыкі.

У апошні час арганізаваны дом адпачынку за горадам, у дачнай мясцовасьці, праз які мяркуецца прапусьціць каля 90 чалавек за лета. У справе мэдычнага абслугоўваньня сваіх членаў каса зьвязана ўмоваю з мясцовым аддзелам аховы здароўя, які ў гэтай справе пайшоў насустрач.

За два месяцы красавік-травень выдана:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | На амбуляторнае абслугоўваньне (акр. аддз. ах. зд.) . . . . | 992 руб. |
| 2. | Дапамогі па хваробе (за 193 рабочыя дні 45 выпадкаў) . . | 303 „ |
| 3. | „ „ радох (7 выпадкаў) . . . . . . . . . . . . . . . | 105 „ |
| 4. | „ ў выпадку сьмерці (1 вып.) . . . . . . . . . . . . | 15 „ |
| | Усяго . . . . . . . . . . . . . | 1.415 руб. |

Хібаю ў працы касы зьяўляецца тое, што амбуляторная дапамога аказваецца не з цэнтральнай амбуляторыі, а з сялянскай, якая месьціцца на ўскраіне гораду. Акруговаму аддзелу аховы здароўя гэта трэба мець на ўвазе.

Ня ўсе арцелі гораду ўступілі ўжо ў члены касы. Апошнім трэба падцягнуцца. Дапамога каапэраванаму саматужніку павінна быць аказана. Каса існуе на сродкі з адлічэньняў ад зарплаты членаў арцелі: 4 проц. з рамесьніцкіх арцеляй, 6 проц. з мэханізаванага тыпу арцеляй і па адным рублі з саматужніка-адзінкі. Апошнім аказваецца толькі мэдычна-лекарская дапамога.

Узносы ад арцеляй, за невялікім выключэньнем, паступаюць нармальна. Страхаваньне здароўя ўкараняецца ў быт саматужніка.

Каса працуе пад кіраўніцтвам 2 таварышоў партыйцаў, якія пільна берагуць кожную капейку. Каса ў верных руках.

---

Рафаіл Фрыдлянд

# Становішча і праца сельска-гаспадарчае каапэрацыі Мазыршчыны

(*Паводле матар'ялаў Белсельбанку*)

Мэтай гэтага артыкулу зьяўляецца дача характарыстыкі асноўных момантаў разьвіцьця і працы с.-г. каапэрацыі Мазырскае акругі за апошнія гады і далейшых мерапрыемстваў па паляпшэньні яе працы. Перш за ўсё трэба агаварыцца, што ў гэтым артыкуле прапушчаны даныя аб эканоміцы сельскае гаспадаркі акругі і аб гісторыі арганізацыі Мазырскага акрсельсаюзу, які за час ад 1924 году, у якім ён арганізаваны, і да сучаснага моманту мае шмат дасягненьняў і недахопаў як у справе арганізацыі і абслугоўваньня ім свае нізовае сеткі, так і ў справе агульнага кіраваньня і разьвіцьця с.-г. каапэрацыі акругі.

## I. Становішча і праца нізовае сеткі

Рост аб'яднаньняў с.-г. каапэрацыі Мазырскае акругі за час ад 1/X 1926 г. да 1/IV 1928 г. можа быць відным з наступнага:

| Аб'яднаньні | Процанты росту: 1 кастрыч. 1926 г. | 1 кастрыч. 1927 г. | 1 красав. 1928 г. | 1 кастрыч. 1927 г. | 1 красав. 1928 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| С.-г. крэдытных таварыстваў . . | 11 | 16 | 20 | 45,4 | 25,0 |
| „ таварыстваў . . . . . . . . . | 8 | 2 | — | — | — |
| Калгасаў . . . . . . . . . . . | 22 | 26 | 35 | 18,2 | 34,6 |
| Малочн. арцеляй . . . . . . . . | 7 | 16 | 18 | 128,6 | 12,5 |
| Машынных т-ваў . . . . . . . . | 4 | 4 | 18 | — | 350,0 |
| Насеньняводных . . . . . . . | 2 | 2 | 5 | — | 150,0 |
| Пчалярскіх . . . . . . . . . . | 3 | 3 | 5 | — | 66,0 |
| Кантрольных . . . . . . . . . | 1 | 1 | 1 | — | — |
| Рыбалоўных . . . . . . . . . . | 3 | — | — | — | — |
| Бычыных . . . . . . . . . . . | — | — | 1 | — | — |
| Птушкаводных . . . . . . . . | — | — | 1 | — | — |
| **Усяго. . . .** | **61** | **70** | **104** | **20,7** | **48.5** |

Увага. Усе мэліярацыйныя т-вы (47) зьяўляюцца „дзікімі“, бо не ўваходзяць членамі ў акрсельсаюз, і пры сучасных умовах апошні ня мае магчымасьці іх абслугоўваць у выпадку ўключэньня іх у сыстэму с.-г. каапэрацыі.

Сярэдні лік пайшчыкаў на 1 с.-г. крэдытнае т-ва зьмяніўся ад 1058 на 1/X 1927 г. і да 934 на 1/IV 1928 г., а лік жанчын ад 3,8 проц. да агульнага ліку пайшчыкаў на 1/X 1926 г. да 4,5 проц. на 1/X 1927 г.

Сярэдні пай складаў на 1/X 1926 г.—3 р. 48 кап., на 1/X 1927 г.—3 р. 72 к., на 1/IV 1928 г.—4 р. 75 к. і на 1/V 1928 г.—6 руб. 72 к. Дырэктыва Белсельсаюзу аб спагнаньні паявых капіталаў выканана амаль што на 80 проц.

Сярэдні пай па малочных арцелях складае толькі адзін рубель. Тэмп каапэраваньня насельніцтва па сыстэме с.-г. каапэрацыі акругі ў гэтым годзе некалькі адстае ад мінулага 1926-27 г.; так, на 1/X 1926 г. было каапэравана 22,5 проц., на 1/X 1927 г.—31,4 проц. і на 1/IV 1928 г.—33 проц. усіх гаспадарак. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што ня прыняты адпаведныя мерапрыемствы для арганізацыі вытворчых арцеляй з адпаведным лікам пайшчыкаў, згодна даных БССР дырэктыў. Так, напр., арганізуюцца малочныя арцелі з 20 членамі і калгасы з 58 і г. д.

Сацыяльны склад членаў с.-г. крэдытных таварыстваў зьмяніўся ў напрамку большага павялічэньня ліку серадьнякоў і часткова заможных. Так, паводле даных перавыбарчае кампаніі 1926-27 году, беднаты было—52,8 проц., серадьнякоў—44,3 проц. і заможных—2,3 проц., а ў 1927-28 г. беднаты—43,9 проц., серадьнякоў—52,70 проц. і заможных—3,4 проц., што тлумачыцца паляпшэньнем маемаснага стану каапэраваных, а таксама зьмяненьнем паказьнікаў сацыяльнага складу вёскі. Трэба адзначыць, што на мясцох існуюць розныя тлумачэньні па пытаньні аб тым, каго аднесьці да беднаты, серадьнякоў, заможных і кулакоў. Тыя паказьнікі, якія існуюць па паёўнасьці, па ліку коняй і кароў, зьяўляюцца не характэрнымі і не заўсёды адпавядаюць сапраўднаму становішчу гаспадаркі. Так, магчыма мець мала зямлі, але мець і тэхнічныя прадпрыемствы ці іншыя пабочныя заробкі, якія дазваляюць атрымаць дастатковыя прыбыткі.

Звароты крэдытнае сеткі значна павялічыліся, і за першае паўгодзьдзе 1927-28 г. яны складаюць 84,6 проц. звароту 1926-27 г. па пакупцы, пры чым структура зваротаў зьмянілася ў напрамку павялічэньня пакупкі бытавых тавараў ад 41,8 проц. за 1926-27 г. да 64,5 проц. у першай палове 1927-28 г. Таксама павялічылася і гаспадарчая сувязь нізоўкі з акрсельсаюзам па пакупцы ў яго тавараў, якія дастаўляюцца ад 38,3 проц. на 1 кастрычніка 1927 г. да 56,8 проц. на 1 красавіка 1928 года. Значна павялічылася ўдзельная вага зваротаў па збыце ў усіх зваротах нізоўкі; па продажу—ад 46,7 проц. за 1926-27 г. да 63,9 проц. за першае паўгодзьдзе 1927-28 г., пры адпаведным зьмяншэньні звароту па дастаўцы і пры павялічэньні гаспадарчае сувязі нізоўкі з акрсельсаюзам па збыце апошняму сваіх назапашаных тавараў ад 29 проц. за 1926-27 г. да 50,8 проц. за першае паўгодзьдзе 1927-28 г.

Хоць камісійныя апэрацыі нізоўкі і павялічваюцца як па дастаўцы так і па збыце, аднак, і да сучаснага моманту яны займаюць нязначнае месца ў зваротах нізоўкі і складаюць 3,5 проц. па дастаўцы і 109 проц. па збыце.

Вынікі гаспадарчае дзейнасьці сельска-гаспадарчае крэдытнае сеткі за першае паўгодзьдзе 1927-28 году зьяўляюцца наступнымі: з 18 с.-г. крэдытных т-ваў 11 скончылі апэрацыі з прыбыткамі ў 40.428 руб. і 7 са стратамі галоўным чынам у мінулых гадох, у разьмеры 30.625 руб., ці чыстага прыбытку маецца 9.803 руб., што складае 0,8 проц. да звароту па продажу тавараў. Найбольш буйнымі стратнымі таварыствамі зьяўляюцца Капаткевіцкае, Жыткавіцкае і Лельчыцкае, становішча апошняга некалькі палепшылася, і страты яго зьмяншаюцца. Наогул яны павінны быць аздароўлены шляхам атрыманьня доўгатэрміновых бяспроцантных пазык для пакрыцьця ўсіх страт ці рэарганізацыі іх.

У дзейнасьці с.-г. крэдытных т-ваў маецца ўхіл у напрамку абрастаньня вытворчымі прадпрыемствамі па распрацоўцы лесаматар'ялаў, смалапрадуктаў, і г. д. і нават камунальнымі—электрастанцыяй (Калінкавіцкае) і мельніцамі. Таму штаты ў некаторых з іх больш, чым у саюзе (26 чалавек); напр., у Нароўлянскім—28 і інш.

Зваротнасьць тавараў с.-г. крэдытных т-ваў па дастаўцы—адзін раз у 60 дзён, а па збыце—адзін раз у 14 дзён.

Яшчэ трэба спыніцца на пратэрміноўках нізовае с.-г. крэдытнае сеткі, якія значна зьменшыліся і складалі на 1/X 1927 г.—51.288—8,4 проц., на 1/I 1928 г.—84.739—14,3 проц., на 1/V 1928 г.—32.108—4,6 проц. да агульнай астачы пазык на гэтыя лічбы.

Ня гледзячы на павялічэньне ліку малочных арцеляй да 21, аднак з іх працуюць толькі 13, пры чым сярод іх маюцца і такія арцелі, якія ня маюць пэрспэктыў для свайго далейшага разьвіцьця, а таксама і такія, якія не працуюць з прычыны адсутнасьці малочнага інвэнтару. Наогул становішча малочнае сеткі акругі зьяўляецца слабым: сярэдні балянс складае толькі 2.000 р., пры чым амаль што ўсе малочныя заводы арцеляй ненагружаны, і павялічэньне перааапрацоўкі малака і вырабу малочных прадуктаў адбылося, галоўным чынам, за лік больш моцных малочных арцеляй (Ансэльмаўскай) і малочнага заводу пры Клесінскім крэдытным таварыстве і часткова за кошт 4 заводаў пры калгасах. Слабая работа малочных арцеляй тлумачыцца недастатковай колькасьцю малочнага інвэнтару і недастатковым абслугоўваньнем, асабліва ў пачатку арганізацыі арцеляй, недастатковым падборам патрэбнага апарату, а таксама з прычыны дрэннае пастаноўкі рахункаводзтва і справаздачнасьці і адсутнічаньня ў дастатковым разьмеры ўласных сродкаў, дзякуючы маламу разьмеру паявых узносаў, і наогул слабае рэнтабельнасьці апэрацый.

Хоць лік машынных т-ваў па акрузе значна павялічыўся, аднак яны ў сваім раёне дзейнасьці ахапляюць толькі 13 проц. усіх гаспадарак, а

беднякоў уцягнута толькі 20 проц. Сярэдні балянс машыннага т-ва складаў толькі 649 руб. Сярод іх маюцца і такія, якія свой статут не зарэгістравалі і па сутнасьці не зьяўляюцца с.-г. каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі, а ў некаторых зусім нязначны лік членаў—менш, чым гэта вызначана наяўнымі палажэньнямі (5), аднак яны карыстаюцца крэдытамі, напр., Млынок, Баклонь і інш.

Плян калектывізацыі сельскае гаспадаркі акругі выкананы поўнасьцю, і ў сучасны момант маецца 47 калгасаў, з якіх 46 працуюць на падставе статуту працоўнай арцелі, а адзін калгас зьяўляецца камунай. Усімі калгасамі скарыстоўваецца 75 проц. ворнае плошчы. Эфэктнасьць ураджайнасьці наяўных калгасаў па некаторых культурах слабая нават у параўнаньні з сялянскімі гаспадаркамі, што ў асноўным тлумачыцца наступным:

1) мала ўвагі зварочвалася на ўздым глебы, асабліва ў тых калгасах, у якіх яна высілена (на былых землях абшарнікаў, бо фактычна гэтыя землі дрэнна апрацоўваліся ад часу рэвалюцыі на працягу 5-6 год без унясеньня адпаведных угнаеньняў і без вядзеньня агранамічных мерапрыемстваў);

2) шматпольныя севазвароты ўстаноўлены ў калгасах толькі некалькі гадоў таму назад, так што фактычна яны яшчэ да гэтага часу не зрабілі поўнага севазвароту за гэты тэрмін, пры чым наглядаюцца выпадкі невыкананьня ўстаноўленага севазвароту з прычыны адсутнічаньня сталага нагляду з боку агранаміі;

3) недахоп жывёлы, адсюль—недахоп гною для ўгнаеньня, таксама адсутнасьць правільнага кармленьня жывёлы і дагляду за ёй і наогул няпоўная абграмаджанасьць усяго інвэнтару;

4) атрыманьне і скарыстаньне крэдытаў не ў залежнасьці ад эфэктыўнасьці гэткіх; няма адпаведнага абслугоўваньня ў гэтым напрамку;

5) наогул зусім недастатковае абслугоўваньне калгасаў з боку агранаміі і асабліва з боку арганізацыйнага, дзякуючы чаму адсутнічае правідлова пастаўленае рахункаводзтва і вучот, што ў сувязі са слабай работай рэўкамісіі аслабляе дысцыпліну і стварае ўмовы для няпоўнага скарыстаньня свае працы (паніжэньне вытворчасьці), бо ў членаў калгасаў назіраюцца выпадкі няўпэўненасьці ў поўным скарыстаньні вынікаў іх працы.

Адначасова няма падрыхтаваных калектывістых, якія былі-б знаёмы з пастаноўкай справы калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

*(Працяг будзе)*

---

**Г-віч**

# З жыцьця і працы Слуцкае гарбарнае арцелі „Адраджэньне“

Слуцкая гарбарная арцель „Адраджэньне“—адна з нямногіх саматужна-прамысловых арцеляй нашае акругі па характары свае працы і складу. На гісторыі яе арганізацыі і разьвіцьця трэба спыніцца больш падрабязна.

Арцель „Адраджэньне“ арганізавалася ў жніўні месяцы 1925 года у горадзе Слуцку, калі ён быў яшчэ акруговым. Асноваю арганізацыі было ядро беспрацоўных членаў саюзу і беднякоў-саматужнікаў-гарбароў у колькасьці 12 чалавек. У тыя гады яшчэ панавала „прывольная“ праца саматужнікаў-гарбароў.

Пай быў вызначаны ў 100 руб. і часткаю членаў быў унесены. Сяк-так сабралі каля 600 руб. уласных грошай.

Пры непасрэднай дапамозе мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый арцелі было пярэдана памяшканьне былога бровару, але памяшканьне было разбурана. Уласнымі сіламі членаў арцелі памяшканьне было адбудавана, і ўзяліся за работу. Сродкаў ня было, а якія і былі, то былі скарыстаны на інвэнтар.

Пасьля неабходныя сродкі мясцовымі крэдытнымі арганізацыямі былі даны і арцель пачала сваю працу. Сыравіну атрымоўвалі ад мясцовага спажывецкага т-ва, скурсындыкату і іншых арганізацый.

Кіраўніцтва арцельлю праводзілася членам партыі, гарбаром па спэцыяльнасьці. Усё было добра, але ненадоўга. Арцель зьяўлялася канкурэнтам усіх мясцовых і навакольных саматужнікаў-гарбароў, і за гэта ёй давялося пацярпець. Пасьля пяцімесячнае працы гарбарня была падпалена, а страты вызначаліся ў 5.000 руб. Трэба сказаць, што да гэтага часу ў арцелі ўжо налічвалася каля 20 членаў.

Пасьля пажару ў членаў арцелі пачаліся некаторыя хістаньні: рамантаваць гарбарню, ці не? Большасьць членаў арцелі была за тое, каб рамантаваць. Нудлівая частка адпала, а здаровая асталася. Пры дапамозе мясцовых арганізацый арцель, у колькасьці 12 чалавек, адбудавала гарбарню. Працавалі галадаючы, бо атрымоўвалі 5—10 руб. у месяц, але трымаліся. Зьвязвала шчырасьць і дысцыпліна, а таксама і ўстойлівасьць кіраўніка тав. Кутуна.

Сыравіна куплялася на прыватным рынку, нават за межамі Беларусі. Арцель не жадала рабіць пакупак на мясцовым рынку, каб не падрываць працы нарыхтоўчых арганізацый.

Ня гледзячы на тое, што сыравіна куплялася па рыначнай цане, усё-ж такі ўся прадукцыя амаль на 100 проц. прадавалася дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям па цьвёрдай цане. Гэтак прапрацавалі 1926-27 год. У канцы 1927 году арцель перажыла крызіс дзякуючы немагчымасьці купляць сыравіну на прыватным рынку. Пачалі дамагацца плянавага забесьпячэньня. Пасьля доўгіх і ўпартых дамаганьняў з боку арцелі, мясцовых арганізацый і саматужпрамсаюзу ў пачатку 1928 году арцель была ўключана Наркамгандлем у агульна-дзяржаўны плян забесьпячэньня.

Пераходзячы на дзяржаўнае плянавае забеспячэньне арцель прышла да вываду, што працаваць прымітыўна, саматужным спосабам, як гэта працавалі і раней, было немагчыма. Упарта ўзяліся за справу мэханізацыі.

Пасьля некалькіх месяцаў настойлівае працы арцель зноў адбудавала гарбарню. Устанавілі нафтавы рухавік у 12 конскіх сіл і 2 барабаны, таксама прыладзілі падачу вады машынным спосабам.

Да апошняга году арцель выраблялa ялавічныя і конскія скуры, аўчыны і дробную сыравіну на чырвоную дубку. Выраблялiся таксама і аўчыны, якія даваліся сялянамі навакольных вёсак, па ільготных цэнах. Былі спробы вырабу скур і на сырамяць.

З пераходам арцелі на плянавае забесьпячэньне і з правядзеньнем мэханізацыі арцель пашырыла свой склад за лік бядняцкага элемэнту саматужнікаў-гарбароў і пасадчыкаў да 22 чалавек. Заработная плата таксама павысілася да нармальных памераў. Становішча членаў арцелі палепшылася.

Цяпер запрошаны майстар, які працаваў раней на дзяржаўным заводзе, ён-жа залічаны ў члены арцелі.

Праца ў большасьці пераведзена на выраб хрому, шаўро і інш. Намечана да перапрацоўкі па вытворчай праграме арцелі на 1928-29 год да 55.000 дробнае сыравіны і да 6.000 штук буйнае сыравіны—ялавічыны і конскіх скур.

Прадукцыя, якая выпускаецца да апошняга часу, як хром і шаўро, па сваёй якасьці і цане ўступае якасьці і цане дзяржаўнага заводу. Гэта тлумачыцца наступнымі прычынамі.

Якасьць сыравіны, якая атрымоўваецца, ня зусім добрая, і, апрача таго, трэба ўлічыць арганізацыйны пэрыод пераходу арцелі на масавую вытворчасьць, а таксама і тое, што ўсе дубільныя і фарбавальныя матар'ялы купляліся на прыватным рынку (ад дзяржаўных арганізацый не маглі дамагчыся), што, бязумоўна, падаражыла сабекаштоўнасьць вырабу.

У апошні час зьвернута вялікая ўвага арцелі на якасьць хрому і шаўро, а таксама ўжыты настойлівыя меры, каб зьвязацца з дзяржаўнымі арганізацыямі для закупкі ўсіх неабходных матар'ялаў па цьвёрдых цэнах, што дасьць магчымасьць давесьці каштоўнасьць прадукцыі ніжэй трэстаўскіх цэн.

Трэба сказаць, што гарбарня прадстаўляе сабою вялікую камяніцу фабрычна-завадзкога тыпу і стаіць у добрым месцы, на ўскраіне гораду. Гарбарня ў апошні час стала ўласнасьцю арцелі —куплена ад гарсавету і складае сабою каштоўнасьць да 10.000 руб.

Фінансавы стан арцелі ня вельмі здавальняючы. Уласных сродкаў ўсяго каля 3.000 руб.—уложаны ў мертвае абсталяваньне, ня лічачы часткі пазычаных.

Фінансава арцель залежыць ад крэдытных арганізацый, але яна карыстаецца шырокім аўтарытэтам і давер'ем усіх арганізацый, што дае магчымасьць добра працаваць.

Арцель цесна зьвязана з мясцовымі партыйнымі, савецкімі і каапэрацыйнымі арганізацыямі і, бязумоўна, з сваім саюзам. З апошнім заключаны генэральны дагавор па збыту вырабаў на ўсе 100 проц.

Трэба сказаць, што арцель каапэрацыйна вытрыманая, і склад яе на ўсе 100 проц. здаровы.

Ёсьць два вучні, якія скончылі праграму навучаньня і пераведзены ў члены арцелі. У арцелі ёсьць тры партыйцы і адзін камсамолец.

На ўсе 100 проц. члены арцелі зьяўляюцца і членамі Асаавіяхіму, МОПР-у, ОЗЕТ і іншых грамадзкіх арганізацый.

Пры гарбарні ўвесь час працаваў палітгурток, які толькі часова спыніў сваю работу. Усе члены арцелі выпісваюць газэты: „Акцябр", „Кустарь и Артель", „Рабочий", „Правду", „Известия" і інш.

Стары кіраўнік арцелі і арганізатар тав. Кутун днямі адкліканы акругкомам партыі на кіраўнічую працу ў Бабруйскі скурсындыкат, на яго месца ўзяты новы член партыі, таксама працаўнік прамысловае сыстэмы.

У далейшым арцелі сур'ёзна трэба будзе ўзяцца за паляпшэньне якасьці свае прадукцыі, за рацыяналізацыю працы, аддаць максымум увагі капіталанамнажэньню ўласных сродкаў, сачыць за сваімі зваротамі, увязваючы іх з фінансавымі магчымасьцямі і захоўваючы крэдытную дысцыпліну. Трэба будзе наладзіць пажарную і агульную варту гарбарні, наладзіць каапэрацыйнае і палітычнае выхаваньне сваіх членаў.

Дзяржаўным і крэдытным арганізацыям трэба прыйсьці на дапамогу арцелі шляхам дачы доўгатэрміновае пазыкі, што арцелі вельмі патрэбна; мясцовым партыйным і савецкім арганізацыям неаслабна наглядаць за арцельлю, таксама даючы ёй усялякае садзейнічаньне.

Такімі агульнымі сіламі мы здолеем пабудаваць сапраўдную каапэрацыйную гаспадарку—залог будучага сацыялістычнага ядра прамысловасьці.

---

**Ф. Нагорны**

# Вынікі перападрыхтоўкі праўленцаў і прадаўцоў спажывецкіх т-ваў Гомрайсаюзу

Перападрыхтоўка праводзілася ў саюзе з 15 чэрвеня да 15 ліпеня. На курсы было выклікана 80 чалавек праўленцаў з разьлікам, што прыедуць каля 60 чалавек, але прыехала толькі 39. Прадаўцоў было выклікана 120 чал. з разьлікам, што прыедуць 60, а прыехала толькі 40.

Такі слабы прыезд тлумачыцца, галоўным чынам, нежаданьнем многіх праўленцаў адарвацца ад свае сялянскае гаспадаркі. Некаторыя дробныя спажывецкія т-вы не хацелі рабіць выдаткі на камандыроўку. Слабы прыезд тлумачыцца яшчэ і тым, што цяжка было ўладжваць пытаньне пра перадачу крамы.

З мэтаю стварыць на курсах больш-менш аднастайны склад на іх былі выкліканы толькі праўленцы невялікіх спажывецкіх т-ваў чыста вясковага тыпу. На курсы прадаўцоў былі выкліканы працаўнікі з лепшых загатоўчых пунктаў.

З курсантаў—32 чал. старшыні спажывецкіх т-ваў, 4 члены праўленьня і 2 жанчыны—кандыдаты праўленьня.

Паводле каапэрацыйнага стажу выгляд курсаў наступны: курсантаў-праўленцаў са стажам ад 1 да 3 год, 52 проц., і са стажам больш 3 год 21 проц. Прадаўцы паводле стажу падзяляюцца: ад 1 да 3 год, 90 проц. і са стажам больш 3 год—10 проц. Адсюль можна зрабіць вынік, што ў сельскай сетцы пачынае ўжо пакідацца кадр сталых працаўнікоў праўленьня, склад-жа прадаўцоў, як відаць, ня сталы.

Сярод прадаўцоў асноўная крыніца прыбытку: служба—85 проц. і сельская гаспадарка—15 проц.

Праграму Цэнтрасаюзу, надрукаваную ў № 31-32, давялося крыху зьмяніць. Для праўленцаў праграма была пабудавана ў наступным парадку: 1) былі ўведзены дапаўненьні па назапашаньні і збыце—25 навучальных гадзін; гэтыя заняткі адбываліся на сыравінных складах саюзу, дзяржмлыну і шчаціннае фабрыкі; 2) быў пашыраны курс па сартаваньні на 9 гадзін; 3) праведзены заняткі па кніжным гандлі—2 гадзіны; 4) праведзены заняткі па арытмэтыцы (вылічэньне процантаў і азнаямленьне з мэтрычнаю сытэмаю мер—4 гадзіны; 5) у вячэрнія гадзіны курсанты займаліся вывучэньнем беларускае мовы—24 гадзіны.

Для прадаўцоў праграма была пабудавана на 14 дзён (па 20 гадзін), якія разьмеркаваны паводле прадметаў: палітграмата—13 гадзін, культурна-масавая праца—6 гадзін, арганізацыйна-гаспадарчая праца—15 гадз., крамная справа—21 гадз. і нарыхтоўкі—25 гадзін, таваразнаўства—14 гадз., матэматыка—6 гадз. і беларуская мова—20 гадзін.

Такое пашырэньне праграмы на абодвух курсах выклікала надзвычайную нагрузку курсантаў. Заняткі адбываліся з 8 гадзін раніцы да 3 гадзін 20 хвілін дня (7 навучальных гадзін) і амаль штодня ўвечары па 2 гадзіны.

Увядзеньне заняткаў па арытмэтыцы тлумачыцца няведаньнем большасцю курсантаў тэхнікі вылічэньня процантаў і нават няведаньнем (некаторымі з іх) усіх 4 дзеяньняў арытмэтыкі. Бяз гэтых ведаў немагчыма было праводзіць заняткі па расцэнцы тавараў, па аналізе балянсу і інш. Нармальна на арытмэтыку трэба было-б даць ня менш 15 навучальных гадзін для кожных курсаў у паасобку.

Спачатку больш разьвітою часткаю курсантаў было выказана нездаваленьне курсамі—яны лічылі, што з палітычным пытаньнем і пытаньнем арганізацыі і практыкі каапэрацыі яны ўжо знаёмы, але гэты настрой пасьля зьнік.

Скардзіліся, што курсы занадта каротка-тэрміновыя, што іх трэба было-б працягнуць яшчэ на месяц, што такая нагрузка (9 гадзін) не давала мачымасьці прапрацоўваць у хаце кніжны матар'ял, які раіўся кіраўнікамі па тым ці іншым прадмеце. Асабліва курсанты-праўленцы зацікавіліся пытаньнем балянсу спажывецкага т-ва, а таксама пытаньнямі пляваньня, расцэнкі тавараў, заняткамі па арытмэтыцы і іншымі найбольш складанымі тэхнічнымі пытаньнямі і практычнымі заняткамі; вельмі ажыўлена адбываліся заняткі па палітычных прадметах, якія адбываліся мэтадам лябараторнае прапрацоўкі.

На курсах прадаўцоў больш усяго зацікавіліся пытаньнямі матэматыкі і палітзаняткамі, а таксама непасрэдна нарыхтоўчаю справаю.

Курс беларускае мовы на абодвух курсах, бязумоўна, сябе апраўдаў, наведваньне гэтага прадмету было на ўсе 100 проц. Паводле анкет, усе курсанты, бяз выключэньня, прызналі, што курсы пашырылі іх веды як у палітычных, так і каапэрацыйных пытаньнях.

Выдаткі на курсы былі разьмеркаваны так: райсаюз узяў на сябе выдаткі на аплату аўдыторыі, лектароў і падручнікаў. Апрача таго, саюз узяў на сябе выдаткі больш слабых спажывецкіх т-ваў, а таксама выдаткі на камандыраваньне жанчын. Спажывецкія т-вы ўзносілі ў саюз па 30 руб. З гэтых грошай выдавалася курсанту 3 руб. на дробныя выдаткі, а рэшта—выдаткаваліся на агульнае мяшканьне, на харчы, на экскурсіі, тэатр, кіно і г. д.

Трэба прызнаць, што асноўны недахоп курсаў—іх кароткатэрміновасьць. Курсы для праўленцаў і вясковых спажывецкіх т-ваў павінны быць разьлічаны на 4-6 тыдняў. Такі ж час і для прадаўцоў. У праграму абавязкова трэба ўвесьці заняткі па элемэнтарнай пісьменнасьці і асабліва па арытмэтыцы. Асабліва малое месца ў праграме займалі палітычныя пытаньні. Да ліку недахопаў у справе арганізацыі курсаў трэба дадаць і тое, што большасьць спажывецкіх т-ваў, выкліканых на курсы,—дробныя, ня маюць у сваім распараджэньні культфонду.

Таму-та трэба ў наступным годзе з адлічаных прыбыткаў у культфонд узяць ня менш 50 проц. у саюзны фонд, што дасьць магчымасьць выклікаць на курсы тых, каму больш усяго будзе патрэбна вучоба і падвышэньне кваліфікацыі.

---

К. Г.

# Бабруйская белашвейная арцель „Аб'яднаная работніца“

Да апошняга году праца па каапэраваньні жанчын па Бабруйскай акрузе адставала па многіх аб'ектыўных прычынах.

За апошні час аргаддзелам Бабруйскага Акрсампрамсаюзу на гэтае пытаньне была зьвернута максімальная ўвага, і ў гэтай галіне ў сучасны момант маюцца вялікія посьпехі. Арганізавана некалькі арцеляй выключна з жанчын: панчошна-трыкатажныя, белашвейныя і па выпрацоўцы саломкі для капялюшоў, а таксама праведзена праца па ўцягненьні жанчын-самотужніц у тыя арцелі, якія ўжо існуюць.

Арганізацыя адзначаных арцеляй адбывалася як у горадзе, так і па раёнах. На вельмі характэрнай па сваім складзе і па характары яе працы, на Бабруйскай белашвейнай арцелі „Аб'яднаная работніца“, лічу неабходным спыніцца больш падрабязна. Арганізавалася арцель у сьнежні месяцы 1927 г., і да дню арганізацыі яна налічвала 9 чалавек-белашвеек. Паявы ўзнос быў устаноўлены ў 50 руб., уступны ўзнос—1 руб. З вялікімі цяжкасьцямі сабрана было каля 150 руб.

Пры садзейнічаньні саюзу арцель прыступіла да працы. Спачатку з прычыны адсутнасьці добрага кіраўніка праца ішла няўдала.

Па-малу арцель пачала пашырацца і ўзмацняцца. Была зложана ўмова з мясцовым ЦРК на прадмет збыту вырабаў арцелі. Але праца кульгала.

У апошні час інструктарам майстэрні была запрошана напрактыкаваная работніца, член партыі, якая працавала раней на фабрыцы Бабршвею. Апошняя з асаблівай энэргіяй ўзялася за правільную пастаноўку працы, якая з тае пары пачала значна паляпшацца. Кваліфікацыя членаў значна павялічылася. Адначасова з гэтым паўстала пытаньне аб адкрыцьці коўдранага цэху пры арцелі. Пры дапамозе саюзу і гарадзкога камітэту ўзаемадапамогі было прыцягнена яшчэ 12 жанчын-саматужніц з беднаты, і ў сучасны момант арцель налічвае 30 чалавек выключна жанчын. У першы час цяжка было дагаварыцца з мясцовым ЦРК аб збыце коўдраў. Але пасьля доўгіх перамоўленьняў ўсё-ж удалося наладзіць і гэтую справу.

Акрамя таго, пры арцелі адкрыты прыём заказаў верхняга дамскага адзеньня, для чаго вылучаны самыя кваліфікаваныя работніцы.

Арцель забясьпечваецца матар'ялямі поўнасьцю Сампрамсаюзам. Уся прадукцыя перадаецца мясцоваму ЦРК паводле цьвердае ўмовы.

З пашырэньнем складу арцелі, памяшканьне стала цесным. Ёсьць пэрспэктывы на зьмену памяшканьня, пасьля чаго мяркуецца пашырыць склад арцелі да 40 чалавек за кошт бяднейшых саматужніц. Фінансавае становішча арцелі пакуль-што слабае. Паявога капіталу сабрана пакуль-што 300 руб. Ёсьць прыбытак за справаздачны пэрыод каля 200 руб. Арцель атрымала грашовую дапамогу ад саюзу з фонду каапэраваньня беднаты 450 р., ад Сельбанку доўгатэрміновую пазыку—300 руб. і ў апошні час ад Усекабанку—500 руб.

Усе асноўныя пытаньні, якія датычаць жыцьця і працы арцелі, вырашаюцца раней праўленьнем, пасьля чаго ставяцца на разгляд агульнага сходу.

Арцель знаходзіцца пад сталым наглядам саюзу.

Так крок за крокам, мы ідзем па шляху ўцягненьня жанчын у прамысловую каапэрацыю.

---

**А. Л.**

# Аб плянавай працы ў спажтаварыствах

У каапэрацыйнай працы, бязумоўна, неабходна плянавасьць. Але на справе мы маем зусім другое. Да гэтага часу плянавая праца, вывучэньне каапэрацыйнае гаспадаркі ў спажыўтаварыствах пастаўлена вельмі слаба. У сувязі з гэтым у цэлым шэрагу спажтаварыстваў пры наяўнасьці добрых грашовых і эканамічных магчымасьцяў праца вядзецца не здавальняюча. Спасылаючыся на матар'ялы мінулае працы, асноўнымі недахопамі па плянаваньні, паводле нашае думкі, зьяўляецца наступнае:

а) адсутнасьць штодзённага і цьвёрдага кіраўніцтва з боку спажыўсаюзаў;

б) праўленьні і тэхнічны апарат спажыўтаварыстваў да гэтага часу недастаткова ўясьнілі сабе ўсю важнасьць, мэты і задачы плянаваньня;

в) недаацэнка важнасьці і неабходнасьці складаньня плянаў не давала тых вынікаў, якія маглі атрымацца пры найбольш сур'ёзных адносінах да складаньня плянаў;

г) дэтальнай прапрацоўцы ні з боку праўленьня, ні з боку актыву пляны не належалі, а дзеля гэтага не маглі поўнасьцю адбіваць інтарэсаў і спажыўнасьці каапэраванага насельніцтва;

д) складаньне плянаў праводзілася вельмі позна, дзякуючы чаму яны ня мелі таго значэньня, якое павінна было быць;

е) у большасьці выпадкаў увязкі апэрацыйных плянаў з грашовымі вартасьцямі не ўтваралася;

ж) яшчэ горшая справа была адносна выкананьня іх; складзенымі плянамі, за малым выключэньнем, амаль ніхто не карыстаўся і за выконваньнем іх ніхто не сачыў.

Дзеля гэтага ад такое практыкі плянаваньня і гэтакіх адносін да плянавае працы, бязумоўна, здавальняючых вынікаў чакаць нельга.

У сучасны момант пры сьцісласьці крэдытаў, надта жорсткіх умовах па куплі цэлага шэрагу тавараў (тэкстыль, скуртавары), ухіляючыся ад грашовых цяжкасьцяй, справе плянаваньня неабходна ўдзяліць максымум увагі.

Павялічэньне аб'ему працы спажыўтаварыстваў і тыя патрабаваньні, якія ім надаюцца, прымушаюць у гэтай галіне дабіцца рашучае перамогі, паставіўшы плянава ўсю працу.

У мэтах наладжаньня плянавае працы ў спажыўтаварыствах неабходна правесьці шэраг наступных мерапрыемстваў:

а) адказнасьць за складаньне плянаў, за іх якасьць таксама, як і за правядзеньне працы па зьніжэньні цэн, па скарачэньні адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў ускласьці на праўленьне спажыўтаварыства;

б) праз інструктарскі склад спажыўсаюзаў у самы кароткі тэрмін неабходна вывучыць кіраўнікоў спажыўтаварыстваў, якія адсталі ў гэтай галіне, пляназаць працу. З гэтаю мэтаю на месцы павінны праводзіцца паказальныя работы па складаньні плянаў.

в) у часе кожнага інструктарскага прыезду ўдзяляць больш увагі праверцы выкананьня складзеных плянаў;

г) для таго, каб пляны больш поўна адбівалі інтарэсы і патрэбы каапэраванага насельніцтва, неабходна да абгаварэньня складзеных плянаў і ўрэшце іх выконваньня прыцягваць працаўнікоў прылаўку, каапэрацыйны актыў і ставіць на чарговых сходах пайшчыкаў;

д) у мэтах большае папулярызацыі плянавае працы і прыцягненьня да ўдзелу ў гэтай працы шырокіх мас асноўныя веды аб вызначаных плянах, а таксама і іх выкананьне вывешваць на відных мясцох у краме, канцэлярыі с. т., хаце-чытальні, сельсавеце і г. д.;

е) у складзеныя пляны неабходна своечасова ўносіць існуючыя папраўкі і дапаўненьні, якія выклікаюцца гандлёвай каньюнктурай і паказаньнямі пайшчыкаў;

ж) для таго, каб пляны былі багацьцём шырокіх мас і былі зразумелы радавому пайшчыку, неабходна формы самых плянаў максымальна спрасьціць;

з) і ўрэшце, каб мець сталы нагляд за плянаваю працаю спажыўтаварыстваў і своечасова выпраўляць недахопы, усе пляны, як правіла, спажыўтаварыствамі павінны акуратна дасылацца свайму саюзу.

Паглыбленьне плянавае працы ў спыжыўсаюзах зьяўляецца неадкладнай задачай. Гэтаму павінна быць удзелена асаблівая ўвага. У бліжэйшы час мы павінны дабіцца, каб наша каапэрацыйная гаспадарка зьнізу і даверху прадстаўляла стройную плянавую сыстэму.

**В—цкі**

# Адзін з каапэратываў, які працуе выключна на ўласныя сродкі

Такім каапэратывам зьяўляецца Анопаль-Крупецкае спажывецкае т-ва, Менскае акругі. Т-ва робіць усю сваю гандлёвую працу выключна на ўласныя сродкі, не выдаткуючы сродкаў на выдаткі па процантах за карыстаньне крэдыту. Пайшчыкі задаволены працаю свайго каапэратыву,—аб гэтым гавораць вынікі каапэраваньня. На 1-е кастрычніка 1927 г. было 978 пайшчыкаў пры наяўнасьці 843 абслугоўваемых сялянскіх гаспадарак, а на 1-е ліпеня ёсьць 1.002 пайшчыкі. Паявы капітал на 1 кастрычніка 1927 г. складаў суму ў 4.230 р. 34 к. ці ў сярэднім на аднаго пайшчыка 4 р. 33 к. На 1 ліпеня г. г. паявы капітал складае суму ў 6.705 р. 37 к., ці ў сярэднім на аднаго пайшчыка 6 р. 69 к. За лік вылучанага фонду прыбыткаў каапэравана 154 бядняцкія гаспадаркі, якім дана пазык на 819 р.

Квартальны зварот па продажы тавараў у сярэднім складае 27.000 р. Процант закупкі ад прыватных асоб зусім малы; за 3-ці квартал з агульнае сумы пакупкі тавараў—25.604 р.—у прыватніка куплена на 41 р. 21 к. Асноўным контрагэнтам па пакупцы тавараў зьяўляецца менскае аддзяленьне БКС. У сучасны момант раён дзейнасьці спажывецкага т-ва пашырыўся ў сувязі з правядзеньнем па акрузе ўзбуйненьня сеткі. З Анопаль-Крупецкім спажывецкім таварыствам зьлілося суседняе спажывецкае таварыства з 3-ма крамамі, і, такім чынам, таварыства цяпер будзе мець 8 крам.

Апрача таго, т-ва арандуе вадзяны млын, які абслугоўвае патрэбы каапэраванага і некаапэраванага сялянства свайго раёну.

Накладныя выдаткі складаюцца ў памеры 1,5 проц. да пакупное каштоўнасьці, а налажэньне на сабекаштоўнасьць—у памеры 11,4 проц. Гандлёвыя выдаткі да звароту тавараў у 3-м квартале выявіліся ў памеры 8,8 проц.

У бягучым паўгодзьдзі быў атрыманы прыбытак у суме 2.044 р. За ўвесь мінулы год прыбытак складаў суму ў 750 руб.

На 1 красавіка г. г. т-ва мела ўласных сродкаў на суму 17.814 р. з іх у звароце—12.900 р.

Увага працаўнікоў праўленьня зьвернута на далейшае паляпшэньне арганізацыйнае і гаспадарчае працы.

---

# НАШЫ ХІБЫ

Усёбачны

## Аб крыклівых дробязях у рабоце саматужна-прамысловай каапэрацыі

### I. Стан вучнёўства

Прыём вучняў робіцца большаю часткаю сямейным парадкам. Нібыта складзена камісія з прадстаўнікоў ячэйкі БЛКСМ, Бел. Сам. Прам. Саюзу, т-ва саматужнікаў і саматужпрамкрэдытаў. Такі парадак, зразумела, не вырашае пытаньня. Пры наяўнасьці да 10.000 каапэраваных саматужнікаў у арцелях пытаньне аб вучнёўстве павінна, бязумоўна, зацікавіць і ЦК камсамола і Наркампрацы і інш. органы. Пастановаю ЦВК і СНК ад 21/VI—27 г. часткова закранаецца прававу бок становішча аб вучнёўстве, а справы тэхнічнага яго правядзеньня гэтая пастанова не закранае, прадугледжваючы толькі, што яна павінна служыць прадметам адпаведных указаньняў і пастаноў нашых кіраўнічых арганізацый і, у першую чаргу, Бел. Сам. Прам. Саюзу. Апошні, на вялікі жаль, аб гэтым вельмі важным пытаньні нічога не сказаў.

На мясцох жа ў арцелях у гэтых адносінах самавольства. У адных арцелях („Чырвоны вытворца") швальныя вучні прымацованы да асобных груп, за лік якіх яны і ўтрымоўваюцца.

У выніку, калі тая ці іншая група ня мае поўнае нагрузкі і для сябе, яна стараецца пазбавіцца ад «лішняга роту», і тады гэтага вучня пачынаюць перакідаць з аднае групы ў другую. Ад такое перакідкі тав. Х. апынуўся на вуліцы.

### II. Наём рабочае сілы

Праведзенае ў апошні час аргаддзелам Бел. Сам. Прам. Саюзу абсьледваньне некаторых, нядаўна арганізаваных, арцеляй выявіла, што найманьне рахункаводаў, сартаўнікоў і прыбіральнікаў большаю часткаю робіцца бяз біржы працы. Работнікамі аказваюцца дзядзькі, цёткі, зяці старшыні ці яго намесьніка, а нават і другіх членаў праўленьня і арцеляў. У арцельніку—неадпаведнасьць фактычнаму становішчу запісаў у кнігах (арцель «Вызваленьне»). Запісы выдаткаў на набыцьцё сыравіны робяцца не па рахунках і росьпісках, а пад дыктоўку свайго швагруся, намесьніка старшыні («Чырвоны грабеншчык»), а ў арцелі «Зьвязда» за $2^1/_2$ гады яе існаваньня ня быў пастаўлены ўлік вытворчасьці, таксама па прычыне вядзеньня справаздачнасьці швагрусём старшыні, які не зацікаўлены ў добрай пастаноўцы гэтае справаздачнасьці.

Усе гэта разам ўзятае гаворыць пра неабходнасьць рэзкае зьмены курса ў адносінах да наймаў рабочае сілы ў арцелях, і асабліва цяпер, у сувязі з абвяшчэньнем рашучае барацьбы пратэкцыонізму.

Апрача ўсяга гэтага, ёсьць дэкрэт СНК БССР ад 12/XII—27 г. аб недапушчэньні сумесьніцтва працы радні, дзе адзін быў-бы, па рабоце, падпарадкаваны другому, і дэкрэт СНК СССР ад 4/III—28 г. аб абавязковым найме рабочае сілы, кім бы-та ні было, толькі праз біржу працы.

Таму-та вось дадзеныя па гэтых пытаньнях паказаньні Бел. Сам. Прам. Саюзу хоць і позна, але павіны стаць пачаткам увядзеньня вядомае сыстэмы ў парадках найма рабочае сілы.

### III. Пісулькі і іх вынікі

Калі камплектаваньне арцеляй у першы пэрыод арганізацыі іншы раз вымагала умяшаньне з боку аргаддзелаў сам. прам. саюзаў, дык цяпер, пры арганізацыйным іх узмацненьні, справа аргаддзелу рэгуляваць такім пагадкам, каб ня было абагачэньня, каб нормы атрыманьня сыравіны адпавядалі колькасьці работнікаў, і ў сувязі з гэтым, вядома, даваць наказаньні аб неадходнасьці колькаснага павялічэньня арцеляй. Але не справа аргаддзелу браць на сябе „негалосныя функцыі біржы працы“, бо ў апошні час аргаддзел Бел. Сам. Прам. Саюзу ў вядомыя гадзіны дня зьяўляецца ёю.

Здаволіць усіх гэтымі пісулькамі аргаддзел, рэч вядомая, ня можа. Тут-та і пачынаецца пасылка спадцішку. Арцелі нездаволены відавочным памяншэньнем іх правоў. Астатняя маса нездаволеных пісулькамі скардзіцца, і пачынаецца грызьня і непаразуменьні. У выніку гэтага наглядаецца адрыў ад працы, пляткарства і праяўленьне пратэкцыонізму.

Сыстэме пісулек павінен быць паложаны канец. Арцелям трэба даць поўную магчымасьць адказваць за склад сваіх членаў. Некалькі працаўнікоў аргаддзелу ня змогуць замяніць сабою праўленьня 150—200 арцеляй. Сам. Прам. Саюзам на мясцох трэба як мага хутчэй ліквідаваць «мясцовыя біржы працы».

---

**Ваўкавіцкі**

## Папаліся небаракі

За апошні час пры інструктарскіх рэвізіях часта прыходзіцца стыкацца з хітрымі камбінацыямі паасобных растратчыкаў. Калі раней растратчыкі рабілі растрату, так званым, грубым спосабам, дык цяпер яны для таго, каб захаваць свае растраты, карыстаюцца ўсялякімі „тонкасьцямі“, думаючы ўхіліцца гэтым ад рэўкамісіі і інструктарскага вока.

У Калодзіскім спажывецкім таварыстве, Менскае акругі, пры рэвізыі прышлося сустрэцца з такім фактам, калі старшыня праўленьня і рахункавод прысвойвалі каапэрацыйныя сродкі і хавалі гэта шляхам праводкі па два разы ўплаты па вэксалёх, адзін раз па квітанцыі аб уплаце па вэксалю і другі раз, на аснове самога вэксалю. Рэч вядомая, у такіх выпадках да паможныя кнігі заблытваюцца, а розьніцы, якія атрымоваюцца, кожны раз пераліcтоўваюцца і пераносяцца з аднаго рахунку на другі. Каапэратыў займаўся хлебапячэньнем. Выпечка хлеба была даручана жонцы рахункавода, і для таго, каб схаваць прыпёк, рахункавод ужываў мэтад ліставаньня стараючыся заблытаць рахунак. Пры рэвізіі ўсе гэтыя злоўжываньні былі выяўлены, і абое яны адданы суду з налажэньнем арышту на іх маёмасьць. Карыстаньне так-званым „вэксальным мэтадам“ пачало практыкавацца паасобнымі растратчыкамі. Аналёгічны выпадак з праводкаю вэксальных апэрацый быў выяўлены ў Заслаўскім спажывецкім т-ве і Лагойскім (са старым складам праўленьня). Прарабляюць яны гэта так: пераказваюць грошы тэлеграфам на ўплату па вэксалёх, сьпісваюць у выдатак на аснове квітанцыі аб прыёме грошай, пасьля забіраюць вэксаль і зноў сьпісваюць у выдатак на аснове самога вэксалю. Рэч вядомая, гэта робіцца са згодаю рахункавода.

Усе гэтыя камбінацыі былі выяўлены інструктарскімі рэвізіямі, і вінаватыя адданы пад суд.

Гэты мэтад незаконнае вэксельнае праводкі практыкуецца растратчыкамі таму, што ён ня так кідаецца ў вочы рэўкамісіі. Рэўкамісіі пры

рэвізіях звычайна правяраюць запісы галоўнае кнігі дакумэнтальнымі дадзенымі, не даючы ацэнкі іх па існасьці: раз прад'яўлена квітанцыя, значыць запіс зроблен правільна, таму да інструктарскае рэвізіі растраты застаюцца ня выяўленымі.

А вось другі выпадак, якім карыстаўся прадавец аднаго з каапэратываў Менскай акругі: для захаваньня сваее растраты пры рэвізіях, ведаючы суму растраты, ён пазычаў у сялян грошы і пакрываў растраты, а пасьля рэвізіі гэтыя-ж грошы браў назад. Калі сума растраты перавысіла 2.000 р., растратчык, ня маючы магчымасьці дастаць такую суму для пакрыцьця, быў выяўлены і аддазы пад суд.

Вось да якіх „тонкасьцяў" дадумваліся.

Менаддзяленьнем цяпер узяты курс на ўзмацненьне інструктарскіх рэвізій. За III квартал інстуктарскім апаратам зроблена каля 13 рэвізій.

З мэтамі сваечасовага выяўленьня растрат рэўкамісіям трэба пры рэвізіях праверацъ кожны дакумэнт ня толькі з пункту погляду адпаведнасьці яго запісам галоўнай кнігі, але глядзець, ці з'яўляецца правільным і сам дакумэнт. Рэвізіі крам павінна рабіцца раптоўна, не паведамляючы аб гэтым прадаўца і нават членаў праўленьня.

---

С. Ефінаў

# Трэба спыніць статыстычны патоп

Ужо шмат зроблена па скарачэньні і спрашчэньні справаздачнасьці, але яшчэ шмат трэба зрабіць.

Сёлета ў сыстэме сельска-гаспадарчых крэдытных каапэратываў, ня гледзячы на папярэджаньні ў пачатку году аб тым, што справаздачнасьць устаноўлена стандартная, пакврартальная і дасылаецца толькі свайму саюзу і сельска-гаспадарчаму банку, аднак быў вялікі статыстычны патоп. Справаздачнасьць рабілася пакврартальна, рабілася па шэрагу кампаній: „пяцёхднёўкі" па спагнаньні пратэрміновак, дзесяцёхднёўкі па назапашаньнях, дзесяцёхднёўкі пасеўкампаніі, па скарыстаньні крэдытаў, пяцёхднёўкі рэалізацыі пазыкі і г. д. Даваліся справаздачы і не па кампаніях—то пра сацыяльны склад заёмшчыкаў машыннага крэдыту, то пра колькасьць рэалізаваных машын і г. д.

Горш за ўсё—гэта тое, што гэтыя весткі патрабаваліся ў розных формах, у розныя тэрміны і ў розныя ўстановы (у Саюз, у Банк, у РВК, у Статбюро і інш.). Форма гэтая часта зьмянялася. Розных „днёвак" трэба было даваць так многа, што ў іх можна было лёгка і заблытацца.

У наступным 1928-29 г. гэтую неразьбярыху трэба зьнішчыць. Трэба загадзя ўстанавіць цьвёрдыя і сталыя формы справаздачнасьці па ўсіх відах і кампаніях, таксама як і сталыя тэрміны, ў якія павінны аддавацца гэтыя справаздачы. Трэба скараціць колькасьць форм справаздачнасьці, аб'яднаўшы некаторыя з іх, напрыклад, дзесяцёхднёўкі па паступленьні паявых узносаў, спэцыяльных пратэрміновак па спагнаньні, па паступленьні, па назапашаньнях і інш., у адну статыстычную картку.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ

**Белецкий К. А., Кривцов С. Е. Кульман З. Г., Потемкин М. П., Хибарин И. И., Яковлев А. А.—Наш союз Белоруссия.**

*Выданьне „Московский Рабочий“ Москва, 1928 г. Ст. 118. Тыраж 7000. Цана 60 кап.*

Кніжка зьяўляецца спробаю даць нарыс эканамічнага і культурнага становішча Беларусі ў яе сучасным і мінулым. Для дасягненьня свае мэты аўтары выкарыстоўваюць даныя геалёгічныя, а таксама—геаграфічны матар'ял, і робяць спробы ўлічэньня вытворчых сіл нашае рэспублікі, як чалавецкіх, гэтак і энэргэтычных. Агляд народнае гаспадаркі робіцца даволі падрабязны, пры чым улічваецца сувязь яе з прыроднымі ўмовамі, залежнасьць яе ад апошніх,—але, на жаль, не заўсёды зусім правільна.

На вялікі жаль, аўтары выяўляюць у некаторых выпадках няведаньне прадмета, аб якім пішуць. У гэтым сэнсе зьвяртаюць на сябе увагу разыходжаньні ў лічбах, якія характарызуюць хаця-ж-бы плошчу БССР (гл. ст. 5, 26, 30), або процант лясістасьці (ст. 36 і 68), або колькасьць рабочых, занятых у прамысловасьці (ст. 89 і 113).

Усе гэтыя лічбы перабльтаны, супярэчуць адна аднэй. Не адпавядаюць сапраўднасьці і лічбы насельніцтва БССР. Адкуль узяты ўсе гэтыя, часам памылковыя, часам супярэчлівыя лічбы, аўтары дыплёматычна не паказваюць.

Характэрна, што аўтары дагэтуль яшчэ моцна трымаюцца губэрнскага падзелу, які ў БССР ўжо 4 гады як скасаваны (ст. 73, 78, 79, 81, 85, 86, 92, 93). Калі аўтарам, магчыма, і вельмі выгадна карыстацца гэтым арывычным для эрэсэфэсэраўскіх працаўнікоў падзелам, беларускаму чытачу гэты мэтад акрамя блытаніны нічога даць ня можа. Акрамя таго, ясна, што новых лічбаў па няіснуючых у нас губэрнях аўтары атрымаць ніадкуль не маглі і, відаць, змушаны былі апэраваць з старымі данымі.

Аб тым жа сьведчаць архаічныя „версты“, якімі ўпэрта дагэтуль яшчэ мераюць аўтары нашы прасторы.

У адным месцы, аднак, аўтары прыпамінаюць і пра новы адміністрацыйны падзел Беларусі. І ўраз-жа ўпадаюць у памылку. Паводле іх зацьвярджэньня Беларусь дзеліцца на 5 (пяць!!) акруг.

Пагардаю, з моцным душком вялікадзяржаўнага шавінізму, аддае ад тых нешматлікіх радкоў кніжкі, у якіх аўтары пішуць пра беларускую культуру. Пра поўнае няведаньне імі, як сучаснага, гэтак і мінулага культурнага становішча Беларусі, нават і гаварыць няма чаго. Гэта мясьціна ў разгляданай кнізе надзвычайна падобна да славутых апавяданьняў аднага француза пра расейскія „разьвесістыя клюквы“.

Шкада, што „Московский Рабочий“ выдрукаваў гэтую кніжку. Яшчэ больш шкада, што выдана яна вялікім тыражом. Чытач, незнаёмы з Беларусьсю, можа атрымаць з гэтае кніжкі зусім няправільнае ўяўленьне аб нашай краіне. Рабочым і сялянам Савецкага Саюзу чытаць яе мы ня раім. А аўтарам мы можам даць толькі адну раду: больш старанна вывучаць тыя пытаньні, пра якія яны зьбіраюцца пісаць

**А. Падбярэскі.**

---

**Кооперативне будівництво,**

*двухтыднёвая часопісь Украінскае спажывецкае каапэрацыі, выдае „Вукапсаюз“*

*Верасень № 17-18, цана 50 кап.*

Шырока разгорнутая каапэрацыйная работа патрабуе асьвятленьня яе практыкі, абмену думкамі аб працы паміж асобнымі відамі каапэрацыі і г. д. Адным з найлепшых мэтадаў абмену практыкаю і кіраўніцтва нізавою каапэрацыйнаю сеткаю зьяўляецца часопісь, якая можа ахапіць усе пытаньні жыцьця і працы каапэрацыі.

Трэба сказаць, што часопісь Кооперативне Будівництво бязумоўна адбівае ўсе пытаньні, якія хваляюць нашу каапэрацыйную грамадзкасьць.

У зьмесьце часопісі 11 асноўных аддзелаў, якія зьмяшчаюць ад 2—3 артыкулаў ці допісаў. Гэта такія аддзелы: 1) Эканоміка і гандаль, 2) Арганізацыйныя пытаньні. 3) Праца спажывецкага таварыства, 4) Рацыоналізацыя працы, 5) Грошы і крэдыт, 6) Вынікі і пэрспэктывы, 7) За кардонам, 8) Эканамічнае жыцьцё, 9) у у Вукапсаюзе. 10) Каапэрацыйная Украіна, 11) Юрыдычна-даведачны аддзел.

Апрача гэтых аддзелаў, зьмяшчаюцца яшчэ агульныя кіруючыя артыкулы, якія тычацца пытаньняў каапэрацыйнае працы, напрыклад: прамова т. Рыкава на 41 сходзе ўпаўнаважаных Цэнтрасаюзу, артыкул т. Цэларыуса „На парозе новага гаспадарчага году“ і інш.

Падбор матар'ялу досыць добры, але бяда ў тым, што ён выкарыстоўваецца ня зусім так, як трэба. Нават матар'ял з месц падаецца ў такім сухім выглядзе ня кажучы ўжо аб ілюстрацыях, што прывабіць увагу чытача, ён бязумоўна, ня можа, і часопісьсю карыстаюцца напэўна як бюл тэнем для атрыманьня розных даведак з юрыдычнага аддзелу, а асноўная ўся сетка каапэрацыйных аб'яднаньняў і тым больш пайшчыкаў напэўна поўнасьцю часопісь ня выпісвае.

Цана часопісу ў 55 кап. не дарагая, але тэхнічную якасьць яе ўзняць трэба.

**Сым. Ракіта.**

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

Карль Бітэль

## Аўстрыя

Новая Аўстрыя, з яе сталіцаю *Венаю*, стала невялічкаю дзяржаваю, усяго толькі 5-6 міл. насельніцтва, з якіх 1,8 міл. жывуць у Вене. Бяз крыніц сыравіны, бяз рынкаў збыту, нават без дастатковых прадуктаў харчаваньня ідзе Аўстрыя ад аднаго крызысу да другога. Хранічнае беспрацоўе дасягнула лічбы 280.000 чалавек. Жыцьцёвыя ўмовы мас надзвычайна цяжкія. Натуральна, што каапэрацыя тут слабая і таксама ўвесь час ня выходзіць з крызысаў.

Да Нямецка-аўстрыйскага спажывецкага саюзу „Вена“ прымыкаюць 120 спажывецкіх т-ваў, 43 работніцкіх і вытворных т-вы. Яны маюць 257.000 членаў, 890 разьмяркоўчых пунктаў і 2.500 служачых. Зварот за 1927 г. дасягнуў 138.000.000 шылінгаў (100 шыл.—59 нямецкіх марак). Дзякуючы рэакцыйнаму закону, спажывецкія т-вы павінны прадаваць тавары толькі сваім членам. У параўнаньні з мінулымі гадамі аўстрыякі лічаць гэтыя вынікі буйным посьпехам. У крытычны 1926 г. звароты ўпалі да 120.000.000 шылінгаў, што трэба прыпісаць беспрацоўю, якое тады існавала. Лік членаў, аднак, увесь час падае. К канцу 1926 г. налічвалася ўсяго 318.000 членаў.

Уласныя капіталы надзвычайна малыя і складалі ў 1926 г. 1.780.000 шылінгаў. За апошні год вестак няма. Вышэй была сума ўкладаў, якая складала ў 1926 г. 13.500.000 шылінгаў.

Зразумела, што саюз ужывае ўсе захады да таго, каб палепшыць становішча, асабліва шляхам прапаганды і выхаваньня. Часопіс „Вольны Каапэратар“ выходзіць кожныя два тыдні то ў форме спэцыяльнае газэты, з тыражом у 5.000 экз., то ў форме народнае газэты з тыражом у 60.000 экз. Апрача таго выдаецца спэцыяльны „Рэфэрэнтэн-Корэсподэнц“ (200 экз.).

Аўстрыйскае таварыства гуртавых закупак—„ГОГ“ таксама знаходзіцца ў Вене. Яго зварот за 1927 г. 76.000.000 шылінгаў. За 1926 год ён быў ніжэй і складаў 70.000.000 шылінгаў. Капітал т-ва нязначны—усяго 524.000 шыл. Разам з другімі фірмамі „ГОГ“ мае некалькі ўласных фабрык. Сумесна з работніцкім банкам т-ва мае тэкстыльную фабрыку, абутковую фабрыку ($^1/_3$ дзярж. удзелу), якая выпускае 100.000 пар абутку, цукерную фабрыку (сумесна з венскім спажыв. т-вам) з прадукцыяй у 288 кгр. цукерных тавараў. Самастойна „ГОГ“ мае швальную фабрыку. Характэрна, што ў Аўстрыі і Чэха-Славаччыне мясцовыя спажывецкія т-вы ў буйных гарадох ня маюць сваіх тэкстыльных крам. Гэта галіна работы занята т-вам гуртавых закупак, якое мае для гэтае мэты 17 крам. Сумесна з Работніцкім банкам т-ва мае ў Вене буйную краму „Стафа“, якая даўней належала саюзу ўрадоўцаў. Сумесна з венскім самакіраўніцтвам „ГОГ“ мае дрывяны і вугальны склад і забясьпечвае шырокія масы мясам.

Трэба адзначыць таксама работу каапэрацыйнага і работніцкага банку „Работніцкі Банк“—у Вене. У 1926 г. ён меў 25.000.000 бяг. рахункаў і 1,7 укладаў. Асаблівую заслугаю Банка зьяўляецца яго фінансаваньне гандлю з Расіяй, для чаго было арганізавана спэцыяльнае т-ва „Ратао“. Вядома, што расійскі рынак для Аўстрыі зьяўляецца жыцьцёваю

патрэбнасьцю. Заслугоўвае асаблівае ўвагі тое месца гадавое справаздачы работніцкага банку, дзе гаворыцца, што СССР цалкам і добрасумленна выконвае свае плацежныя абавязальніцтвы.

У Вене ёсьць шмат спажывецкіх т-ваў. Чатыры з іх у 1920 годзе аб'ядналіся пад назваю „Венск я Каапэрацыя". Атрымаўшы 167.000 членаў, яны пачалі зваць сябе „найбуйнейшым спажывецкім таварыствам у сьвеце". Ясна, што гэта толькі пустая рэкляма, бо ў СССР, Англіі і Нямеччыне ёсьць шмат большыя спажывецкія таварыствы, як ў Вене. Апошняя гадавая справаздача за 63 апэр. год (1927 г.) як раз адзначае вялікае памяншэньне ліку членаў за апошнія гады. У 1926 г. было 118.000 членаў, у 1927 г. усяго толькі 59.249; 60.000 членаў выключаны як „не пакупцы" і толькі 2.500 нанава ўступілі ў лік членаў. Гадавы зварот—30.000.000 шылінгаў, а наборныя рахункі—270.000 шылінгаў. Усё гэта гаворыць за вялікае аб'яднаньне работнікаў членаў каапэратыву ў Вене. Уклады складаюць 5,3 міл, шыл.

Трэба мець на ўвазе, што аўстрыйскі каапэрацыйны рух у поўным кантакце з работніцкім рухам. Абодва гэтыя рухі знаходзяцца пад кіраўніцтвам с.-д. партыі. Ня гледзячы на гэта, вынікі вельмі слабыя. Сацыялдэмакратыя налічвае ў аднэй Вене 400.000 членаў. Мясцовае кіраўніцтва ў яе руках, і ня гледзячы на ўсё гэта—тут больш як слабы каапэрацыйны рух, аб магутнасьці якога на ўсім сьвеце існуе такое памылковае ўяўленьне, дзякуючы многалікім выступленьням лідэраў аўстрыйскага каапэрацыйнага руху ў міжнародным каапэрацыйным руху.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Рэзалюцыя

### III сэсіі савету Белсампрамсаюзу па дакладзе аб касах узаемадапамогі прамысловае каапэрацыі

1. Практыка пабудовы кас узаемадапамогі прамысловае каапэрацыі (страхавых) па сыстэме даказала іх жыцьцёвасьць пры ўмовах правільнае пабудовы і ўвязкі працы кас з разьвіцьцём сеткі прамысловых каапэратываў.

2. Пастанова СНК СССР ад 21-га траўня г.г. высоўвае перад касамі задачы ўзаемнага страхаваньня саматужнікаў і прыдае вялікую ўвагу працы кас, што патрабуе ўстанаўленьня штодзённага арганізацыйнага кіраўніцтва касамі і ўвядзеньня новых відаў страхаваньня (пэнсія па інваліднасьці, па беспрацоўі, лепшая пастаноўка мэддапамогі і інш.).

3. Сэсія канстатуе шэраг дасягненьняў у галіне ахопу членаў арцеляй касамі, арганізацыі дамоў адпачынку, выплаты дапамогі па часовай страце працаздольнасьці, аказаньня мэдычнае дапамогі, выдачы бяспроцантных пазык і пачатку абслугоўваньня касамі саматужнікаў мястэчак, каапэраваных у крэдытна-прамысловыя т-вы.

4. Сэсія адзначае невыкананьне некаторымі акраддзеламі аховы здароўя на мясцох абежніка Наркамздароўя ад 17 кастрычніка 1927 г., што тармозіць аказаньне мэддапамогі каапэраваным саматужнікам, падрывае аўтарытэт касы і зьяўляецца тормазам на шляху іх разьвіцьця.

5. Выходзячы з вышэйсказанага, сэсия савету прапануе праўленьню БКПС

а) прыступіць да арганізацыі Беларускае касы ўзаемнага страхаваньня і ўстанавіць адзіную форму і віды дапамогі ва ўсёй сыстэме прамысловае каапэрацыі БССР;

б) на бліжэйшы пэрыод лічыць неабходным устанавіць наступныя віды страхаваньня: 1) па часовай страце працаздольнасьці, 2) аказаньне мэддапамогі; 3) спэцлячэньне (дамы адпачынку, курорты, санаторыі, пратэзы і інш.); 4) бяспроцантныя пазыкі пры няшчасных выпадк₁х і 5) у залежнасьці ад узмацненьня фондаў утварэньне фондаў па беспрацоўі і цэнтральнага запаснога фонду па ўсёй сыстэме БССР.

6. Сэсія даручае праўленьню Белсампрамсаюзу хадайнічаць перад адпаведнымі органамі аб устанаўленьні ільготных умоў аплаты мэддапамогі ў гарадох і ўрэгуляваньні справы мэддапамогі каапэраваным саматужнікам мястэчак.

7. Сэсія даручае праўленьню Белсампрамсаюзу не пазьней 1 кастрычніка г.г. закончыць арганізацыю Беларускае касы ўзаемнага страхаваньня і ўжыць заходы да ўвязкі свае працы з цэнтральнаю касаю пры Усесаюзнай касе.

8. Пляны культурна-асьветнае працы, якія распрацоўваюцца па сыстэме, павінны абхапіць санітарна-асьветную працу шляхам распаўсюджваньня адпаведнае літаратуры па прафілактычных мерапрыемствах і шляхам вывучэньня гігіены працы ў арцелях стасункова да мясцовых моваў.

---

## Тэзісы

### па дакладзе „Спэцыялізацыя сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі і арганізацыйнае яе структуры“

1. Натуральныя ўмовы сельскае гаспадаркі Беларусі наперад вызначаюць агульны напрамак яе разьвіцьця ў бок жывёлагадоўчага ўхілу. Гэты рост і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі павінен будзе ісьці шляхам яе калектывізацыі, каапэраваньня шырокіх пластоў насельніцтва, на падставе машынізацыі сельскае гаспадаркі і арганізацыі тэхнічных прадпрыемстваў па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчага сырцу.

2. Выходзячы з гэтых пэрспэктыў, практычная задача сельгаскаапэрацыі павінна выходзіць да наступнага:

а) арганізацыя калектыўных форм гаспадаркі;

б) папаўненьне асноўных капіталаў сельскае гаспадаркі і разьвіцьцё сыстэмы крэдытаваньня;

в) забесьпячэньне насельніцтва сродкамі вытворчасьці;

г) арганізацыя загатоўкі і збыту прадуктаў сельскае гаспадаркі;

д) арганізацыя тэхнічных прадпрыемстваў і

е) арганізацыя вытворчых працэсаў па розных галінах і культурах сельскае гаспадаркі—насеннаводная справа, асушка балот, жывёлагадоўля і г. д.

3. Для выкананьня і ажыцьцяўленьня гэтых задач на мясцох на бліжэйшы час павінна быць зьвернута галоўная ўвага на арганізацыю і абслугоўваньне наступных відаў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў: калгасы, сельгаскрэдытныя т-вы, малочна-жывёлагадоўчыя, машынныя, мэліорацыйныя, садова-гародныя, птушкаводныя і пчалярныя т-вы.

4. Арганізацыя калгасаў у далейшы час павінна ісьці галоўным чынам за лік сялянскіх гаспадарак на надзельнай зямлі і фондаў праз асушку няўдобных зямель. Працу па калгасах трэба весьці ў такім напрамку, каб арганізаваць буйны тып гаспадаркі праз уцягненьне ў калгасы навакольнага насельніцтва.

5. Забесьпячэньне машынамі і прыладамі павінна ісьці двума шляхамі: дробным с.-г. інвэнтаром насельніцтва павінна забясьпечвацца праз с.-г. крэдытныя т-вы а карыстаньне буйнымі машынамі і прыладамі належыць весьці праз машынныя т-вы. Гэты від аб'яднаньняў павінен быць адным з асноўных і адным з галоўных і простых да пераходу сялянскіх гаспадарак да калектыўных форм гаспадаркі.

Пры арганізацыі працы мэліорацыйных т-ваў стварыць спрыяючыя ўмовы для пераходу іх да калектыўных форм гаспадарнічаньня.

6. Віды с.-г. аб'яднаньняў, якія ўжо існуюць у галіне жывёлагадоўлі і малочнае гаспадаркі павінны быць аб'яднаны ў адным відзе—малочна-жывёлагадоўчым каапэратыве. Гэты від павінен абхапіць наступную працу: збор і перааапрацоўку малака, забесьпячэньне насельніцтва канцэнтраванымі кармамі, племянною жывёлаю, якою карыстаюцца арганізацыі злучпунктаў, загатоўку быдла і мяса, загатоўку скур-сыравіны, шчаціны, воласу, пушніны; у тым выпадку, калі па суседзтву няма птушкаводных т-ваў, дык малочна-жывёлагадоўчыя т-вы павінны займацца і загатоўкай яек і птушкі.

Малочна-жывёлагадоўчыя т-вы павінны весьці таксама і кантрольную працу, запрашаючы кожнае т-ва паасобку ці групы т-ваў, даючы для гэтае працы кантроль асыстэнтаў.

Рэарганізацыя малочных і малочна-жывёлагадоўчых т-ваў, якія існуюць, павінна праводзіцца паступова. Малочныя заводы, якія маюцца пры сельгаскрэдытных т-вах, павінны быць ад іх адлучаны з арганізацыяй вакол іх малочна-жывёлагадоўчага т-ва, альбо завод павінен быць перададзены бліжэйшаму малочна-жывёлагадоўчаму т-ву. Тып аб'яднаньня павінен быць буйным.

Калгасы ў галіне малочнае справы павінны зьявіцца арганізуючымі цэнтрамі і павінны ўваходзіць у члены малочна-жывёлагадоўчых т-ваў, пры чым калгасам у справах таварystваў павінен быць забясьпечаны палітычны і гаспадарчы ўплыў. Пабудову масла-сырзаводаў малочна-жывёлагадоўчых т-ваў неабходна прыстасаваць да тэрыторыі калгасаў.

7. Сельска-гаспадарчыя крэдытныя т-вы галоўнаю сваёй мэтаю павінны ставіць мабілізацыю праз сыстэму укладаў, сялянскіх сродкаў, крэдытаваньне сельскае гаспадаркі, забесьпячэньне насельніцтва сродкамі вытворчасьці і збыту іх прадукцыі. Гэты масавы від аб'яднаньняў павінен узмацняць крэдытаваньні і забесьпячэньне сродкамі вытворчасьці ўсіх відаў вытворчых аб'яднаньняў свайго раёну дзейнасьці. Загатоўкі прадуктаў спэцыяльных галін гаспадаркі і культур у далейшым павінны пераходзіць ад крэдытных т-ваў да адпаведных відаў спэцыяльнае сеткі. Выходзячы з практыкі працы, лік аб'яднаньняў гэтага віду ўстанавіць з разьлікам ў сярэднім 2.000 гаспадарак на адно таварыства.

8. Садова-гародныя т-вы. Асноўнаю іх працаю павінна зьявіцца загатоўка і збыт прадуктаў садоўнітва і гародніцтва, тэхнічная перааапрацоўка пладоў праз сеткі плодасушылак, плодагародных заводаў, арганізацыя пладавых выхавальнікаў і забеспячэньне насельніцтва пасадачным матар'ялам. Побач з таварыствамі павінны быць арганізаваны садова-гародныя арцелі для сумеснае працы па скарыстаньні і пашырэньні садовае і гароднае плошчы. Калгасы і арцелі збыт свае прадукцыі ажыцьцяўляюць праз садова-гародныя т-вы. Таварыствы павінны быць арганізаваны з такім разьлікам, каб было забясьпечана поўнае абслугоўваньне праўленьнем сваіх пайшчыкаў і каб можна было рэнтабэльна арганізаваць працу. Арганізацыю арэндных садова-гародных т-ваў не дапушчаць, аб'яднаньне весьці галоўным чынам, грунтуючыся на сялянскіх садох, садох калгасаў з падсобнаю арэндаю садоў дзяржаўнае маёмасьці.

9. Птушкаводныя т-вы павінны весьці наступныя апэрацыі: забесьпячэньне насельніцтва племянною птушкаю і яйкамі, арганізацыю птушкаводных рассаднікаў, загатоўку і адкорм птушкі і загатоўку яек, разьвядзеньне кролікаў. Рост і пашырэньне гэтага віду аб'яднаньняў будзе ў значнай частцы залежаць ад магчымасьці набыцьця племяннное птушкі і завозу інкубатараў. Спэцыяльных яечных арцеляй арганізоўваць ня трэба бо збор яек могуць на сябе ўзяць, акрамя птушкаводных т-ваў, таксама і малочна-жывёлагадоўчыя.

10. Тарпяныя т-вы павінны быць выключаны і перададзены саматужна-прамысловай каапэрацыі, бо іх дзейнасьць адпавядае напрамку працы апошняе сыстэмы.

Унівэрсальная структура саюзных аб'яднаньняў, якая існуе, патрабуе свае спэцыялізацыі. Гэта выклікаецца наступнымі патрабаваньнямі:

а) рознароднасьць вытворчых інтарэсаў і патрабаваньняў розных груп каапэраванага насельніцтва, якая выходзіць у першую чаргу з рознабаковасьці сельскае гаспадаркі пайшчыкаў;

б) цяжкасьць аб'яднаньня ў аднэй арганізацыі арганізацыйнае, гаспадарчае грашовае працы розных галін гаспадаркі;

в) рост таварнасьці і спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі.

Спэцыялізацыя павінна ісьці шляхам адлучэньня ад унівэрсальных саюзаў, якія існуюць, спэцыяльных відаў аб'яднаньняў і іх працы ў спэцыяльныя самастойныя саюзы.

11. Тэрмін вылучэньня спэцыяльных саюзаў павінен вызначацца па наяўнасьці наступных адзнак:

а) наяўнасьць натуральных умоў, якія спрыяюць разьвіцьцю адпаведнае галіны сельскае гаспадаркі і, разам з тым, адпаведнага віду аб'яднаньня;

б) спэцыялізацыя і таварнасьць паасобных галін гаспадаркі ў пэўным раёне;

в) імкненьне сялянства, якое вызначылася да каапэраваньня тых ці іншых галін гаспадаркі і

г) увесь дасягнуты абхоп гаспадарчае працы ўсіх аб'яднаньняў дадзенага віду.

12. Выходзячы з гэтых абставін, у бліжэйшы час на Беларусі павінны быць арганізаваны наступныя спэцыяльныя каапэрацыйныя саюзы: саюзы калгасаў - акруговы і цэнтральны. У іх павінны ўваходзіць калгасы, машынныя і мэліорацыйныя т-вы і тыя пасялковыя т-вы, якія займаюцца вытворчаю арганізацыйнаю працаю. Сыстэма пабудовы павінна быць трохзьвенная: нізоўка, акруговы саюз і цэнтральны саюз. Саюзы павінны быць толькі арганізацыйнымі цэнтрамі. Гаспадарчае абслугоўваньне нізоўкі павінна ўтварацца праз сельгаскрэдытныя т-вы, для чаго сетка павінна быць пайшчыкам у крэдытным т-ве. У свой саюз сетка павінна ўносіць толькі ўступны ўзнос і штогодныя спэцыяльныя ўзносы. Забесьпячэньне калгасаў, машынных і мэліорацыйных т-ваў павінна грунтавацца на дагаворах паміж саюзамі калгасаў і адпаведнымі спэцыяльнымі саюзамі. У сувязі з уключэньнем мэліорацыйных т-ваў у сыстэму сельгаскаапэрацыі лічыць неабходным перадачу саюз м калгасаў адпаведных працаўнікоў па культур-тэхніцы, з перадачаю на гэтую справу асыгнаваньняў па дзяржбюджэту і крэдытаў. Даручыць праўленьню Белсельсаюзу ўзьняць і вырашыць гэтае пытаньне ў адпаведных органах.

13. Малочна-жывёлагадоўчыя саюзы. Пабудаваць іх трэба па трохступянёвай сыстэме. Саюзы павінны быць як арганізацыйнымі, так і гаспадарчымі арганізацыямі. Гаспадарчая іх праца павінна ахапіць усе віды прадуктаў па жывёлагадоўлі: малако і малочныя прадукты, мяса жывое быдла, скурсыравіну, шчаціну і інш. Перадачу прадуктаў жывёлагадоўлі ад унівэрсальных саюзаў малочна-жывёлагадоўчым утвараць паступова, па меры ўцягваньня ў гэтую справу малочна-жывёлагадоўчых т-ваў. Забесьпячэньне нізоўкі кармамі, жывёлаю і малочным інвэнтаром павінна ўтварацца малочна-жывёлагадоўчымі саюзамі, а забесьпячэньне крэдытам на буйнае абсталяваньне—акрсельбанкамі ці крэдытсаюзамі. Забясьпячэньне-ж нізоўкі сродкамі вытворчасьці агульнага парадку, а таксама дробным крэдытам павінна праводзіцца праз сельгаскрэдытныя т-вы у якіх малочна-жывёлагадоўчыя т-вы павінны быць пайшчыкамі.

14. Садова-гародныя саюзы. Улічваючы, з аднаго боку, што саюзам даводзецца мець справу з прадуктамі, якія хутка псуюцца, з вывазам прадуктаў за межы Беларусі, з устанаўленьнем стандарту тары і прадукцыі і цэначнаю наяўнасьцю дадзенае прадукцыі, з недахопам адпаведных кваліфікаваных спэцыялістых па гэтай галіне, а з другога боку, тое, што яны будуць мець спр ву з вялікай тэрыторыяй Беларусі і, галоўным чынам, з загатоўчымі апэрацыямі і буйнымі садова-гароднымі т-вамі,—прызнаць мэтазгодным садова-гародны саюз пабудаваць па двухступянёвай сыстэме—нізоўка і цэнтральны саюз з сеткаю сваіх кантор у некаторых таварных па фруктах акругах. У саюз павінны ўваходзіць садова-гародныя і пчалярскія т-вы. Таварыствы павінны быць пайшчыкамі с.-г крэдытных т-ваў і праз іх атрымліваць дробны крэдыт і сродкі вытворчасьці агульнага парадку.

15. Пасьля вылучэньня з унівэрсальных саюзаў, лічачыся з існаваньнем гомельскага садова-гароднага саюзу, прымусіць, яго, саюзы калгасаў, малочна-жывёлагадоўчыя і садова-гародныя існуючыя саюзы рэарганізаваць у забесьпячальна-крэдытныя саюзы ў акругах і арганізаваць забесьпячальны цэнтр у Менску. Галоўнаю гаспадарчаю працаю гэтых саюзаў павінны зьявіцца крэдытныя апэрацыі, забесьпячэньне насельніцтва сродкамі вытворчасьці—насеньне, угнаеньне, машыны, прылады, і загатоўка прадуктаў паляводзтва і шэрагу другарадна сыравіны, як рызьзё, косьці, лекавыя травы, грыбы і інш.

16. Насеннаводныя, ільнаводчыя, рыбалоўныя і млынарныя таварыствы павінны застацца ў сыстэме сельгаскаапэрацыі і ўваходзіць пайшчыкамі ў акрсельсаюзы.

17. Для аб'яднаньня ўсяе працы сыстэмы сельгаскаапэрацыі і кіраўніцтва сыстэмаю пасьля вылучэньня спэцыяльных саюзаў арганізаваць саюз саюзаў сельска гаспадарчае каапэрацыі. Да арганізацыі яго функцыі саюзу саюзаў павінен узяць Белсельсаюз.

Спэцыялізацыю ўсяе існуючае сыстэмы сельгаскаапэрацыі і перабудову яе арганізацыйнае структуры вясьці з такім разьлікам, каб уся гэтая справа была скончана да 1 кастрычніка 1929 году.

18. У частцы ўвязкі працы сельгаскаапэрацыі з саўгасамі даручыць праўленьню Белсельсаюзу гэта пытаньне распрацаваць і вырашыць яго ў адпаведных арганізацыях.

# Рэзалюцыя

## аб парадку спагнаньня паю і ўступнае платы па сыстэме с.-г. каапэрацыі

1. *Уступная плата* па ўсіх відах с.-г. аб'яднаньняў пры ўступленьні ў каапэратыў пайшчыка спаганяецца з двара.

*Паявы ўзнос:* па малочных таварыствах—ад каровы, па колькасьці, якія маюцца ў т-ве, па пчалярскіх - ад вульля, машынных т-вах—ад гэктара ўдобнае плошчы зямлі, якая ўваходзіць у т-вы пайшчыкаў, мэліорацыйных—ад гэктару плошчы, на якой мэліорацыя ўтвараецца; па астатніх відах—ад пайшчыка.

2. Пры ўваходзе калгасаў і спэцыяльных відаў пайшчыкамі ў сельгаскрэдытныя т-вы ці інш. віды аб'яднаньняў яны ўносяць уступную плату і пай, як юрыдычныя асобы. Памер гэтых узносаў устанаўляецца агульным сходам каапэратыву, куды гэтыя аб'яднаньні ўваходзяць пайшчыкамі.

Даручыць праўленьню Белсельсаюзу выпрацаваць арыентыровачныя памеры гэтых узносаў.

3. Пры ўступленьні сельгасаб'яднаньняў у саюзы яны павінны ўносіць у апошнія ўступную плату і пай у памеры 25 проц. уступнае платы і паявых узносаў, якія фактычна сабраны ад сваіх пайшчыкаў, як фізычных, так і юрыдычных асоб.

4. Акрсельсаюзы ўносяць цэнтральным саюзам уступную плату і пай у памеры 25 проц. з паёў, якія фактычна імі сабраны і з уступнае платы.

5. Пры ўнясеньні паявых узносаў і ўступнае платы ва ўсе зьвеньні сыстэмы трэба рабіць растэрміноўку ўзносаў на тэрміны і сумы, якія адпавядаюць дадзенай растэрміноўцы і суме для беднаты.

6. Разьлікі за паі і ўступную плату паміж зьвеньнямі сыстэмы павінны рабіцца паквартальна: нізоўка ў інш. віды первічнае сеткі—кожнага 1 чысла кварталу; нізоўка ў саюз—15 чысла першага месяца надышоўшага новага кварталу; саюзы—цэнтральным саюзам,--25 чысла першага месяца надышоўшага новага кварталу.

7. Увясьці гэтыя прапановы ў дзейнасьць з 1 кастрычніка 1928 году.

З лікy збытавых тавараў вызначыць да экспарту на суму ў 2.712 тыс. руб. супроць 1.135 тыс. руб. у 1927-28 годзе.

8. Накладныя выдаткі па ўсёй сыстэме ў адносінах да таваразвароту па прадажных цэнах прыняць у 3,33 проц. супроць 4,33 проц. у 1927-28 годзе. Накладаньне на тавары—5.55 проц. супроць 6,08 проц. у 1927-28 годзе ў адносінах да таваразвароту па прадажных цэнах.

9. Арганізацыйна-гандлёвыя выдаткі да звароту па прадажных цэнах па ўсёй сыстэме прыняць у 4,68 проц. супроць 5.96 проц. у 1927-28 годзе; па паасобных зьвеньнях Белсельсаюзу—2,1 проц., акрсельсаюзах--4,37 проц. і сельгаскрэдытных т-вах—7,7 проц. Капіталанамнажэньне (прыбытак) па ўсёй сыстэме прыняць у 0,86 проц. да таваразвароту; па паасобных зьвеньнях: Белсельсаюз—0,22 проц., акрсельсаюзы—0,93 проц. і сельгаскрэдытныя—т-вы—1,4 проц.

10. Кантрактацыю пасеваў на 1927-28 год прыняць у тысячах гэктараў: па ільнувалакну—30 гэкт., ільну-насеньню—12, ячменю для прамысловасьці—5, канаплі—1, бульбе—15, канюшыне—4, лубіну—3, сэрадэлі—0,5, лён-даўгунец—2 і кораньплоды—10 тон насеньня, на агульную суму валавое прадукцыі для збыта каля 5 млн. руб.

11. Для індустрыялізацыі, якая прадугледжвае ўкладаньне 2.431 тыс. руб. з уключэньнем уласных сродкаў 425 тыс. руб., а таксама агрыкультурных і культурна-асьветных мерапрыемстваў з затратай на іх сумы ў 305 тысяч рублёў—ухваліць.

12. Плян фінансаваньня мерапрыемстваў і працы, за выключэньнем уласных сродкаў, на 1928-29 год ухваліць у наступным выглядзе:

| | | |
|---|---|---|
| а) па таваразвароту | 2.765 | тыс. руб. |
| б) вытворчае фінансаваньне | 5.382 | " " |
| в) індустрыялізацыя | 2.006 | " " |
| б) кантрактацыя | 1.963 | " " |
| д) агрыкультурныя мерапрыемствы | 213 | " " |
| Усяго | 12.329 | тыс. руб. |

13. Вынікі апэрацыйнае працы для ўсяе сыстэмы да канца 1928-29 году з прыбытам у 620,8 тыс. руб. прыняць.

14. На падставе вышэй паданых паказальнікаў даручыць праўленьню Белсельсаюзу да 1 лістапада гэтага году скласьці арганізацыйна-вытворча-фінансавы плян у акруговым парэзе, які накіраваць акрсельсаюзам для кіраваньня ім, як лімітным матар'ялам у сваёй працы.

Устанавіць з боку праўленьня Белсельсаюзу сыстэматычны нагляд за выкананьнем усяе сыстэмы працы, якая прадугледжана плянам.

15. Каштарыс ухваліць з выдаткам на ўтрыманьне апарату—81 тыс. руб. і чысты прыбытак—185 тыс. руб.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## II сэсії савету Белкаапсаюзу па дакладзе аб загатоўках хлеба і сыравіны і аб экспарце

### Сэсія савету пастанаўляе:

### а) Па хлебазагатоўках

1. Пляны загатовак хлеба, памольнага збору і ільнонасеньня зацьвердзіць у наступных памерах:

Хлебазаготовак . . . . . . . . . . . . 1.020,0 пуд.
Памольнага збору . . . . . . . . . . 2 000,0 „
Ільнонасеньня . . . . . . . . . . . . . 230,0 „

Адначасова зацьвердзіць паданы праўленьнем Белкаапсаюзу плян разьмяркаваньня гэтых загатовак па саюзах и аддзяленьнях БКС.

2. Улічваючы выключнае значэньне хлебазагатовак у бягучым гаспадарчым годзе, лічыць неабходным устанаўленьне вышэйшымі звеньнямі для ніжэйшых памесячных плянавых заданьняў, абавязаўшы усе каапэрацыйныя арганізацыі да няўхільнага выкананьня гэтакіх.

3. Лічыць правільным пастанову праўленьня БКС аб выдзяленьні асоб, адказных за вядзеньне загатовак у саюзах; абавязаць саюзы ўскласьці пэрсанальную адказнасьць за выкананьне плянавых заданьняў па загатоўках на старшынь спажыўтаварыстваў—там, дзе гэта да гэтага часу не праведзена.

4. Адзначыць слабае разгортваньне загатовак у некаторых раёнах. Абавязаць арганізацыі гэтых раёнаў прыняць тэрміновыя меры да праверкі выкананьня дырэктыў, якія маюцца па загатоўках і безадкладнага адхіленьня ўсіх зьявішчаў, якія перашкаджаюць разгортваньню гэтае працы.

5. Адзначыць, што разгортваньне загатовак да гэтага часу ў асноўным праходзіць без ахопу глыбінных пунктаў.

Заўважаючы блізкі падыход бездарожжа і магчымае скарачэньне падвозу хлеба на рынкі, прыняць усе крокі да разгортваньня загатовак у адлеглых сельскіх мясцовасьцях.

6. Улічваючы, што асноўная маса ільнонасеньня павінна быць загатоўлена ў працягу кастрычніка-верасьня месяцаў, зьвярнуць выключную увагу на гэты від загатовак.

Адначасова даручыць праўленьню БКС паставіць перад НКГандлю пытаньне аб безадкладным вылучэньні дастаковае колькасьці алею для прэміраваньня здатчыкаў ільнонасеньня.

Прасіць НКГандлю БССР аб прыняцьці мер да хутчэйшае выдачы заводамі аналізаў і прыёмных квітанцый на семя, якое здаецца.

7. Канстатаваць, што ў справе арганізацыі памольного збору ўсё яшчэ наглядаецца цэлы шэраг недарэчнасьцяў (ухіленьне прыватных млынароў, а таксама калгасаў, саўгасаў ад падпісаньня дагавораў і выпадкі захаваньня млынарамі хлеба і г. д.)

Абавязаць усе арганізацыі ў працягу двухтыднёвага тэрміну скончыць працу па заключэньні дагавораў з млынарамі, устанавіць кантрольныя лічбы, выходзячы з вылічанага гадавога звароту НКФ, не паслабляючы кантроль; у тых выпадках, калі з боку млынароў будуць наглядацца выпадкі адмовы ад заключэньня дагавораў, або будуць выяўлены факты захаваньня хлеба,— безадкладна перадаваць справы у суд. Зьвярнуцца да ўраду БССР з прозьбай аб выданьні спэцыяльнае пастановы аб пазачарговым разглядзе гэтых спраў.

8. Улічваючы, што выдаткаваньне асноўнае масы памольнага збору прызначана для забесьпячэньня вясковае беднаты і рабочых, якія жывуць у раёнах, лічыць неабходным скараціць да мінімуму перакідку памольнаго збору з аднаго раёну ў другі.

9. Улічваючы, што як у справе разгортваньня загатовак, гэтак і ў зборы памольнага збожжа ўсё яшчэ не дасягнуты належны тэмп працы, лічыць мэтазгодным выезд шэрагу супрацоўнікаў БКС і акрсаюзаў на месцы для праверкі і ўзмацненьня ходу загатовак.

10. У мэтах стымуліраваньня паляпшэньня якасьці збожжа, якое сдаецца, лічыць неабходным ужываньне боніфікацыі і рэфакацыі, даручыўшы усім саюзам і аддзяленьням БКС безадкладна паклапаціцца інструктаваньнем і забесьпячэньнем нізоўкі патрэбнымі прыладамі для вызначэньня якасьці зерна, у першую чаргу у буйных спажывецкіх таварыствах.

11. Даручыць праўленьню БКС узьняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб павялічэньні банкавага крэдыту па фінансаваньні хлебазагатавок.

12. Установлены НКГандлем памер накідак ў 50 кап. на цэнтнер на пакрыцьцё ўсіх выдаткаў па загатоўках лічыць недастатковым. Даручыць праўленьню Белкаапсаюзу ўзьняць пытаньне аб устанаўленьні спэцыяльнае накідкі на канвэнцыйныя цэны пры перакідцы загатоўленага хлеба у іншыя раёны.

13. Улічваючы, што завоз круп з-за меж БССР будзе абмежаваны, лічыць не абходным большую частку загатаўляемае колькасьці аўсу і ячменю перараапрацаваць на крупы для забесьпячэньня насельніцтва. Таксама зьвярнуць асаблівую увагу на пераапрацоўку мясцовай грэчкі.

## б) Па завозу хлеба

1. Прыняць да ведама, што на 1928-29 г. завоз хлеба ў БССР з іншых раёнаў будзе вытвораны па лініі спажыўкаапэрацыі ў колькасьці жытніх і пшанічных адз.нак у памеры 9.000.000 пуд. і па лініі саюзхлебу ў памеры 2.000.000 пуд.

2 Лічыць правільным пасылку БКС шэрагу сапрацоўнікаў на месцы для адгрузкі хлеба, прапанаваўшы праўленьню БКСаюзу і ў далейшым, у выпадку неабходнасьці, практыкаваць гэтыя паездкі.

## в) Разьмеркаваньне хлеба

1 Зацьвердзіць плян разьмеркаваньня ўсіх хлебапрадуктаў па лініі рабочага сэктару ў памеры 4½ міл. пуд., па лініі сельскага сэктару і ільнаводных раёнаў 5,755 міл. пуд. і на стварэньне рэзэрваў ў памеры 1.200 000 пуд.

2. Лічыць неабходным прыступіць да стварэньня рэзэрвнага фонду з канца кастрычніка м-ца. Даручыць праўленьню БКСаюзу прыняць сваячасовыя меры да вызначэньня парадку захаваньня рэзэрваў і спосабу яго фінансаваньня.

3. Улічваючы неабходнасьць выключнага эканомнага выдаткаваньня хлебных запасаў, абавязаць усе арганізац і да стражэйшага захаваньня кантрольных лічбаў выдаткаваньня хлеба, якія ўстаноўлены Наркамгандлем і акркамгандлямі на мясцох.

## г) Па загатоўках сыравіны і экспарце

1. Канстатаваць, што ўдзельная вага спажыўсыстэмы ў загатоўцы сыравіны на бягучы гаспадарчы год ня толькі не скарочана, але па цэлым шэрагу прадуктаў значна павялічана і пашырана за кошт ахопу новых відаў сыравіны.

Адначасова адзначыць скарачэньне экспартнага пляну БКС супроць вызначанага на суму 773.000 руб у выніку адхіленьня спажыўкаапэрацыі ад непасрэднага экспарту па цэлым шэрагу сыравіны (шчаціна, пушніна і г. д.).

2. Паданы плян загатовак на суму 5.200.000 руб. і экспартны плян на суму 827.000 руб. з адпаведным разьмеркаваньнем іх па арганізацыях і відах сыравіны ў асноўным зацьвердзіць

3. Абавязаць праўленьне БКС не пазьней 2-хтыднёвага тэрміну заключыць дагаворы з арганізацыямі на здачу ім сыравіны непасрэдна неэкспартуемай спажыўкаапэрацыяй, прымаючы ўсе меры да забесьпячэньня належнага фінансаваньня гэтых загатовак.

4 Адзначаючы, што плян загатовак за мінулы 1927-28 гаспадарчы год выкананы ў памеры 119.7 проц. і плян экспарту ў памеры 97,4 проц., што зьяўляецца дастаткова здавальняючым, асабліва ў галіне выкананьня экспартнага пляну, абавязаць усе арганізацыі прыняць рашучыя меры да забесьпячэньня выкананьня плянагатовак і экспартнага пляну на 1928-29 г., устанавіўшы па іх парадак ужываньня плянавых месячных заданьняў і пэрсанальную адказнасьць таксама, як і па хлебазагатоўках.

5. Адзначаючы, што ў справе арганізаванага збыту другарадных відаў экспартнае сыравіны ўсё яшчэ наглядаюцца асобныя выпадкі сэпаратнага продажу гэтае сыравіны з боку некаторых арганізацый, даручыць праўленьню БКС ужываць да гэтакіх арганізацый меры фінансавага ўплыву аж да зачыненьня экспартных крэдытаў.

Адначасова абавязаць праўленьне Белк апсаюзу ўжыць усе захады да сваячасовае прыёмкі сыравіны якая загатаўляецца сыстэмай—арганізаваўшы асобнае хаваньне гэтае сыравіны ад сыравіны аддзяленьняў Белкаапсаюзу.

6 Улічваючы выпадкі ненармальных адносін. якія маюць месца ў загатаўцеляў гаміж сабою, што часта адбіваецца па ходзе загатовак, прызваць усе арганізацыі да безадкладнага адхіленьня гэтых зьявішч, зусім спыніўшы ўсялякія выпадкі нездаровае канкурэнцыі (падсужваньне, пераплаты і г. д).

## д) Па мясазагатоўках

1. Плян мясазагатовак і разьмеркаваньня яго паміж асобнымі арганізацыямі ў памеры 3 150 тон зацьвердзіць.

Лічыць. што згодна пастановы ЭКАНА самастойная загатоўка мяса цэрабкопамі вытвараецца ледзь у тых выпадках, калі іх попыт не здавальняецца асноўнымі загатаўцелямі.

2. Даручыць праўленьню Белкаапсаюзу і прэзыдыуму Белрабсэкцыі прыняць усе крокі да забесьпячэньня завозу мясапрадуктаў з Украіны ў памерах, зацьверджаных ЭКАНА (3.000 тон).

Адначасова даручыць праўленьню Белкаапсаюзу і прэзыдыуму Белрабсэкцыі забясьпечыць сваячасовае стварэньне рэзэрву сала ў памеры 250 тон.

3. Адзначыць, што фінансаваньне мясазагатовак вытвараецца ў парадку прадстаўленьня банкаўскага крэдыту і шляхам укладаньня сыстэмай сваіх сродкаў у памеры 63.000 руб.

Даручыць праўленьню БКСаюзу разьмеркаваць сродкі на мясазагатоўкі паміж асобнымі арганізацыямі прапарцыянальна ўдзельнай вазе іх загатовак.

Даручыць праўленьню БКСаюзу заключыць ген. дагавор з Белмясгандлем на пастаўку яму загатоўленага сыстэмай мяса, папярэдня разаслаўшы дагавор на заключэньне саюзаў.

### е) Па загатоўках бульбы

1. Плян загатовак бульбы і яго разьмеркаваньне паміж арганізацыямі у памеры 13.0 0 тон у асноўным зацьвердзіць.

2. Лічыць, што забесьпячэньне бульбай ЦРК павінна вытварацца ў парадку прымацаваньня іх да райсаюзаў.

3. Улічваючы неабходнасьць з агульнае колькасьці загатаўляемае бульбы стварыць вясеньні і летні рэзэрв для забесьпячэньня гарадоў у памерах да 400.000 пуд., абавязаць прэзыдыум Белрабсэкцыі і асобныя рабочыя каапэратывы паклапаціцца арганізацыяй захаваньня гэтага рэзэрву.

4. Улічваючы, што асноўная маса загатаўляемае бульбы будзе вытварацца ў бліжэйшыя месяцы, даручыць праўленьню Белкаапсаюзу тэрмінова паклапаціцца фінансаваньнем саюзаў на загатоўку бульбы ў памеры ўдзельнае вагі іх удзелу ў гэтай загатоўцы.

### ж) Агульныя заўвагі

1. Абавязаць усе арганізацыі безадкладна скончыць працу па праверцы апарату замяніўшы супрацоўнікаў, якія зьнімаюцца, больш працаздольнымі і ведаючымі справу.

2. Улічваючы, што як у пытаньнях хлебазагатовак, так і ў пытаньнях загатовак сыравіны сваячасовая дача ведаў надае выключнае значэньне для вучоту і нагляданьня за ўсім ходам загатовак, абавязаць усе арганізацыі к безадгаворачнаму і сваячасоваму прадстаўленьню гэтых зьвестак і папярэдзіць гэтакія арганізацыі, што ў выпадку недасылкі ў далейшым зьвестак, якія патрабуюцца, ў паказаныя тэрміны да іх будуць ужывацца адміністрацыйныя спагнаньні, аж да аддачы пад суд.

3. Адзначаючы, што ў пытаньнях загатовак сыравіны, асабліва сэзонных выключна важнае значэньне мае сваячасовая інфармацыя аб агульным ходзе загатовак, абавязаць арганізацыі і БКС узаемнай штомесячнай інфармацыяй аб гэтых загатоўках.

4. Улічваючы, што значная частка загатовак, якія вытвараюцца сельскім сэктарам спажыўкаапэрацыі, павінна быць рэалізавана ў парадку здавальненьня патрабаваньняў гарадзкога насельніцтва праз рабочую каапэрацыю, даручыць праўленьню БКС і прэзыдыуму Белрабсэкцыі адначасова з разгортваньнем загатовак па таму ці іншаму віду сельска-гаспадарчых прадуктаў улічваць патрабаваньне ў гэтых прадуктах з боку рабочае каапэрацыі ў мэтах сваячасовага іх забесьпячэньня.

---

# Пастанова

## 2-й сэсіі савету Белкаапсаюзу па дакладзе т. Хаскіна аб капітальным будаўніцтве спажыўсыстэмы,

### прынятая 14—15 кастрычніка 1928 г.

1. Распрацаваны плян капітальнага будаўніцтва па спажыўсыстэме на 1928-29 г. у асноўным прыняць. Па канчатковым высьвятленьні асыгнаваньняў на капітальнае будаўніцтва даручыць праўленьню ўнесьці ў плян адпаведныя карэктывы.

2. Абавязаць усе зьвеньні сыстэмы прадставіць БКСаюзу ў устанаўліваемыя ім тэрміны ўсе неабходныя матар'ялы з вычэрпваючымі абгрун аваньнямі па ўсіх відах капітальнага будаўніцтва, пры чым да арыэнтыроўкі БКСаюз паведамляць прыкладныя грашовыя ліміты, якія ўстанаўліваюцца для асобных арганізацый.

3. Праўленьню БКСаюзу безадкладна па афармленьні пляну будаўніцтва і канчатковага ўстанаўленьня разьмераў фінансаваньня сваячасова разьмеркаваць сродкі з такім рахункам, каб арганізацыі маглі сваячасова забясьпечыць будаўніцтва неабходнымі матар'яламі.

4. Канстатуючы, што існуючыя ўмовы арэнды, таксама і арэнднай платы вельмі цяжкія для сыстэмы, даручыць праўленьню БКСаюзу ўвайсьці з адпаведнымі меркаваньнямі ў урадавыя органы аб паніжэньні арэнднае платы да мэжаў, якія дапушчаюцца ўстаноўленымі нормамі страт зваротаў і палягчэньняў умоў арэнды ў сэнсе пераклданьня выдаткаў па рэмонту і пераабсталяваньню на ўласьнікаў памяшканьняў.

5. Даручыць праўленьню паставіць пытаньне перад урадавымі органамі аб перадачы каапэрацыйным арганізацыям у дармовае доўгатэрміновае карыстаньне складзкіх і крамавых памяшканьняў, якія патрабуюць буйных затрат на адбудаваньне.

6. Даручыць праўленьню БКСаюзу абгаварыць пытаньне аб магчымасьці прыцягненьня сродкаў на патрэбы капітальнага будаўніцтва спажыўкаапэрацыі.

7. Улічваючы, што вызначаныя памеры будаўніцтва крам ня вычэрпаваюць у бліжэйшыя гады ў поўнай меры пастаўленай задачы па ўздыму якасьці абслугоўваньня спажыўца, праўленьню БКСаюзу распрацаваць магчымасьць ужываньня сыстэмы перасоўнай крамы.

8. Даручыць прэзыдыуму Белрабсэкцыі і праўленьню БКСаюзу распрацаваць пытаньні аб будаваньні кухань-разьмяжавацеляў.

---

# Рэзалюцыя

## 2-й сэсіі савету Белкаапсаюзу па дакладзе т. Кумкеса аб пляне забесьпячэньня прамтаварамі спажыўкаапэрацыі на 1928-29 г.

Заслухаўшы даклад т. Кумкеса аб зваротах Белкаапсаюзу за 1927-28 апэрацыйны год і пляне забесьпячэньня на 1928-29 апэрацыйны год, сэсія савэту Белкаапсаюзу пастанаўляе:

1. Прапанаваць праўленьням БКС, АС і ЦРК у мэтах усебаковага здавальненьня спажывецкага попыту ня толькі ўзмацьніць працу існуючых асартымэнтаў, але і ўцягнуць у зварот новыя яшчэ не ахопленыя каапэрацыйнай сыстэмай групы тавараў і ў першую чаргу: мэблю, шорныя вырабы, шавецкую фарнітуру, лехі, шоўкавыя тканіны, швальныя машыны, музыкальныя інструмэнты, ваенна спартыўныя прылады, радыо-апаратуру, цацкі і інш.

Лічыць асабліва неабходным разьвіцьцё працы ЦРК з сель-гаспадарчымі прадуктамі, даводзячы ўдзельную вагу іх у звароце да нормы запраэктаваных кантрольнымі лічбамі Белкаапсаюзу (44,4 проц.)

2. Дасягнутыя БКС звароты ў 1927-28 г. (па папярэднім даным, у суме 86230 р. або 88,7 проц пляну і ўзросшыя на 70 проц. супроць 1926-27 г., лічыць здавальняючымі, асабліва прыймаючы пад увагу недавыкананьне гендагавораў па прамтаварах на 17,6 проц.

3. Звароты на 1928-29 г. апэрацыйны год, якія вылічаны па пляну ў суме 122.416 тыс. руб. зацьвердзіць і прапанаваць праўленьню БКС прыняць сваячасовыя крокі да забясьпечэньня выкананьня пляну.

4. Прызнаць, што ўзрост зваротаў БКС і плянаве забесьпячэньне спажыўсыстэмы ў значнай меры абавязаны наяўнасьці гендагавароў.

5. Ухваліць тэндэнцыю БКС да заключэньня гендагавораў па ўсіх прам. і сельгас. таварах.

6. Прапанаваць праўленьню БКС прыняць меры да найбольшага ахопу гендагаворамі пляну забесьпячэньня на 1928-29 апэрацыйны год, даводзячы гэтакі да 89,3 проц.

7. Прапанаваць праўленьню БКС дабівацца ў дагаворах забесьпячэньня выкананьня: адпаведнага асартымэнту, тэрмінаў адгрузкі, і ўхіляцца даваньня ільготных тэрмінаў па адгрузцы.

Раіць праўленьню БКС, па магчымасьці, пры заключэньні гендагавораў, дабівацца практыкі падэкадных (дзесяціднёвых) адгрузак.

8. Лічыць дасягнутыя нормы транзытнага завозу тавараў у РС і ЦРК цалкам здавальняючымі і прапанаваць БКС працягваць і ўзмацніць транзітныя адпраўкі.

9. Канстатуючы павялічэньне транзытнага завозу райсаюзамі ў спажывецкія таварыствы, даручыць гэтакім у працягу І кварталу прыняць меры да ўзмацненьня транзытнага завозу і зьніжаць процант камісійнае ўзнагароды на транзітныя адпраўкі для спажыўтаварыстваў.

Адначасова даручыць праўленьню БКС дабівацца пры заключэньні гендагавораў зьмяншэньня норм адгрузак, павялічэньня кола тавараў, завазімых франкастанцыя прызначэньня, і сваечасовасьці адгрузак у спажтаварыства.

10. Лічыць неабходным захаваньне складзкіх апэрацый БКС на 1928-29 апэрацыйны год для часткі зваротаў, па наступных таварах: галянтарэі, трыкатажу, шоўку, абутку, мяхоў, пісча-папяровых кніг, сухасадовіны, садовіны, рысу, пернасьці, сілікату і эмаліраванага посуду ў памерах, якія прадугледжаны гадавым плянам (6,4 проц.). Адначасова даручыць праўленьню БКС, выдзяліўшы асобна тавары, прызначаныя для забесьпячэньня спажтаварыстваў Менскага аддзяленьня, ўнясьці адпаведныя зьмены ў выдаткі каштарысу, калі гэта патрэбна будзе на ўтрыманьне працаўнікоў складу.

Рэўкамісіі ўдасканаліць неабходнасьць дадатковага павялічэньня проценту накладаньня па апэрацыях з акрсаюзамі і цэрабкопамі

11. Прапанаваць праўленьню БКС дабівацца максымальнага здавальненьня сыстэмы папярэдніх заказаў па гендагаворах, прадугледзіўшы, па магчымасьці, адначасовае атрыманьне ўсяго заказу, але з разрывам ня больш 3-х дзён.

12. Канстатуючы павялічэньне зваротаў БКС з мясцовай і саматужнай прамысловасьцю і яе ўдзельную вагу ў 1927-28 г. (16,9 проц.), прапанаваць праўленьню БКС кіравацца на 1928-29 апэр. год вылічаным плянам—17,7 проц. удзельнае вагі мясцовай прамысловасьці ў агульным таваразвароце.

13. Прапанаваць праўленьню БКС дабівацца прыстасаваньня асартымэнту, цэн і якасьці прадукцыі мясцовай прамысловасьці да патрабаваньняў рынкаў.

14. Прапанаваць праўленьню БКС дагаварыцца з Кусткаапэрацыяй аб заключэньні дагавораў па папярэдня-падгатоўчых узорах.

15. Улічваючы, што дэфіцытнасьць цэлага шэрагу сель.-гасп. і прамтавараў выклікае перабоі ў забесьпячэньні насельніцтва ў найбольш вострыя пэрыоды попыту, і што забясьпячэньне рэгулярнага снабжэньня магчыма толькі пры сваячасовым стварэньні рэзэрваў, сэсія савету БКС ухваліўшы практыку рэзэрваў, лічыць неабходным уперад стварэньне іх як па сельгас., гэтак і прамтаварах, пры ўмовах забесьпячэньня фінансаваньня рэзэрваў, якія ствараюцца, і пакрыцьця страт, якія зьвязаны з захаваньнем рэзэрваў.

16. Прапанаваць Праўленьню БКС каэфіцыенты разьмеркаваньня дэфіцітных тавараў між горадам і вёскай на I квартал 1928-29 г. зацьвердзіць.

Даручыць праўленьню БКС распрацаваць асновы вылічэньня ўдзельнае вагі гораду і вёскі для далейшага кіраваньня.

Прапанаваць Р. С., каб дэфіцытныя тавары скарыстоўваліся па прамому прызначэньню.

17. Коэфіціент разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў унутры рабочага і сельскага сэктароў зацьвердзіць

Даручыць праўленьню БКС карэктаваць адзначаныя каэфіцыэнты пакварптальна на падставе удзельнае вагі, якая зьмяняецца ў арганізацыях у паказацельніках.

18. Асноўваючыся на пастанове СНК СССР ад 7/VIII-28 г. аб мэтадах разьмеркаваньня дэфіцітных тавараў, даручыць праўленьню БКС удасканаліць свае ўзаемаадносіны з НКГ БССР.

19. Прапанаваць праўленьню БКС не пазьней 1 студзеня разьмеркаваць бонус паміж райсаюзамі і ЦРК.

20. Улічваючы, што ўмовы розьліку па дагаворах з прамысловасьцю за апошні час значна пагоршыліся, праўленьню БКС прыняць меры да зьмяншэньня умоў разьліку па гендагаворах.

21. Прымаючы пад увагу, што паданы банкаўскі крэдыт не забясьпечвае выкананьня поўнасьцю пляну, прапанаваць праўленьню БКС паставіць у адпаведных арганізацыях пытаньне аб павялічэньні банкаўскіх крэдытаў.

*Адказны рэдактар А. ФРИД*

*Выдавец—Цэнтральны Каапэрацыйны Савет БССР*

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1929 ГОД

## НА СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# „ПЛУГ“

Часопісь ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме азнаёміць наша сялянства з працамі дасьледчых станцый, працаю вучатковых аграномаў і зямельных працаўнікоў, дасягненьнямі сялян-дасьледчыкаў і гаспадароў-практыкаў, навінамі агранамічнай навукі і г. д.

Часопісь зьвязана з працаю Інстытуту сялян-дасьледчыкаў і з практычнаю працай сялян.

**У часопісі прымаюць удзел прафэсары, настаўнікі і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР і інш.**

### ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 3 м-цы . . . | — р. 60 к. | На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 9 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. | Паасобны нумар | — р. 20 к. |

Гадавыя падпісчыкі „ПЛУГА“ за 1929 год атрымліваюць у дадатак прэмію— 2 кніжкі па сельскай гаспадарцы, а паўгадавыя—1 кніжку.

Тыя-ж, хто ў 1928 г. ня выпісваў „ПЛУГА“, пры падпісцы праз рэдакцыю на ўвесь 1929 год, па іх згодзе, могуць атрымаць у прэмыю 6 кніжак, якія былі прэміяй у 1928 годзе.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: непасрэдна ў рэдакцыі „ПЛУГА“, на кожнай пошце, у кожнага лістаносца, у кожнага агранома і ў кожнай кнігарні.

---

РЭДАКЦЫЯЙ ЧАСОПІСІ „ПЛУГ“ ПРАВОДЗІЦЦА

## КОНКУРС НА ЛЕПШАГА ЗБОРШЧЫКА ПАДПІСКІ

**НА „ПЛУГ“ 1929 г.** Той, хто зьбярэ больш падпісак, атрымае прэмію.

Прэміі вызначаны як грашовыя, так і рознымі сельска гаспадарчымі машынамі, прыладамі, насеньнем, штучным угнаеньнем, прышчэпамі і інш.

КОЛЬКАСЬЦЬ І ПАМЕР ГРАШОВЫХ ПРЭМІЙ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| I. Адна на суму . . . . . . | 50 р. | III. 8 па 10 руб. на суму . | 80 р. |
| II. 4 па 15 руб. на суму . . | 60 „ | IV. 12 „ 5 „ „ „ . | 60 „ |

Усяго на суму грашовых прэмій . 250 р.

Прэміі рознымі сельска-гаспадарчымі рэчамі: плугоў—10, 1000 шт. прышчэп, асыпнікаў—5.

Прэміі выдаюцца зборшчыкам, якія дасылаюць падпіску непасрэдна ў рэдакцыю „ПЛУГ“, па адрасу: Менск, Савецкая, 71, НКЗ, рэдакцыя „ПЛУГ“.

Кожны зборшчык атрымлівае 10 проц. ад сабранай сумы падпіскі, незалежна атрымае ён прэмію, ці не.

Паміж хат-чытальняў, кіраўнікі і сябры якіх будуць прымаць удзел у распаўсюджваньні падпіскі, будзе разьмяркована літаратура на 100 руб.

---

Падпісацца на часопісь „ПЛУГ“ можна разам з газэтай „Беларуская Вёска“. Часопісь „ПЛУГ“ і „Беларуская Вёска“ каштуюць на месяц 30 к., а на год 3 р. 60 к.

Адрас газэты: „Беларуская Вёска“, Менск, Савецкая, 63.

Гадавыя камплекты „ПЛУГА“ за 1927-28 г. можна выпісаць за 50 проц. падпісной платы (1 р. 10 к. у год.) Заказы на старыя №№ „ПЛУГА“ і інш. выданьні НКЗ накіроўваць: Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва НКЗ.

ЦАНА 80 КАП.

Бюлетэнь каапэрацыйных цэнтраў Беларусі, Белсельбанку і Ўсекабанку

# „ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"** зьяўляецца адзіным друкованым органам **усіх відаў каапэрацыі Беларусі**.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"** **зьмяшчае кіраўнічы, інструкцыйны, даведачна-юрыдычны і інфармацыйны матар'ялы,** якія асьвятляюць дзейнасьць усіх відаў беларускае каапэрацыі.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"** мае наступную праграму: 1) кіраўнічыя артыкулы па асноўных пытаньнях усіх сыстэм каапэрацыі БССР; 2) каапэрацыйная практыка па розных чарговых пытаньнях каапбудаўніцтва; 3) інфармацыя аб працы ўсіх каапцэнтраў, акруговых каапарганізацый і ЦРК; 4) агляд становішча паасобных каапэрацыйных сыстэм па акругах; 5) афіцыйна-юрыдычны аддзел.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"** зьяўляецца настольным кіраўніком і пільна патрэбным даведнікам для кожнага каапэрацыйнага працаўніка.

**„ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"** выходзіць 1 раз у месяц і каштуе: на 1 мес.--40 к., 3 мес.—1 р. 20 к., 6 мес.—2 р. 25 к., 12 мес.—4 р. 25 к.

## ПАДПІСКА НА „ШЛЯХ КААПЭРАЦЫІ"

**прыймаецца ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях, усімі інструктарамі, а таксама ўсімі паштовымі ўстановамі Беларусі.**

**Рэдакцыя: Менск, Савецкая, 43. Бяг. рах. у Ўсекабанку № 117.**